Надрукавана ў друкарні
„ПАЛЕСДРУК", Гомель.
Зак. 3469—1600 экз.
Уп. Галоўлітбелу № 777

Зьмітрок Астапенка

# Вызваленьне сіл

*Раман*

## Частка першая

### I

Дужы, агніста-рыжы аранг-утанг біў валасатымі кулакамі сабе ў грудзі.

Ад гэтых удараў плыло гулкае рэха і заціхала ў змроку. Здавалася, нехта б'е ў вялізны тугі бубен, і гул бубна плыве здалёк праз густы лес трывожны і ўзбуджаны. Так некаторыя дзікія плямёны, б'ючы ў волатны бубен, падаюць за некалькі вёрст іншаму племю сыгнал ваеннае трывогі.

Бух... бух... бух...

Гулі рыжыя валасатыя грудзі.

Бух... бух... Гар-р-р... р-р... Ыі-і-і-й-я-а-а!

Рыжая поўсьць стаўбурчылася на дужым загрыўку. Маленькія яркія вочкі бліскалі пад моцнымі надброўнымі дугамі.

А-а-а!.. Р-р-р!.. Гха!.. Кха!.. Мр-р-р!..

З іклastага чырвонага роту ярасна ірваліся глухія нявыразныя ўскрыкі.

Бух!.. бух!.. бух!..

Рыжы аранг-утанг быў нечым дужа раззлаваны. Яго калматыя ногі спружыніліся, нібы рыхтуючыся скокнуць, рукамі ён біў у грудзі. Гостры зьвярыны пах вісеў у паветры душным і парным.

Бух... бух...

Грудзі гулі настойліва і грозна. Недзе ў цёмным кутку палахліва ўскрыкнула маленькая малпа. Піскнула нейкая птушка.

Твар аранг-утанга быў скрыўлены ярасьцю. Нос разьюшана чмыхаў. Цякла, пырскала з роту ліпкая сьліна.

Бух... бух... бух...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Зграбная прыгожая дзяўчына з залатымі валасамі тулілася да мужчыны перад клеткаю з аранг-утангам.

Выходзячы з Бэрлінскага заасаду, яны спыніліся перад ім і вось ужо колькі часу глядзелі на разьятраную малпу.

— Чаму ён такі раззлаваны, любы?—запыталася дзяўчына.

— Нейкі дурань парнуў яго парасонам праз краты.

Мужчына гаварыў з моцным акцэнтам. Ён няправільна вымаўляў па-нямецку і, гаворачы, падшукваў патрэбных слоў. Відаць, гэта быў чужаземец. Паміж чорных, шэрых гарнітураў наведвальнікаў заасаду нязвычна бялелася яго вышытая кашуля. Твар быў тонкі, кашчавы. На высокі лоб падалі русыя валасы.

Напэўна ў заасад ён пайшоў толькі дзеля дзяўчыны, бо зусім ня цікавіўся ім. Ён нецярпліва пазіраў на раззлаванага арангутанга і гладзіў загарэлаю грубаватаю рукою маленькую дзяўчыніну ручку, выглядаючы сам заклапочаным.

— Ну, пойдзем, Валер!—нарэшце сказала яна.

Яны вышлі разам з натоўпам на шумную вуліцу і пайшлі да вакзалу Зоо.

Па дарозе дзяўчына звонка сьмяялася і вясёла гаварыла са сваім спадарожнікам. Залатыя кучаравыя яе валасы рассыпаліся над лобам і яна лёгкім узмахам галавы папраўляла іх.

— Я не магла цябе дачакацца, Валер,—гаварыла яна.—Я лічыла кожны дзень, які заставаўся да твайго прыезду. А ты нядобры—спазьніўся на цэлы тыдзень!

— Ня мог, Эльза,—гаварыў мужчына.—Мяне затрымала віза. Але я таксама імкнуўся ў Бэрлін. Я сумаваў на радзіме па табе.

— І толькі адзін ліст за ўвесь час ад'езду?

— Я спадзяваўся хутка цябе ўбачыць, Эльза.

Савецкі інжынэр Валер Богуш, прысланы ў Бэрлін для паглыбленьня кваліфікацыі, толькі ўчора вярнуўся, адбыўшы кароткі водпуск у СССР. На радзіме, у беларускім калгасе, недзе на самай мяжы з Польшчаю, ён прабыў толькі тры тыдні. За гэты час, ён бадай адвык ад руху, шуму Бэрліну і цяпер з цікавасьцю ўзіраўся ў яго шумныя вуліцы.

Нейкім бязмэтным здаваўся гэты рух.

Горад шалёна імчаўся. Здавалася, вось ён адарвецца ў сваім буйным імпэце ад зямлі. Але і заўтра і пасьлязаўтра тыя-ж самыя пахмурыя канторы, высокія гатэлі, крыклівыя кафэ-шантаны, тэатры будуць стаяць на месцы, як стаялі. Тыя самыя людзі будуць праходзіць, імчацца па вуліцах, нясучы тыя-самыя клопаты, думкі. Богуш мацней сьціскаў Эльзіну руку. Ён ізноў адчуваў сябе самотным на гэтых вуліцах. Эльза нешта звонка расказвала яму. Аўто, пралятаючы па наглянсованым асфальце, заглушалі яе голас. Яна гаварыла галасьней, сьмяялася і Богуш, слухаючы яе, шчасьліва ўсьміхаўся.

Ён успомніў першае спатканьне з Эльзаю. Роўна год таму. Вялікая рабочая дэманстрацыя. Ён ужо ня помніць, з прычыны чаго яна была, бо трапіў туды выпадкова. Гэткі-ж сьветлы





сонечны дзень, гэткая-ж шырокая шумная вуліца. Але рух вуліцы меў тады інакшы сэнс. Гэта быў сэнс магутнага разьмеранага поступу.

Auf, auf zum Kampf,
zum Kampf!
Zum Kampf sind wir geboren...

Праходзілі Нэйкёльнаўскія рабочыя. Іхныя калёны былі густыя, строгія. Былі твары старыя, суровыя. Былі маладыя, узрушаныя, захопленыя рытмам песьні. Песьня ірвалася з сотняў вуснаў, хвалявалася між пахмурых камяніц разам з яркімі чырвонымі сьцягамі.

Auf, auf zum Kampf, zum Kampf!..

Богуш ня помніў усіх слоў песьні. Ён толькі помніць, што яе рытм і рытм хады цягнуў яго. Хацелася ўвайсьці ў самую гушчу дэманстрацыі, пайсьці разам, крычаць, сьпяваць чужыя і разам з тым блізкія словы суровай песьні:

Auf, auf zum Kampf,
zum Kampf!
Zum Kampf sind wir geboren...

І раптам нешта парушыла хаду шэрагаў. Пярэднія калёны замарудзілі крок. Заднія наперлі, шэрагі згусьціліся, згубілі парадак. Рытм песьні парушыўся. Спачатку Богуш не разумеў, у чым рэч. Нарасталі абураныя крыкі, выгукі. Песьня змаўкала і зноў разрасталася, грозная, гучная. Сьцягі хваляваліся, зьнікалі ў натоўпе і зноў узьнімаліся над ім. Потым Богуш заўважыў наперадзе калёны, у натоўпе каля шэрагаў частыя фігуркі шуцманаў. Яны былі ўзброены гумавымі дубінкамі. Паліцыя разганяла дэманстрацыю.

Рабочыя адбіваліся, там-сям завязваліся бойкі. І вось Богуш убачыў... На гэты малюнак ён ніколі ня мог забыцца. Прысадзісты, з чырвоным ад натугі тварам шупо стараўся адабраць у дзяўчыны сьцяг. Дэманстрантка з залатымі валасамі і гнеўным прыгожым тварам распачліва адбівалася, не аддавала сьцягу. Часам натоўп затуляў яе ад Богушава позірку, потым Богуш ізноў бачыў яе ўсё яшчэ са сьцягам у руках.

І раптам Богуш убачыў, як шупо дубінаю з размаху ўдарыў дзяўчыну ў твар. Раз... яшчэ раз... яшчэ... Натоўп на хвіліну

[1]) Паўстань, паўстань на змаганьне,
на змаганьне!
На змаганьне мы народжаны...
(з песьні Рот Фронту).

затуліў яе, і потым ужо Богуш убачыў, як дзяўчынка з залатымі валасамі выйшла з шэрагаў і прытулілася да вулічнага дрэва. Кроў залівала ёй твар.

І тады Богуш кінуўся да яе. Вуліца грымела крыкамі роспачы, злосьці, абурэньня. Яе рытм поступу быў парушаны, абарваны. Людзі прабягалі, падалі, крычалі. А над імі падымаліся гумавыя дубінкі.

Калі Богуш вёз у таксі дзяўчыну з залатымі валасамі, яму ў сэрца стукала гострая радасьць. Можа таму, што ён дапамог гэтай дзяўчыне? Але яна была зусім спакойна. Яна сказала яму свой адрас і ўсю дарогу маўчала, прыціскаючы да галавы хустачку.

У рабочым квартале Нэйкёльну Богуш дапамог дзяўчыне ўзыйсьці па стромкай лесьвіцы да яе кватэры. Там ён разьвітаўся з ёй і працягнуў руку. Дзяўчына падзякавала за дапамогу і сказала сваё імя. І калі даведалася, што Богуш савецкі інжынэр, яна моцна паціснула яму руку і проста сказала:

— Я ўпэўнена, што мы будзем з вамі знаёмымі.

Так пачалося іхнае знаёмства. Дні Богушавы былі потым абʼясьнены кароткімі сустрэчамі з ёю. Богуш хутка зразумеў, што пакахаў яе. Зразумела і яна. І недзе ў глыбіні душы Богуш расьціў надзею, што, вяртаючыся ў СССР, ён паедзе не адзін. Тым часам да адʼезду заставалася мала. Яго навучаньне ў Бэрліне ішло да канца.

Ідучы цяпер з ёю, ён хацеў сказаць пра гэта, але прамаўчаў. Хацелася ісьці моўчкі і слухаць жвавую Эльзіну гаворку. Час ад часу ён прасіў яе гаварыць павольней. Ён ня зусім яшчэ добра валодаў нямецкаю моваю.

На рагу яны ўзялі таксі і ўліліся ў жывы струмень вуліцы. Паляцелі міма аўто, трамваі. Замільгаў шумны натоўп.

Горад быў поўны нявыразным глухім гулам.

У кафэ на Кюрфюрстэндам грала музыка. Было поўна людзей. Богуш ледзь знайшоў вольны столік. Зараз-жа падыйшоў і далікатна схіліўся белагруды кэльнэр.

— Кава. Шлагзанэ.

— Гэта табе шлагзанэ, Эльза!

І засьмяяўшыся Богуш сказаў:

— Здаецца, кожны прыстойны немец, калі ён захоча быць далікатным і шчодрым, заказвае яго для свае дзяўчыны. Што да мяне, дык я не асаблівы прыхільнік гэтых узьбітых сьлівак.

— Ты занадта ўжо зьдзекуешся з немцаў!—засьмяялася Эльза.

— І маю рацыю,—адказаў Богуш,—бо Нямеччына стварыла маю паважаную фраў Амалію...

— Хто гэта?—са сьмехам запыталася Эльза.

— Гэта мая кватэрная гаспадыня. Калі я выходжу з дому, яна акуратна запытвае: „Куды, калі вярнуся“... і прымушае вывешваць над дзьвярыма цэтлік: „Дома няма. Вярнуся а такой вось гадзіне“. Ключы павінны заўсёды быць на сваім цьвіку, прычым не на шнурку, а на колцы ключа, бо шнурок ператрэцца і могуць пагубляцца ключы. Курыць яна мне дазваляе толькі на тым крэсьле, пад якім падасланы лінолеум. У госьці да мяне могуць прыходзіць толькі мужчыны, ды й тое не часьцей як раз на тыдзень...

Богуш жартаўліва ўздыхнуў.

— „Расійцы—кажа яна—неакуратныя“. Я ёй казаў, што я беларус. Яна памаўчала і гэтак аўтарытэтна сказала: „Гэта ўсё роўна—ці белы, ці проста рус“.

Эльза адкінулася на сьпінку крэсла і залілася сьмехам.

Залатыя кудзеркі вясёла дрыжэлі над яе лобам.

Грала ў канцы залі музыка. Бравурны матыў ліўся, гойсаў і ніяк не запамінаўся.

— Добры вечар, гэр Богуш!

Да століка падыйшоў высокі, гладка паголены чалавек у шэрым. Ён працягнуў руку Богушу. Богуш стрымана паціснуў яе.

— Будзьце знаёмы, Эльза,—сказаў Богуш,—гэр Оскар Штальман—мой калега па лябараторных занятках.

— Эльза Імэрман.

У Эльзы зьмяніўся твар, калі яна пачула прозьвішча Штальмана. Яна з няпрыязьню зірнула на яго, але Штальман нічога не заўважыў. Ён сеў на прапанаванае крэсла і сказаў Богушу:

— Я тут чакаю аднаго чалавека. Хутка ён павінен прыйсьці Вы даўно прыехалі, гэр Богуш?

— Толькі ўчора.

Оскар Штальман быў яшчэ зусім малады чалавек. Але твар з падстрыжанымі нагала скронямі быў халодны, замкнёны. Паміж зьмяістых броў глыбока пралягала складка, і вочы глядзелі холадна, старожка і пільна. Абыякавыя тонкія вусны часта зьбягаліся ў сваяасаблівую грымасу. У ёй была хцівасьць, захаваная насьмешка. І ўвесь ён быў стрыманы, замкнёна далікатны, да нечага падрыхтаваны. Эльза стрэлася з ім позіркам і адразу адвяла вочы. Зрабілася няёмка, згубілася роўнавага, вясёласьць.

— Як прабавілі час, гэр Богуш?—пытаўся тым часам Штальман. Ён круціў у руках тоўсты чорны кій і нецярпліва аглядаў кафэ. Чалавека, якога ён чакаў, усё яшчэ ня было.

Хутка яны распачалі гутарку на тэхнічныя тэмы, і Эльзе зрабілася сумна. Яна нічога не разумела ў незнаёмых тэрмінах, лічбах, разьліках. Шпаркі халодны позірк, які час ад часу кідаў на яе Штальман, трывожыў, пакідаў няпрыемныя пачуцьці.

— Між іншым, гэр Штальман,—раптам успомніў Богуш,—зусім забыўся сказаць вам пра адну рэч. Я прывёз з радзімы адзін цікавы навуковы дакумант. Там трактуецца пра атамы.

Здаецца, вы цікавіцеся гэтым. Сам я там не магу разабрацца, і быў-бы вельмі ўдзячны, калі-б вы дапамаглі.

Штальман зацікаўлена зірнуў на яго.

— Гэта частка нейкага навуковага трактату,—гаварыў далей Богуш,—які мне перадаў адзін мой таварыш на радзіме. Ён расказвае пра яго нязвычайныя рэчы, у якія я, сказаць па-праўдзе, ня веру. Але рукапіс цікавы...

І, раптам наважыўшыся, Богуш прапанаваў:

— Ведаеце, гэр Штальман, што? Зайдзеце калі-небудзь да мяне, я вам усё раскажу і мы разам разьбярэм рукапіс.

Штальман хвіліну падумаў і сказаў:

— Добра. Я зайду да вас пятнаццатага ўвечары. Дайце ваш адрас.

Богуш напісаў яму свой адрас і аддаў. Зноў пачалася гутарка нудная і няцікавая для Эльзы. Яна пачынала ўжо злаваць на Валера.

— „Чаго ён сябруе з ім?"—думала яна.

Эльза толькі зараз заўважыла ў руках у Штальмана тоўсты, з чорнага дрэва кій, які ён нэрвова круціў тонкімі пальцамі. Кій канчаўся срэбнаю галоўкаю зьмяі. Зьмяіная луска цьмяна бліскала на сьвятле. З разяўленае пасткі хціва высоўвалася джала. Бліщчэлі ярка-чырвоныя рубінавыя вочкі.

Ёй зусім зрабілася не па сабе. Хацелася пайсьці ад халодных вачэй, ад хцівага твару Штальмана.

— Мне час ісьці, Валер!..—нарэшце сказала яна і ўстала. Штальман абыякава зірнуў на яе і падняўся з крэсла. Богуш працягнуў яму руку і сказаў, разьвітваючыся:

— Пятнаццатага а дзявятай я вас чакаю, гэр Штальман.

— Так, я абавязкова прыду.

Штальман пакланіўся і далікатна пацісную руку Эльзе.

## II

На Потсдамэрпляцы, за люстранымі шклами вялікае вежы, паліцыянт запальваў і тушыў круглыя агні—чырвоныя, сінія, белыя.

Машыны, аўтобусы, трамваі з трохзначнымі нумарамі наплывалі на плошчу, цісьнуліся адзін на адзін, расштурхоўвалі натоўп. Паліцыянты сыгналізавалі ім пераноснымі сэмафорчыкамі падобнымі да чыгуначных. Каля гэтых сэмафорчыкаў шуцманы былі неяк менш грознымі і здаваліся клапатлівымі мірнымі стрэлачнікамі.

Выліваючыся на Потсдамэрпляц, лавіна машын расплывалася нястрымнаю паводкаю. Здавалася, вось-вось аўтобусы палезуць на ходнікі, людзі заблытаюцца ў колах трамваяў, усё пераблытаецца, саб'ецца ў клубок, якога да раніцы не разматаюць стрэлачнікі—шуцманы.





Але за люстранымі шкламі вежы міргаюць круглыя агні—сінія, белыя, чырвоныя—і возера машын выліваецца з пляцу ва ўсе бакі—на Потсдамэрштрасэ, на Кёнігрэтцэрштрасэ, на Ляйпцыгэрштрасэ, коўзаючыся па рэйках, націраючы пнэўматычнымі шынамі бліскучы асфальт.

Бясконцая лавіна калыхалася на кароткай Будапэштштрасэ і, дайшоўшы да Брандэнбургскіх брам, рэзка паварочвала—адзін ручай у густую зеляніну Тіргартэну, другі—на Унтэр-дэн-Ліндэн. Там наглянсованы шынамі люстраны асфальт раптам ператвараўся ў вэнэцыянскія воды і адлюстраваў у сабе чатыры рады ліп і каштанаў, высокія гатэлі, арсэнал, унівэрсытэт, бывалешнія палацы кайзэра.

На Потсдамэрпляцы за люстранымі вокнамі вежы паліцыянт прымаў шумлівую плынь машын і выліваў яе ў вуліцы, што разыходзіліся з пляцу.

На трамвайных правадох, на дратох, працягнутых на перакрыжаваньнях вуліц павісьлі даўгаватыя трохкаляровыя ліхтарыкі з мноствам круглых бліскучых вочак Кожнае вочка затулена чорнымі шчыткамі, як даўгімі вейкамі. Дванаццаць агнёў рознымі колерамі ўспыхваюць і гаснуць, падміргваючы натоўпу вячорных бэрлінскіх вуліц.

Каля Потсдамскага вакзалу Эльза падала Богушу руку, разьвітваючыся.

— Ты сёньня быў дужа няўважлівы да мяне,—сказала яна. Мы так доўга ня бачыліся, а ты гэтак заняўся гутаркаю са Штальманам, што забыўся на мяне, там, у кафэ.

— Ты злуешся?

Богуш шчыльней прыцягнуў яе да сябе і пачаў апраўдвацца:

— Я маю дужа цікавы навуковы рукапіс, але сам не магу ў ім разабрацца. А Штальман у тэй справе, пра якую гаворыць рукапіс, моцны.

— А ты ведаеш, хто гэты Штальман?

Эльза запыталася сур'ёзна, і Богуш зьдзіўлена зірнуў на яе.

— Не,—нерашуча сказаў ён,—мы з ім разам працуем і толькі. Звычайна, я ня маю з ім блізкіх адносін і зусім яго ня ведаю.

— А я ведаю,—няпрыязна сказала Эльза.—Гэта, калі я не памыляюся, сын Фрыдрыха Штальмана, аднаго з уладароў заводу, на якім працуе брат. Там цяпер якраз забастоўка.

— Праўда? Я гэтага ня ведаў!

— Раю табе быць асьцярожным, Валер,—сказала Эльза.— Навошта ты яго запрасіў да сябе? І што за рукапіс, які ты думаеш з ім разглядаць?

— Рукапіс гэты, я ўпэўнены, ня мае ніякае важнасьці,—сказаў Богуш.—Мне проста было-б цікава разглядзець яго з ім. Ён мне можа памагчы.

— Ты дужа даверлівы, Валер,—з дакорам сказала Эльза.— Але бывай, любы! Цягнік прыйшоў ужо. Мне трэба а дванаццатай быць у Нэйкёльне. Брат будзе чакаць.

Богуш затрымаў яе маленькую руку ў сваёй.

— Чакай. Я маю табе сказаць сёньня нешта дужа важнае... Я думаў пра гэта на радзіме ў СССР і наважыў, прыехаўшы, сказаць табе.

Эльза ўся падалася да Богуша, проста зірнула яму ў вочы. Па залатых валасох, па строга акрэсьленых маленькіх вуснах бегалі зданьнёвыя бляскі вячорных агнёў.

— Праз тры месяцы я павінен паехаць назаўсёды туды, на радзіму, у Савецкі саюз,—паволі гаварыў Богуш.

Эльза ўздрыгнула і нізка схіліла галаву.

— Я ведаю гэта...—прашаптала яна,—і ня вырашыла яшчэ да канца, як зрабіць.

— Ты павінна паехаць! Гэта было-б недарэчна, калі-б ты не паехала!

— Тут так многа працы, Валер,—ціха сказала Эльза,—я адчуваю, што наперадзе будзе яшчэ больш. Ты ня ведаеш, Валер, што робіцца ў рабочых ваколіцах, у нас у Нэйкёльне, у Вэдынгу.

І, памаўчаўшы, ціха дадала:

— Учора фашысты зьбілі Ганса Курта... Я табе забылася сказаць пра гэта. Яны злавілі яго з лістоўкамі. Нам трэба быць напагатове. Як-жа я паеду? Кінуць усіх нашых?

— У Савецкім саюзе ты ня будзеш чужою, Эльза!—упікнуў Богуш—І мне будзе цяжка без цябе,—цішэй дадаў ён.

— Ну вось і глупства! У цябе будзе шмат працы. Вам там патрэбны інжынэры. І наогул у нас яшчэ тры месяцы. Яшчэ шмат чаго можа быць...

— Напрыклад—рэвалюцыя ў Нямеччыне?—засьмяяўся Богуш. Тады я застаюся тут.

— Ты павінен ехаць. Ты патрэбен там. Гэтак-сама патрэбен, як я тут.

Богуш ласкава ўзяў Эльзіну руку і сьціснуў у сваёй.

— Ты гаварыла з братам?

— Не яшчэ. Ён сам даўно ўжо ведае.

— Ну і што?

Эльза, як-бы жартам, сказала:

— Ён неяк сказаў мне: „Мы тваё вясельле справім у чырвоным клюбе машынабудаўнічага заводу Фройнда. Толькі да таго часу завод будзе ня Фройндаў, а наш“. І дадаў, што ён, Макс Імэрман, пастараецца, каб гэта вясельле адбылося як хутчэй.

Богуш усьміхнуўся.

— Я даўно ўжо ня бачыў Макса. Перадай яму вітаньне і скажы, што я днямі зайду да яго.





Ярка пыхнуў сыгнал. Каля вакзалу спыніўся электрацягнік. Забегалі людзі. Потсдамскі вакзал зрабіўся яшчэ шумнейшым. Ён напоўніўся да краю жаночым сьмехам, тлумам, гамонкаю.

Эльза, разьвітваючыся, прытулілася да Богуша і адыйшла.

Успыхнулі каляровыя агні. Прагучэлі званкі. Замітусіўся і пачаў раставаць натоўп. Тоўсты спакойны шуцман стаў пры выхадзе, паважны і нярухомы.

Над Бэрлінам плыў вячорны трывожны гул.

## III

На заводзе Штальмана ўжо чацьвёрты дзень ішла забастоўка.

Стары Фрыдрых Штальман з нецярплівасьцю чакаў у асабняку на Кюрфюстэнштрасэ сына. Ён быў устрывожаны і ўзнэрвованы. Становішча рабілася ўсё больш небясьпечным.

Стары Штальман падыходзіў да тэлефону і пытаўся ў трубку:

— Ну як?—І трывожна слухаў.

З трубкі нечы лагодны голас адказваў:

— Бяз зьмен... Але ёсьць надзеі... Правадыры выяўлены... Мы дзейнічаем... Не хвалюйцеся.

І Фрыдрых Штальман ізноў пачынаў чакаць сына. Ён адчуваў сябе самотным. Аркуш „Berliner Börsen Zeitung“ нярухома ляжаў на тоўстых мяккіх каленях. У роце гасла сыгара (Фрыдрых Штальман заўсёды выпісвае іх з Гамбургу).

Ён хацеў бы пагаварыць зараз з сынам. Расказаць пра новыя ўчынкі нахабных Нэйкёльнаўскіх камуністаў. Пахваліць слаўных малайцоў са Штальгольму. Даведацца пра біржавыя навіны. Распытваць пра сынавы навуковыя заняткі.

Калісьці Фрыдрых Штальман быў зусім ня тым, чым ён ёсьць цяпер.

Да 1914 г. ён працаваў нікому невядомым асыстэнтам у хэмічнай лябараторыі ў Нэйкёльне. Чыгуначныя склады, вадакачкі Гляйздрайку, цяжкія сьцены фабрычнага Моабіту праходзілі праз яго жыцьцё. Тады Штальман ня марыў нават пра асфальтавае люстра Унтэр-дэн-Ліндэн, пра пыхлівыя віллы і асабнякі. Беднасьць жорстка заціскала сям'ю Штальманаў. Але сын упарта вучыўся, рыхтуючыся ў інжынэры. Фрыдрых Штальман зьбіраў пфэніг да пфэніга і... у чатырнаццатым годзе раптоўнае багацьце, нечаканае шчасьце. Праўда, яно здабыта было ня зусім сумленна, але хто пра гэта ведае?

Фрыдрых Штальман ня любіць успамінаць пра гэты год. А тым часам тады пачаўся ягоны рост. Гады вайны толькі дапамаглі. Вайну людзі звыклі ўспрымаць як страшэннае пудзіла, крывавую вакханалію, развал, зьбядненьне. Дарэмна, зусім дарэмна! Праўда, за час вайны Нямеччына згубіла амаль усё. Голад сьці-

снуў рабочыя ваколіцы. Але разумнаму чалавеку можна было пажывіцца з вайны. Вайна дала Фрыдрыху Штальману ўсё, што ён цяпер мае.

З 1914 году пачаўся яго рост. У гэтым годзе Фрыдрых Штальман, нікому невядомы працаўнік хэмічнае лябараторы ў Нэйкёльне, зрабіў выдатную вынаходку. Яна дала яму першы капітал, першую цагліну ў падмурак, з якога пачаўся буйны нястрыманы рост Фрыдрыха Штальмана.

У 1914 годзе ў хэмічнай лябараторыі, дзе марнеў Фрыдрых Штальман, працаваў адзін дзівакаваты стары прафэсар. Казалі, што ён працуе над вялікаю навуковаю праблемаю. Калі-б прафэсар разьвязаў яе, дык ён перавярнуў-бы ўвесь сьвет.

Быў ён надзвычай маўклівы і замкнёны. Шмат хто лічыў яго за вар'ята. Але былі чуткі, што ў навуковых колах прафэсарава імя вымаўляюць з павагаю і яшчэ часьцей са спачуваньнем. Сваю маёмасьць прафэсар усю патраціў на шалёныя досьледы, і ніхто больш не хацеў яму дапамагаць. Мабыць таму ён прапанаваў свае паслугі хэмічнай лябараторыі ў Нэйкёльне.

Дык вось гэты прафэсар зрабіў выдатную каштоўную вынаходку. З прафэсарава падзёртага партфэлю яна трапіла ў рукі будучага волата Фрыдрыха Штальмана, каб пакласьці першую цагліну яго росту. Хутка Штальман узяў патэнт на сваю вынаходку. Стары прафэсар прышоў у лябараторыю змучаны і яшчэ больш замкнёны. Фрыдрых Штальман стараецца не ўспамінаць пра тую цяжкую гутарку, якая адбылася паміж ім і старым дзіваком-прафэсарам. Прафэсараў твар пакутліва крывіўся і дрыжэў. Ён быў больш зьдзіўлены, чым прыбіты прапажай вынаходкі.

— Вам ніхто не паверыць! Зразумейце гэта—ніхто не паверыць, што вы вынайшлі!—гаварыў ён Фрыдрыху Штальману.

Але-ж паверылі. Прафэсар ня здолеў давесьці свайго права на вынаходку, а можа не захацеў. Неўзабаве пасьля гэтага ён выехаў з Бэрліну кудысьці ў свой мізэрны маёнтачак у расійскай Польшчы. Больш пра яго ніхто ня чуў. Жалезнаю ступою прайшла вайна і зьмяла старога прафэсара.

У прафэсара застаўся сын. Гаварылі, што яго ўзяў да сябе вядомы бэрлінскі вучоны Стронг, бацькаў таварыш. Фрыдрых Штальман не хацеў успамінаць пра гэта. Усякія думкі пра мінулае ён упарта адганяў. Няма ніякага мінулага! Ёсьць сягонешні славуты Фрыдрых Штальман:

І зноў зьнімаў стары Штальман слухавую трубку. Узнэрвавана і злосна пытаўся.

І чуў лагодны адказ:

— Яны здорава трымаюцца... Але дармо—мы дзейнічаем.





А палове на дзесятую пад'езды гранітнага кіно-тэатру „Уфа-Палас" распухлі ад натоўпу. Ён сыходзіў па каменных сходках, расплываўся на плошчах, урываўся звонкаю гамонкаю ў вячэрнюю мітусьню вуліц. Трамваі, аўто, таксі навыперадкі разьбіралі людзей. Панэлі прынялі новыя ручаі і пагусьцелі ад гэтага, а вуліца зрабілася яшчэ шумнейшаю, жвавейшаю, поўная да краёў вячорным гулам.

І дрыготка трымцелі над ёю—сінія, белыя, апэльсінавыя агні—контуры гранітнага кіно. Агністыя зігзагі літараў беглі ўспышкамі па шчыце даху. Яны, здавалася, хацелі адарвацца, разагнаўшыся, паплысьці над вячорным Бэрлінам бадзягаю—рэклямаю, жартаўліваю гульнёю сьвятла.

Але, разагнаўшыся, згасалі і йзноў нараджаліся, жоўтыя, сінія, апэльсінныя. Спакойна над уваходам палала назва фільму.

Оскар Штальман выбіўся з густога натоўпу і паклікаў таксі. Запальваючы сыгару, сказаў шофэру адрас і дадаў:

— Кафэ Вільгельма... Хутка!

Мякка зашумелі шыны. Замільгалі вячорнія агні.

У кафэ Вільгельма, насустрач Оскару Штальману, падняўся з-за століка ў кутку прысадзісты пахмуры чалавек. Ён далікатна выцягнуўся перад ім і сказаў:

— Усе ў зборы, гэр Штальман. Даўно чакаюць вас.

Гэр Штальман адчыніў дзьверы ў асобны габінэт кафэ. Адтуль вырваўся шум галасоў і спрэчак, але дзьверы зачыніліся і звонка бразнуў ключ.

У кафэ мяккай грала музыка. З вуліцы ўрываўся гоман, сырэны аўто.

Бэрлін пачаў жыць ночным жыцьцём.

## IV

У той самы дзень у сям'і Імэрманаў здарылася няшчасьце.

Эльза вярнулася з работы позна і не застала ў дварэ брата. Стары Імэрман быў у кватэры адзін... Ён моўчкі курыў сваю люльку, уставіўшыся сьляпымі вачыма ў падлогу.

Вочы стары Імэрман згубіў на франтох пад Вэрдэнам. З вайны ён вярнуўся зранены, атручаны газамі.

На рып дзьвярэй Імэрман павярнуўся і абыякава сказаў:

— А, гэта ты, дачка? А Макса няма...

І зноў пачаў цягнуць люльку, нешта ўважліва разглядаючы за вакном нявідушчымі вачыма.

— Ён сказаў, што вернецца позна...

Эльза клапацілася каля газавае пліткі, гатуючы вячэру. На жоўтай камодзе ляжалі, неахайна кінутыя, яе шапачка і рабочая блюзка.

У пакой убегла гаманлівая суседка Марта, жонка мэталіста Тэо.

— Вечар добры, дзядзя Імэрман! А Макс пайшоў разам з маім да старога Фуса. Там сёньня мае быць сход. Бадай што вернуцца позна.

— Яны зусім ачмурэлі, гэтыя чэрці!—сказала яна Эльзе праз нейкі час.—Пачалі ўжо высяляць за нявыплат кватэрных грошай. Можа яны гэтым думаюць сарваць забастоўку?

— Ну, гэта ім ня ўдасца!—кінула ў адказ Эльза.

Марта паківала галавою і сказала:

— Ня ведаю, што будзе. Яны нешта рыхтуюць. Гэта ўсе нашы ведаюць.

Эльза клапацілася каля вячэры і на хаду адказвала Марце.

— Крывога Крафта ўчора высялілі! Ты ведаеш пра гэта Эльза? З чатырма малымі выкінулі на вуліцу! Нічога не дапамагло—ні просьбы, ні сьлёзы.

— Яны ведаюць, каго высяляюць!—прахрыпеў з крэсла стары Імэрман.

Эльза раптам ускінула твар і закрычала на Марту:

— Так, яны ведаюць, каго высяляць! Крафта арыштавалі першага мая? Курт за выступленьне сядзеў? Вось, глядзі—іх ужо няма ў Нэйкёльне. Іх выселілі за нявыплат кватэрных грошай! Дурная ты, Марта! Ня ў тым рэч! Яны хочуць ачысьціць Нэйкёльн ад камуністаў! Яны баяцца ўзяць адразу, ловяць, вырываюць па частках.

Эльза расчырванелася, валасы ў яе раскідаліся, і ўся яна зрабілася злоснаю і суроваю.

— Я-ж ведаю!—загаварыла Марта:—у Вэдынгу тое самае. На рабочы Вэдынг яны даўно ўжо вострацъ іклы. Там так проста бяз прычыны выкідваюць і на месца выселеных усяляюць фашыстаў.

Марта доўга яшчэ гаварыла, і стары Імэрман, схіліўшыся над сталом, прыслухоўваўся да яе выкрыкаў. Ён усё глядзеў сьляпымі вачыма на агонь. На стале перад ім стыгла, спускаючы белую пару, шклянка кавы.

Калі Марта зьбіралася ўжо выходзіць, на сходках лесьвіцы за дзьвярыма пачуўся цяжкі тупат ног, прыглушаныя галасы і гоман. Людзі марудна ўзьбіраліся па сходках, нібы несьлі нешта цяжкае. Былі чутны заглушаныя галасы:

— Цішэй ты... Асьцярожна!

Калі адчыніліся дзьверы, у пакой увайшоў стары Фус і, зьняўшы шапку, прывітаўся.

— Добрага вечару, Імэрман! Ты пазнаеш мяне? Гэта я, Фус.

І неяк вінавата, з-пад ілба, зірнуў на Эльзу. Але каля яго ўжо стаяў высокі кашчавы Тэо і горача гаварыў:

— Ты ня бойся, Эльза... Страшнага нічога няма... Проста была сутычка... Напалі фашысты. Ну і... Макса крыху таго...





Эльза з крыкам кінулася да людзей. Яны асьцярожна ўнесьлі ў пакой і паклалі на ложак Макса.

Ён быў няпрытомны. На разьбітай скроні запякліся згусткі крыві. Вопратка была падзёрта і з пашматованага правага рукава, сьцякаючы па пальцах, капала на падлогу кроў.

Марта з размаху кінула на падлогу чайнічак і закрычала на Эльзу:

— Хутчэй! Давай цёплае вады! Трэба перавязаць—ён крывёю сходзіць!

Ад яе крыкаў зрабілася ў пакоі трывожна і страшна. Стары Імэрман устаў з крэсла і, хістаючыся, пільна ўзіраючыся сьляпым тварам, паўтараў:

— Макс, што здарылася? Макс...

Рабочыя шчыльным кругам сталі вакол ложка і маўчалі. Мэталіст Тэо падышоў да вакна і глядзеў у густую цемру начы.

Сход у старога Фуса падыходзіў да канца, калі ў пакой ўвайшлі два паліцыянты. Нехта сказаў пра сход, нехта здрадзіў. Але паліцыянты нічога не рабілі. Яны слухалі да канца, нікога не чапалі. Потым выйшлі. І калі пачаў гаварыць Макс Імэрман, у пакой уварваліся малайцы са Штальгольму. Яны адразу пачалі бойку. У пакоі зрабілася цёмна—нехта табурэтам шыбануў у лямпу і яна са звонам разьбілася. Ніхто ня ведаў, колькі іх там было. Білі бязьлітасна—бутэлькамі, крэсламі, ботамі, кастэтамі, нажамі. Але фашыстам не шанцавала—іх хутка выціснулі з пакою і, пасьля кароткае бойкі на лесьвіцы, выштурхнулі на вуліцу. Тут, як заўсёды запозна, падасьпела паліцыя. Кінулася арыштоўваць. Макс Імэрман ляжаў на сходках, і Тэо, выцягнуўшы яго на вуліцу, павалок. На рагу дагналі астатнія рабочыя і, ратуючыся ад паліцыі, прынесьлі.

— Сволачы...

Рыпнулі дзьверы, і ў пакой увайшоў доктар. Ён быў дужа раззлеваны, што яго патрывожылі гэтак позна. Нездаволена мармычачы, ён сарваў бінты, агледзеў раны, паслухаў пульс. Аглядаючы, нездаволенаківаў галавою.

— Так. Рана ў галаву... Пашкоджаны чэрап... Пералом рукі. Нажовая рана ў тую-ж самую руку. Так...

Устаў зусім хмуры і, наклаўшы апошнія бінты, прабурчэў:

— Небясьпечнага няма нічога. Хаця, гм... месяцы паўтары давядзецца праляжаць.

Ён зьвярнуўся да Эльзы:

— Вы сястра параненага?

Эльза кіўнула галавою.

Доктар паглядзеў на сьляпога Імэрмана, на групу рабочых і ўжо мякчэй сказаў Эльзе:

— Заўтра раніцою пашлеце па мяне.

І выходзячы з пакою, зноў напомніў:

— Добры дагляд... Заўтра абавязкова пашлеце па мяне.

Калі на сходках заціхлі крокі, да Эльзы падыйшоў, хмурачыся, Тэо і сказаў:

— Гэтаю вось штукаю ўдарылі па Максавай руцэ. Мне таксама пашанцавала...

Тэо падняў левую руку. Яна была закручана шматкамі кашулі, на якіх густа чырванела цёмная пляма.

— Я ўсё-ж такі вырваў гэту штуку ў яго... і пакінуў штокольвечы яму на ўспамін.

Тэо пахмура ўсьміхнуўся, крывячыся ад болю, і працягнуў Эльзе кароткі, бліскучы штылет. На ім яшчэ ня высахла кроў.

Замест тронка штылет меў срэбную галоўку зьмяі з высунутым джалам. Ярка блішчэлі на агні рубінавыя вочкі.

— Гэта каштоўныя камяні. Я не памыляюся!..—прахрыпеў стары Фус, узяўшы штылет.

Нейкая думка прышла ў галаву Эльзе.

— Я недзе бачыла гэта!—шаптала яна.

Эльза вырвала ў Фуса штылет і паднесла да агню.

Рубінавыя вочкі срэбнае зьмяі хітра гарэлі, бліскаючы ад сьвятла. Яны міргалі Эльзе, і, здавалася, тонкае джала дрыжыць у зьмяіным роце.

І раптам Эльза ўспомніла: музыка, кафэ. Тонкія выпешчаныя пальцы круцяць тоўсты чорны кій. За цьмяным пэнснэ туманяцца халодныя вочы. Сьціснуты ў хцівай складцы тонкія вусны. І ў тонкіх выпешчаных пальцах—тонкім джалам да Эльзы—срэбная галоўка зьмяі з рубінавымі вочкамі.

— Штальман!—ускрыкнула яна:—Оскар Штальман.—

І памкнулася бегчы. Стары Фус затрымаў яе, а высокі кашчавы Тэо радасна засьмяяўся і здаволена сказаў:

— Ну, вось і ўсё добра. Я нядарма адбіраў гэту штуку. Маем рэч—знойдзем і гаспадара. Я яму скажу, што ў мяне чартоўскі баліць мая левая рука.

V

Увечары да Богуша прышоў Оскар Штальман.

Богуш канчаў пісаць ліст і, прывітаўшыся, папрасіў прабачэньня.

— Пачакайце крыху мяне—я зараз скончу, і тады пагаворым.

Оскар Штальман паклаў на крэсла капялюш і прысеў на канапу, закурыўшы сыгару. Абыякавым позіркам ён аглядаў сьцены пакою. Яны былі бадай што пустыя. Толькі над сталом у драўлянай рамцы вісела невялічкая карціна, напісаная алеем. На карціне было грузкае непраходнае балота. Па „вакне"—маленькім вазярку, якое прабівалася з балота, на хісткім чаўне стаяў селянін. У роце ў селяніна была кароткая люлька. Ён касіў





з чаўна зялёную асаку. Бурая багна хлюпала навакол. Штальман доўга глядзеў на карціну і думаў:

„Мабыць гэта ляндшафт з Богушавае радзімы".

І запытаўся ў Богуша:

— Гэта ў якой краіне?

— Палесьсе. Мазыршчына.

Богуш шпарка дапісваў апошнія радкі. Скончыўшы, надпісаў на канвэрце адрас і запрасіў Штальмана бліжэй да стала. Ён выцягнуў са століка дзесятак сьпісаных аркушыкаў паперы.

— Вось гэта,—сказаў Богуш,—тое, што перадаў мне мой таварыш на радзіме. Гісторыя гэтага дакуманту дужа цікавая...

Штальман падсунуўся бліжэй да стала і нарыхтаваўся слухаць.

— Вось, паслухайце,—пачаў Богуш.—Прыблізна ў пачатку сусьветнае вайны мой таварыш, які жыве цяпер там на маёй радзіме, робячы рамонт у адным касьцёле на Палесьсі, выпадкова знайшоў захованую пад плітамі касьцёлу скрыню. У гэтай скрыні была машына. Як расказваў мой таварыш, тая машына мела нязвычайную сілу. Яна пускала тонкія праменьні блакітнага колеру, якія без перашкод праходзілі праз мэталь і камень. Мала таго, паводле гаворкі таго чалавека, праменьні мелі здольнасьць разбураць і рабіць на попел жывую арганічную матэрыю. Так, напрыклад, калі ён там, у касьцёле, неасьцярожна абыходзіўся са сваёю знаходкаю, блакітныя праменьні, зьнянацку ўпаўшы на голуба, што ляцеў за вокнамі, ператварылі яго ў попел, які рассыпаўся па ветры. Сьцены касьцёлу, расказваў мне таварыш, былі прабіты праменьнямі наскрозь... Ён мне расказваў шмат дзіўнага пра гэту машыну. Сказаць па праўдзе, я да гэтага часу яму ня веру. Ня ведаю нават, чым можна растлумачыць такую фантастычную выдумку. Але ён перадаў мне гэтыя паперы. Ён захапіў іх тады з касьцёлу. І, ведаеце, у мяне зьявілася фантастычная думка. Тут гаворыцца пра атамны апарат.

Штальман зьдзіўлена падняў бровы і ў неразуменьні зірнуў на Богуша.

— Ён нармальны, той ваш таварыш?

— Зусім здаровы чалавек,—сказаў Богуш.—Калі-б гэта мне сказаў хто іншы, я не паверыў-бы яму і не зьвярнуў-бы на гэту справу ніякае ўвагі. Але цяпер я павінен разабраць гэтыя паперы.

— Пачнем...—коратка сказаў Штальман.—О, ды тут напісана па-нямецку!

Штальман аглядзеў укрытыя рысункамі і формуламі балонкі і пачаў голасна чытаць.

Вось як пачынаўся ўрывак нямецкага рукапісу: *)

*) Тут выкінуты амаль усе формулы і рысункі, якія-б былі цяжкімі і нуднымі для чытача.

„...Такім чынам выходзіць, што вызваленьне ўнутрыатамнае энэргіі, аснаванае на прымусовым, падначаленым чалавецтву распадзе атамнага ядра, немагчымая рэч.

Я быў у адчаі, бо сам сабе давёў, што тое, да чаго я ўсё жыцьцё імкнуўся, немагчыма. Уся мая шматгадовая праца, на якую я паклаў усе сілы, маемасьць і энэргію, была дарэмнаю. Выйікі гэтае вялізарнае працы давялі мне, што працаваць было нявартa.

Дурны! Я стаяў ужо на парозе разгадкі вялікае таямніцы.

Праца ня была дарэмнаю. Яна, разам са сваім вынікам, дала мне глыбокія веды аб тым атаме, які я дарэмна стараўся разьбіць, каб вызваліць яго вялізарную энэргію. Яна дала мне веданьне складу гэтых атамаў, іхных камбінацый, з якіх складаецца сьвет і ўсё, што ў ім ёсьць. Гэта праца дала мне разгон для новых адважных думак, якія прывялі мяне да перамогі. Яна, нарэшце, дала мне магчымасьць вынайсьці шэраг удасканаленых прылад, што дапамаглі мне перамагчы канчаткова.

На працягу мае працы я пераканаўся, што маса і энэргія, па-першае, эквівалентны адно аднаму і, па-другое, здольны пераварацца адна ў другую. Маса можа пераварацца ў энэргію. Калі ў якой небудзь замкнёнай сыстэме адбываюцца працэсы, у выніку якіх памяншаецца агульная маса целаў, якія складаюць гэту сыстэму, дык такая зьмена масы павінна весьці за сабою вылучэньне адпаведнае колькасьці энэргіі.

Гэтыя тэарэтычныя высновы вялі мяне да перамогі.

Неяк, зусім выпадкова, я пераглядаў ужо даўную гіпотэзу Проўта, які даводзіў, што ўсе элемэнты зьяўляюцца пабудоваю з аднаго першапачатковага элемэнту—вадароду. Я ведаў, напрыклад, што чатыры атамы вадароду складаюць сабою гелій.

І вось у часе досьледу над вызначэньнем атамнае вагі гелію і вадароду я напаткаў цікавую зьяву.

Я ўбачыў, што атамная вага вадароду роўна 1,008. Гэта было мне вядома і раней, але цяпер мне кінулася ў вочы тое, што атамная вага гелію, які складаецца з 4 атамаў вадароду, роўна толькі 4,000. Яна павінна была быць роўнай $4 \times 1{,}008 = 4{,}032$. Але-ж бясспрэчным фактам зьяўляецца тое, што атамная вага гелію роўна 4000. Значыцца, недастатковыя 0,032 адзінкі атамнае вагі зьнікл̈і ў працэсе стварэньня з атамаў вадароду гелію. Скажам, пры ўтварэньні 4,000 грам гелію з 4,032 грамы вадароду зьнікае 0,032 грамы масы.

Як я ўжо ведаў, маса і энэргія эквівалентны. Маса можа пераварацца ў энэргію. Значыць, гэта маса ў 0,032 грамыператварылася ў энэргію, якая і вылучылася ў часе ўтварэньня гелію, у часе сынтэзу *) элемэнтаў—гелію з вадародам, як вылучаецца цяплыня пры гарэньні запалкі. Гэта перавярнула ўсе мае думкі.

*) Злучэньня.





Для мяне было ўжо лёгка падлічыць гэту вызваленую энэргію. Гэта колькасьць энэргіі (E), выражаная ў эргах, будзе роўна колькасьці масы, якая зьнікла (дэфэкту масы) у грамах (T), памножанай на квадрат хуткасьці сьвятла, выражанае ў сантымэтрах за сэкунду (C) *)

Значыцца, калі адбываецца сынтэз—утварэньне 4,000 грам гелія з 4,032 грамы вадароду, дык пры дэфэкце масы ў 0,032 грамы E (энэргія) будзе роўна:

$E = 0{,}032.\ (3.10^{10})^2 = 2{,}9 \cdot 10^{19}$ эрга, або 700.000.000 вялікіх калёрый **).

Гэта азначае—столькі цяплыні, колькі атрымліваецца, калі спаліць 80.000 *кг.* лепшага каменнага вугалю.

Калі-ж дэфэкт масы будзе роўны 1 *гр*, дык—

$E = 1 \cdot (3 \cdot 10^{10})^2 = 9 \cdot 10^{20}$ эргаў, або 20,000,000,000 (20 мільярдаў)вялікіх калёрый. Гэта роўна энэргіі, якая атрымаецца, калі спаліць 2.500.000 *кг.* вугалю.

Гэта вялізарная энэргія далёка перавышае тую, якая вылучаецца пры распадзе атамаў.

Гэта перавярнула ўсе мае думкі. Значыць, энэргія вызваляецца ня толькі пры распадзе атамаў, які (распад), як я пераканаўся, не падначалены чалавеку, але і сынтэзам іх.

Трэба было вынайсьці спосаб сынтэзу элемэнтаў.

Далей я скажу ў гэтым маім рукапісе, як я вынайшаў спосаб сынтэзу гелію з вадароду і ў чым ён заключаецца. Гэта было дужа простаю рэччу, як бываюць простымі большасьць вялікіх вынаходак. Паўтараю, што толькі шматгадовая праца над гэтым пытаньнем дазволіла мне зрабіць гэта. Скажу на гэтых балонках адно, што мой спосаб сынтэзу дазваляе вылучаць вадарод непасрэдна з вады і адначасова сынтэзаваць яго ў гелій, вызваляючы пры гэтым энэргію. Вада павінна быць пры гэтым хэмічна чыстаю. Далей, паводле апісаньня і рысункаў майго апарату вы ўбачыце, што яна павінна падавацца строга дакладнымі порцыямі, для чаго ў апараце зроблена адпаведная прылада.

Я вынайшоў спосаб сынтэзу элемэнтаў, вымераў колькасьць энэргіі, якая вызваляецца ў часе сынтэзу. Але я ня ведаў аднаго. Я ня ведаў, у якім выглядзе будзе вылучацца энэргія пры сынтэзе. Я ня ведаў, ці дазволяць чалавецтву формы, у якія выльецца гэта нявычэрпная энэргія, аддаць яе на карысьць усяго чалавецтва. Я ня ведаў, ці здолее чалавек падначаліць сабе вызваленую ім сілу, накіраваць яе на мільёны рухавікоў, фабрык, заводаў, машын...

*) Хуткасьць сьвятла—300.000 км. за сэк. У сантымэтрах—$3 \cdot 10^{10}$ (трыццаць мільярдаў).

**) Адна вялікая калёрыя роўна $4{,}2 \cdot 10^{10}$ эргаў.

Гэта грандыёзная нявычэрпная колькасьць энэргіі дала-б чалавецтву надзвычайныя магчымасьці. Яна дазволіла-б яму перарабіць зямлю, узьняцца над тэю жахліваю хаотычнасьцю, у якой яно марнее. Яна-б перайначыла ўсе грамадзкія суадносіны на нашай плянэце ці можа зусім-бы адкінула іх, стварыўшы новы лад, вызваліўшы чалавецтва ад усяго, што дагэтуль замінала яму расьці,ісьці да росквіту...

Мае наступныя досьледы паказалі, што энэргія, якая вызвалялася пры маім спосабе сынтэзу элемэнтаў, вылучаецца ў выглядзе асаблівых электрамагнітных ваганьняў. Гэта былі праменьні, якія знаходзіліся недзе далёка ў недасьледванай яшчэ частцы спэктару ўправа ад ультрафіялкавых праменьняў...“

— Чорт падзяры!..—тут не хапае некалькіх балонак!!.

Штальман спыніўся і пачаў перакідваць балонкі рукапісу.

Але патрэбных балонак ня было.

— Чалавек, які перадаў мне гэты рукапіс,—сказаў Богуш,—помніцца, казаў, што яму нехта перашкодзіў, калі ён быў у касьцёле з атамнаю машынаю. Сьпяшаючыся, ён хаваў машыну і рукапіс на старое месца, а гэта—паасобныя старонкі, якія выпалі з рукапісу і былі згублены на касьцёльнай падлозе. Ён потым сабраў што мог і зьбярог да гэтага часу. Але давайце чытаць далей...

„...Такім чынам мой апарат мог быць толькі страшнаю прыладаю разбурэньня. Гэткую нязвычайную сілу чалавек яшчэ не сустракаў. Дзеяньне гэтых праменьняў жудаснае. Яны праходзяць праз усё і ня ведаюць перашкод. Гэта была-б самая страшная машына разбурэньня, якую чалавецтва магло вынайсьці за час свайго існаваньня.

Гэта вырашыла лёс майго апарату.

Цяпер я пераходжу да пабудовы першага ў чалавечай гісторыі атамнага апарату, пабудаванага на аснове вызваленьня энэргіі пры сынтэзе элемэнтаў (у дадзеным выпадку пры ўтварэньні гелію з вадароду). Я раскажу пра пабудову апарату, які, на жаль, мае толькі сілу зьнішчаць, апарату, які я назваў па праву вынаходцы А т а м і р а м прафэсара...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Два галасы разам ускрыкнулі, выгукваючы праклёны і лаянкі на дзьвюх мовах.

— Donner wetter!!!

— Каб цябе пяруном спаліла!!!

— Адзін... Адзін толькі радок!—нібы прасіў ў некага Богуш...

Ён вырваў у Штальмана рукапіс і, нанова перачытаўшы яго канец, запытаўся:





— Што гэта азначае: „Гэта вырашыла лёс майго апарату?“ Які лёс прызначыў свайму „атаміру“ вынаходца?

Штальман нічога не адказаў. Ён застыў у задуменьні. Яго твар зрабіўся лятуценным, мёртвым. Думкі яго луналі недзе далёка. Нібы сам сабе ён гаварыў:

— Калі толькі гэта праўда... тады гэта—разгадка таго, што дарэмна стараюцца разгадаць найбуйнейшыя людзі сьвету. Калі толькі гэта не містыфікацыя, дык гэта—адкрыцьце, роўнага якому ў сьвеце яшчэ ня было. Калі атамір існуе ў сапраўднасьці, ён адкрывае новую эру тэхнікі.

І раптам ён устаў і ўпэўнена сказаў Богушу:

— Але я ўпэўнены, што гэта хлусьня! Сучаснаю навукаю даведзена, што вызваліць нутрыатамную энэргію нельга. Гэта немагчыма! Праўда, наколькі я ведаю, тут некаторыя новыя думкі, але ўсё-ж гэта немагчыма. Вы зрабіліся ахвяраю містыфікацыі.

Богуш задумна перагартаў пажоўклыя дробна сьпісаныя балонкі.

За сьцяною імпэтным тэмпам заграў раяль. Сын фраў Амаліі, што прыехаў на вакацыі, развучваў новы факстрот.

— Аўтар рукапісу,—гаварыў далей Штальман,—відаць, мае багатую эрудыцыю. Я-б хацеў ведаць яго. Магчыма, гэта маньяк—вучоны, які звар'яцеў на сваей „вынаходцы“... Ваш таварыш не сказаў адрасу касьцёлу, дзе ён знайшоў рукапіс?

— Гэта недзе ў Польшчы,—адказаў Богуш.—Адразу ён мне не сказаў ніякага, ён нікому ня хоча давяраць свае тайны. Гэты рукапіс ён даверыў мне першаму. Я павінен паслаць яму навуковую ацэнку ўсяго гэтага.

— Напішэце яму, што гэта ўсё—хлусьня і немагчымая рэч,—параіў Штальман.

— Але-ж ён сам бачыў апарат!—сказаў Богуш.

Штальман нічога не сказаў. Ён моўчкі пацісвуў плячыма і насунуў капялюш.

— Да пабачэньня, гэр Богуш!—сказаў ён.—Мне няма часу. Дужа ўдзячны, што вы даверылі мне „тайну“ вашага таварыша. Але мая думка—усё гэта містыфікацыя. Да пабачэньня!

Богуш паклаў у шуфлядку рукапіс і моўчкі раскланяўся.

---

Дома Оскара Штальмана чакаў бацька. Ён падняўся з крэсла насустрач яму і ўсхвалёвана сказаў:

— Забастоўка спынена, Оскар! Мы пайшлі на ўступкі рабочым

— Што-о!?

Сын стаяў перад бацькам раззлаваны і гнеўны. Замяшаны, зьбянтэжаны стары Штальман гаварыў:

— Таварыства несла вялікія страты. Так доўга працягвацца не магло.

Оскар Штальман некаторы час гнеўна глядзеў на бацьку, потым махнуў рукою і выйшаў з пакою. У прыхожай ён кінуў пакаёўцы капялюш і бразнуў дзьвярыма габінэту. Доўгі час ён задумны хадзіў па габінэце, потым рашуча сеў за стол і ўзяўся за трубку тэлефону.

VI

Валер Богуш радасны выйшаў з шырокіх дзьвярэй савецкага паўпрэдзтва і шпарка зьбег па сходках ганку. Сёньня яму трэба было яшчэ зайсьці ў Вышэйшую тэхнічную школу і ён баяўся спазьніцца туды.

Цудоўная раніца сьвяжыла над шырокай геамэтрычна простай Унтэр - дэн - Ліндэн і блісkала ў шэрагах кволых ліп і каштанаў. Яна адлюстроўвалася ў кожным квадраце наглянцаванага асфальту, у кожнай пакрышцы аўто, у кожным цыліндры пасольскае, музэйнае, гатэльнае Унтэр-дэн-Ліндэн.

Унтэр-дэн-Ліндэн азначае—„Пад ліпамі". Сапраўды, уся шырокая вуліца плыла машынамі, натоўпамі пад чатырма шарамі высокіх ліп і каштанаў. Яны беглі аднекуль здалёк, ад замкавага мосту на Шпрэе, ад багатых музэяў на Unsel-museum, міма велічнага гмаху арсэналу, міма бывалешніх палацаў Вільгельма і вялікага тэатру Мэтраполь. Яны прабягалі паміж будынкаў францускага і ангельскага пасольства і тут, за Брандэнбургскімі брамамі, выбягалі натоўпамі на асфальтавыя дарожкі вялізнага зялёнага Тіргартэн.

Калісьці ў цэнтры сучаснага Бэрліну быў шырокі зялёны лес. Ён аддзяляў сабою сярэднявечны Бэрлін ад суседніх фэўдальных палацаў і вёсак. Цяпер гэтыя даўнейшыя сельбішчы пераварыліся ў лепшыя кварталы Бэрліну. Даўнейшы лес зрабіўся куды радзейшым, пераразаўся па ўсіх кірунках асфальтовымі дарогамі і набыў сабе імя—Тіргартэн.

Цяпер з тае дзічыны, што вадзілася ў калішнім Тіргартэн, застаўся толькі адзін бронзавы алень—помнік легендарнаму жыхару калішняга лесу. І замест сярэднявечных паляўнікоў са звонкімі паляўнічымі сурмамі ў засені Зігэс-алее (Алея перамог) нязграбна застылі 32 мармуровыя статуі прускіх і брандэнбурскіх заваёўнікаў. І завуць бэрлінцы гэту алею кпліва і гіранічна Puppen-Allee*), лічачы за лялькі мармуровыя постаці застыглых сярэднявечных паляўнікоў.

Усё, што ляжыць на захад і поўдзень ад Тіргартэн—Бэрлін-Вэстэн. Горад геамэтрычна простых шырокіх вуліц. Вуліцы—прысады. За прысадамі гэтых вуліц цяжка ўзьняліся незразумелаю гарэзьлівасьцю форм, грубаю сымболікаю дэталяў, шэрыя аднастайныя, як калёны нямецкіх салдат, дамы, асабнякі, віллы буржуазіі. Бэрлін-Вэстэн—горад буржуазіі.

Буйна, нястрымана растуць дрэвы. Часам працілеглыя шэрагі вулічных прысадаў сплятаюцца ў дрыготкі зялёны сад. Пад ім па асфальце бегаюць стракатыя зайкі. Сонечныя блікі скачуць па тварах людзей, па аўто, па трамваях, якія, мякка пазваньваючы, праносяцца пад дрэвамі.

Па галоўнай артэрыі Бэрлін-Вэстэн—вуліцы Кюрфюрстэндам, падзеленай на пяць панэляў чатырма шэрагамі дрэў, шумуе натоўп. З вечару Кюрфюрстэндам гарыць агнямі лепшых бэрлінскіх рэстаранаў, магазынаў мод, пад'ездаў вар'етэ, вітрын. Вуліца хвалюецца, імчыцца далей на захад, да Грунвальду. Там, далей, радзеюць начныя кабарэ, цямнее Кюрфюрстэндам. Там—толькі асабнякі і віллы.

З усходу, з поўначы, з паўдня бліскучы, шумлівы, зялёны Бэрлін Вэстэн ахапілі, цяжка сьціснулі індустрыяльныя рабочыя кварталы: Нэйкёльн, Чырвоны Вэдынг Моабіт... Бэрлін-Вэстэн душыцца ў іхных абдымках. Праз шум кабарэ, вар'етэ, праз дрыготкую цішу віллаў ён чуе цяжкае дыханьне машын, важкі поступ чорных кварталаў. І ўзрушанаю гамонкаю рэстаранаў, шумам аўто Бэрлін-Вэстэн стараецца заглушыць гул чорных кварталаў.

На захад ад Тіргартэн чорныя кварталы шчыльна падыйшлі і сталі каля Бэрлін-Вэстэн. Блізка падыйшла галоўная вуліца пахмурага Моабіту. Паўсталі заводы Сімэнса і Гальскэ, машына-будаўнічы завод Фройнда. Цяжка нагружаны ляндвэр-канал выцягнуўся тоўстаю зьмяёю ад Тіргартэн да ракі Шпрэе.

Вуліцы навокал носяць назвы вялікіх вучоных, фізыкаў—Фраўэнгофэра, Франкліна, Гэльмгольца. Тут узьняліся высокія, сьветлыя карпусы Вышэйшае тэхнічнае школы, дзе практыкаваўся Валер Богуш.

Было ўжо за другую гадзіну, калі ён вышаў адтуль стомлены і заклапочаны.

Ідучы па сонечнай вуліцы, ён думаў, што ўжо даўно ня бачыў Эльзы. Вось ужо колькі дзён яна ня прыходзіць да яго.

„ Што там у яе здарылася?—думаў ён.—Трэба будзе заўтра зьезьдзіць наведаць",—канчаткова вырашыў Богуш

Па дарозе з Тэхнічнае школы Богуша дагнала высокая чарнявая Эльлен. Богуш працаваў з ёю ў Школе. Параўнаўшыся Эльлен падала яму тоўсты нямецкі падручнік і сказала:

— Вы забыліся яго, гэр Богуш!

І потым дадала:

— Вы мяне праведзяцё, гэр Богуш, ці праўда?

— О, калі ласка, Эльлен!

*) Puppe—лялька.

Яны ўдваіх пайшлі па яркай сонечнай вуліцы моўчкі, абое занятыя сваімі думкамі. Апранутая ў чорнае Эльлен здавалася строгаю, суроваю. Богуш паважаў яе гэткаю сур'ёзнаю, непадобнаю да іншых.

Ідучы, Эльлен пазірала час ад часу на заклапочанага Богуша, хацела нешта сказаць, але раздумвала. Нарэшце, калі павярнулі за рог, яна запыталася абыякавым грудным голасам:

— Вы хутка едзеце, гэр Богуш?

— Так, Эльлен, еду. Тэрмін мае камандыроўкі хутка канчаецца, і я паеду назад, на радзіму.

— Назаўсёды?

Богуш усьміхнуўся.

— Канечна. Мяне тут нічога ня трымае. На радзіме мяне чакае праца, шмат працы. Там не хапае добрых інжынэраў.

— Вось як!

Эльлен задумалася, але загаварыла зноў:

— Мне шкода, што вы едзеце. Мы так слаўна працавалі з вамі. Я так прывыкла да вас, і вось неяк ня верыцца, што вы раптам возьмеце і паедзеце адгэтуль назаўсёды.

— Мы яшчэ папрацуем з вамі, Эльлен!—усьміхнуўся Богуш. І я з асаблівачю ахвотаю папрацую з вамі. Вы добрая дзяўчына, Эльлен.

Эльлен нецярпліва зморшчыла чорныя строгія бровы і перапытала:

— У вас не хапае інжынэраў?

— Так, нам трэба шмат, куды больш інжынэраў, чым ёсьць.

— Праўда? Гэта дзіўна. У нас, у Нямеччыне, іх лішак. Больш паловы тых, хто канчае навучальныя ўстановы, не знаходзяць сабе працы. Я ведаю студэнтаў, якія мыюць талеркі ў рэстаранах. Вы ведаеце гэта, гэр Богуш?

— Ведаю.

— А як вы глядзіцё на гэта?

Богуш зацікаўлены зірнуў Эльлен у строгі мармуровы твар і не сьпяшаючы адказаў:

— У вас гэта няўхільна. У нас, у СССР, такая рэч немагчыма.

— Вось як!

Эльлен памаўчала і сказала:

— Ваша краіна, мабыць, дужа цікавая, гэр Богуш! Вы гэтак імкнецеся вярнуцца туды. Вы там будзеце добрым інжынэрам!

— Спадзяюся. Што вас навяло на гэткія развагі, Эльлен?

— Я сёньня спаткала свайго калішняга настаўніка. Ён цяпер служыць у рэстаране на Мархштрасе.

Эльлен задумалася і потым зноў загаварыла:

— У вас гэта немагчыма, я ведаю. Вы шчасьлівы, гэр Богуш, што жывяцё ў гэткай краіне.

Богуш нічога не адказаў. Нейкі час яны ішлі моўчкі.





— А калі-б вас папрасілі, гэр Богуш, тут застацца, вы-б засталі ся?

Богуш зьдзіўлена спыніўся.

— Не, вядома...—сказаў ён.

— Праўда? А калі-б я вас папрасіла застацца тут, у Нямеччыне?

Эльлен засьмяялася. Па яе чорных вачох з даўгімі пушыстымі вейкамі нельга было пазнаць, ці жартуе яна, ці гаворыць сур'ёзна.

— Я зайду калі-небудзь да вас, гэр Богуш. Я хочу паглядзець, як жывуць савецкія інжынэры. Можна?

Богуш пакланіўся.

— Калі ласка! Баюся толькі, што вам не спадабаецца ў мяне

— Ціха!..

Эльлен азірнулася і спыніла Богуша. Да іх падыходзіў Карль Клемм—асыстэнт прафэсара Стронга ў Тэхнічнай школе. Ён здалёк махаў ім рукою, і Эльлен нездаволена зморшчылася, чакаючы яго.

— Я ня люблю гэтага Клемма,—сказала яна.—Вы ведаеце, Богуш, ён абрыдзеў мне сваімі прызнаньнямі ў каханьні.

— Вось як!

Падыходзячы, асыстэнт гаварыў Богушу:

— Я ўсюды шукаў вас, гэр Богуш! Там мне сказалі, што вы толькі што пайшлі з Эльлен, і я пабег даганяць вас.

Ён пераводзіў позірк з Эльлен на Богуша і выціраў хустачкаю лоб. Сярэдняга росту з бялявымі тонкімі валасамі, адкінутымі назад, ён выглядаў дужа маладым, амаль хлопчыкам. Гэта быў прыёмны сын прафэсара Стронга, яго ўлюбёнец і выхаванец.

— Мы пойдзем разам,—гаварыў ён.—Па дарозе я вам раскажу ўсё, гэр Богуш.

Але Эльлен раптам нешта ўспомніла і, засьпяшаўшыся, сказала:

— Я зусім забылася, панове! Прабачце мяне! Мне трэба абавязкова сёньня зайсьці ў адно месца. Бывайце!

Рэзка павярнуўшыся, яна адыйшла ад іх. Карль Клемм зірнуў ёй усьлед і перавёў няпрыязны погляд на Богуша. Але праз момант ізноў адкрытая даверлівая ўсьмешка зьявілася ў яго на твары.

— Мяне гэр Штальман прасіў перадаць вам, каб вы зайшлі сёньня да яго. У яго да вас пільная справа. Калі хочаце, пойдзем разам, або лепш паедзем. Возьмем таксі, добра?

Богуш моўчкі згадзіўся. Нейкі час яны ехалі моўчкі. Богуш думаў пра Эльлен і пра яе прызнаньне наконт маладога асыстэнта і ўсьміхаўся. Вуліца шумела. Праносіліся міма шыльды і вітрыны. Пякло сонца.

Маўчаньне парушыў асыстэнт.

— Вы, я чуў, прывезьлі з СССР цікавы рукапіс, гэр Богуш? Богуш узрушыўся і з запытаньнем зірнуў на асыстэнта.

— Так. Вам сказаў Штальман? А што?

— Нічога. Я таксама цікаўлюся праблемаю атамнае энэргіі. Адзін час я працаваў над гэтым. І ведаеце, гэр Богуш, я ўпэўнены, што праблема вызваленьня нутрыатамнае энэргіі будзе калі-небудзь разьвязана. Магчыма, нават раней, чым мы думаем. І тады адбудзецца вялікая рэвалюцыя ў тэхніцы. Чалавецтва атрымае нявычэрпныя запасы энэргіі. Тое, што цяпер для чалавека немагчыма, тады будзе зусім проста зьдзейсьніць. Цяжка нават і ўявіць, якою будзе тады чалавечая культура.

Богуш нічога не адказаў Клемму. Усе гэтыя дні ён думаў пра дзіўны рукапіс, прывезены з радзімы. Але ён быў ўпэўнены, што тут нешта ня так, блытаючыся ў догадках, ні да чаго ня прыходзячы.

— Між іншым, мой бацька,—гаварыў асыстэнт,—таксама шмат працаваў над гэтым пытаньнем. Уявеце—ён працаваў над праблемаю распаду атаму яшчэ ў 1914 годзе, калі яна амаль ня высоўвалася. І, здаецца, ён шмат чаго дасягнуў...

— Ваш бацька хіба не прафэсар Стронг?—запытаўся Богуш. І зараз-жа пашкадаваў, што запытаўся. Клеммаў твар раптам пасуровеў, і ён холадна сказаў:

— Не. Мой бацька памёр... Яго расстралялі. У пачатку вайны, калі я пайшоў на фронт, ён раптоўна выехаў з Бэрліну. У яго тут здарыліся нейкія няпрыемнасьці, я дагэтуль ня ведаю якія. У 1915, прыблізна, годзе, я атрымаў ад яго ліст. Я быў тады на францускім фронце. Яго праца над атамам удавалася. Ён пісаў, што блізка да вырашэньня гэтае праблемы. Гэта быў яго апошні ліст. Фронт некалькі разоў праходзіў па той палосе, дзе ён жыў, і калі ў 1917 годзе з нашымі войскамі дабраўся да нашага маёнтку, я не знайшоў ні яго, ні бацькі. Маёнтак быў спалены, зруйнованы. Адзін селянін паказаў мне бацькаву магілу.

— Хто яго расстраляў?—ціха запытаўся Богуш. Яму зрабілася неяк няёмка, ён шкадаваў, што пачаў гэту гутарку.

Клемм хруснуў пальцамі і марудна адказаў:

— Расійская контр-разьведка. Яго абвінавацілі ў шпіянажы. Бачыце, ён быў немец.

Клемм няпрыязна адсунуўся ад Богуша, і апошні раптам адчуў, што асыстэнт ненавідзіць яго, ненавідзіць незразумелаю нянавісьцю, і таму нянавісьць рабілася страшнейшаю, суровейшаю.

— Я вельмі спачуваю вам, гэр Клемм, — сказаў, каб парушыць нялоўкае маўчаньне, Богуш.—Якая недарэчная сьмерць! Але вы павінны ведаць, што гэтая расійская контр-разьведка, апрача вашага бацькі, расстраляла нямала нашых рэвалюцыянэраў. У 1917 годзе я сам біўся з ёю—з жандармэрыяй, з белагвардзейцамі.





Але Карль Клемм адвярнуўся ад Богуша, холадна зірнуўшы на яго, і нічога не адказаў. Праз усю дарогу аж да Штальманавага дому яны не сказалі больш ні слова.

---

Штальман сам спаткаў Богуша і Клемма і зараз-жа павёў іх у свой габінэт. Там ужо было досыць накурана. У хвалях сігарнага дыму сядзеў нейкі таўставаты мужчына з крыху апухлым тварам, з чорнымі пальчаткамі на руках.

— Знаёмцеся, Богуш,—сказаў Штальман.—Мой таварыш, доктар філёлёгіі Густаў Штрайбэрг. Чалавек, як бачыце, зусім ня нашае галіны.

Штрайбэрг бліснуў радам залатых зубоў і пацісьнуў Богушу руку.

— Я ўжо ведаю ваша прозьвішча,—сказаў ён Богушу,—мне шмат расказваў пра вас гэр Штальман. Дужа рады пазнаёміцца са здольным савецкім інжынэрам.

Богуш нешта прамармытаў на камплімэнт.

— Бачыце, гэр Богуш,—пачаў Штальман,—група нашых філёлёгаў наладжвае навуковую паездку ў №.. Гэта ў Польшчы. У №... ёсьць цікавы старадаўні касьцёл. Пры ім надзвычай багатая старая бібліятэка і музэй. Нашы філёлёгі маюць там знайсьці шмат чаго цікавага. Прынамсі гэта паездка будзе мець больш характар экскурсіі, лёгкае турыстычнае пагулянкі па глухіх кутках польскае Беларусі. Здаецца, вам гэта будзе цікава, а гэр Штрайбэрг быў гэткі ласкавы, што запрасіў вас і мяне прыняць удзел у экскурсіі.

— Да таго-ж,—дадаў Штрайбэрг,—вы нам можаце дапамагчы ў разборы некаторых старых дакумантаў у польскай мове. Вы, здаецца, добра ёю валодаеце?

Богуш задумаўся. Чамусьці ў думках зноў усплыў атамір, пра які гаварыў рукапіс невядомага прафэсара-вынаходцы.

„Ён-жа бачыў сам гэты атамір!—думаў Богуш пра свайго таварыша, што перадаў рукапіс.— Ня можа быць, каб ён хлусіў! Што калі атамір існуе? Я магу знайсьці яго, паехаўшы ў Польшчу".

Моцнае жаданьне разгадаць гэту загадку апошнімі днямі ўсё больш авалодвала Богушам. „Паеду!—вырашыў ён.—І там пастараюся ўбачыць".

І ўголас сказаў:

— Я згодзен, панове!

Штрайбэрг пацісьнуў Богушу руку і, папраўляючы на тоўстай пераносіцы пэнснэ, сказаў:

— Паездка займе ня больш як два тыдні. Паверце, мы добра прабавім час. Вы ня будзеце шкадаваць.

— І мы зробім гэта ў вольны ад заняткаў час,—дадаў Штальман.

Штрайбэрг устаў і насунуў на лысіну капялюш.

— А цяпер прабачце, я павінен пайсьці, панове!

VII

З Эльзаю Богуш не спаткаўся і назаўтра.

Увечары, калі ён прышоў ад Штальмана, фрау Амалія падала яму толькі што прысланую тэлеграму. Тэлеграма была з радзімы і мела ў сабе толькі пяць слоў:

„Бацька хворы неадкладна прыяжджай Алесь".

Богуш адразу-ж пачаў зьбірацца ў дарогу. Раніцою ўсё патрэбнае для ад'езду ў СССР было зроблена. У разварушаным пакоі, сярод запакаваных чамаданаў, Богуш прысеў за стол напісаць Эльзе. Да самага апошняга моманту ён спадзяваўся яе ўбачыць. Але Эльза ня прышла. Цяпер нечаканы ад'езд адкладваў спатканьне. Сьпяшаючыся, Богуш пісаў:

„Любая! Што здарылася? Чаму ня прыходзіла? Я мушу выехаць на радзіму—хворы бацька. Чакай! Пастараюся хутчэй прыехаць.

Валер".

І, пішучы Эльзе, Богуш раптам злавіў сябе на тым, што думае зусім не пра яе і не пра хворага бацьку, да якога мусіў ехаць. У родным калгасе ён спадзяваўся, нарэшце, дакладна даведацца ад таварыша пра нямецкі рукапіс, пра дзіўны атамір, пра яго месцазнаходжаньне, упэўніцца канчаткова, што ён існуе, што таварыш ня хлусіў. А тады... Богуш ня ведаў, што будзе тады, але нейкі інстынкт падказваў яму, што таямніцаю атаміру ён моцна зьвязаны, што загадка атаміру нясе шмат новага, таемнага ў яго жыцьцё. Між іншым, дзе-ж гэты рукапіс? Як ён забыўся ўзяць яго з сабою?

Богуш адчыніў шуфлядку ў століку. Туды ён паклаў рукапіс пасьля разбору са Штальманам. І раптам застыў у зьдзіўленьні—рукапісу ня было. Дрыготкімі рукамі Богуш перакідваў паперы, кніжкі. Выняў шуфлядку зусім. Пераглядзеў іншыя.

Рукапіс нямецкага прафэсара зьнік бяз сьледу.

За сьцяною сын фрау Амаліі зноў пачынаў на раялі модны факстрот. Стрэлка гадзіньніка марудна паўзла да гадзіны адыходу цягніка.

— Фрау Амалія! Фрау Амалія!

І, кінуўшыся да гаспадыні, Богуш запытаўся:





— Вы ня бачылі часам?.. Такі стары рукапіс... некалькі старонак па-нямецку. Ён у мяне прапаў са століка.

— Was ist das? зьдзіўлена ўзьняла бровы Амалія.—Які рукапіс? Я не чапала ніякіх вашых рукапісаў.

З-за тлустага пляча фрау Амаліі вызіраў круглы твар яе сына. Ён аглядаў разварушаны Богушаў пакой і пакрыўджана гаварыў:

— Мамахэн не магла нічога ўзяць. Што там у вас здарылася, гэр Богуш?

Але Богуш ужо засьпяшаўся выходзіць: да адыходу цягніка заставалася паўгадзіны. Ён рашуча ўзяўся за чамаданы і, прамармытаўшы прабачэньне, перадаў фрау Амаліі ліст.

— Тут да мяне прыдзе фрэйлен... Яе завуць Эльза Імэрман. Вы перадасьце ёй гэта і скажаце, што я павінен быў тэрмінова выехаць. У мяне захварэў бацька.

Увечары Богуш быў ужо далёка ад Бэрліну. Міжнародны экспрэс роўна а 9-й адыйшоў з Бэрліну і шпарка паімчаў праз Польшчу на СССР.

---

Фрау Амалія спрачалася ў карыдоры з незнаёмым госьцем.

— Гэр Богуш паехаў! Яго тут ужо няма!

— Тым больш патрэбна пакінуць яму запіску,—упарта настойваў госьць. Ён зьняў капялюш, і фрау Амалія расьцьвіла ўсьмешкаю:

— А-а, гэр Штальман! Я не пазнала вас... Калі ласка! Як шкода, што вы не засталі гэр Богуша! Ён учора паехаў.

Яна правяла Штальмана ў Богушаў пакой.

— Ён атрымаў тэлеграму,—гаварыла яна насупленаму Штальману.— У гэр Богуша, здаецца, памёр бацька. Ён паехаў так раптоўна.

Гэр Штальман нічога не адказваў. Ён сеў за Богушаў столік і задумаўся. У пакоі ўсё было параскідана і не на месцы—відаць Богуш сьпяшаўся перад ад'ездам.

— Фрау Амалія,—сказаў ён нарэшце,—пакіньце калі ласка, на хвіліну мяне аднаго—мне трэба сабрацца з думкамі і штоколечы напісаць гэр Богушу.

Фрау Амалія нешта нездаволена прамармытала, але выйшла.

Штальман хвіліну сядзеў нярухома. Потым ён хутка ўскочыў і пачаў шпарка шукаць у століку, паміж кніжок, у паперах.

— Рукапіс...—мармытаў ён.—Няўжо ён забраў яго з сабою?

Раскіданыя паперы шасьцелі пад яго хуткімі пальцамі. Твар Штальманаў быў насуплены і ўстрывожаны. Вось ён радасна ўскрыкнуў. Не, ня тое! Дзе-ж ён? Значыцца, забраў з сабою. Ды як ён мог спадзявацца на тое, што Богуш пакіне рукапіс?

Штальман расчарована прайшоўся па разварушаным пакоі. Потым сеў і, памакнуўшы пяро ў атрамант, вывеў на канвэрце.

USSR, Mensk, Zaslawski rajon!..

„Дарагі Богуш,—пісаў праз хвіліну ён,—спадзяюся, вы паехалі ненадоўга. Чакаю далейшых вестак пра наш славуты атамір · вы там зможаце дакладней даведацца, у чым справа. Не забудзьцеся пра нашу паездку ў N-скі касьцёл... Мы вас будзем чакаць..."

Нясьмела рыпнулі дзьверы. Штальман рэзка павярнуўся, спалоханы. Яшчэ трымаючыся за дзьверы, перад ім стаяла тая залаталосая дзяўчынка, якую ён неяк бачыў з Богушам. Яна ў неразуменьні блукала поглядам па разварушаным Богушавым пакоі і нарэшце запытальна зірнула на Штальмана. Той устаў і неахвотна пакланіўся.

— Здаецца, мы знаёмыя, з натугаю сказаў ён,—прабачце, я забыўся ваша імя.

— Так, знаёмыя, гер Штальман,—адказала Эльза.

— Вельмі рады з вамі спаткацца ў другі раз!—ужо зусім спакойна сказаў Штальман.—Гэр Богуш раптоўна выехаў у СССР. Здаецца, памірае яго бацька. Ды вы сядайце!

Якраз у гэты момант у пакой увайшла фрау Амалія і падала запіску:

— Вы—Эльза Імэрман? Гэр Богуш, ад'яжджаючы, прасіў перадаць гэта вам,—сказала яна.

Эльза паклала на прапанованае крэсла доўгі скрутак, які яна прынесла з сабою, і разгарнула запіску. Проста перад ёю сьвяцілела вялізнае люстра. У ім адлюстроўваўся ўвесь пакой, і Эльза, чытаючы запіску, пазірала ў яго. Яна бачыла, як з цікавасьцю сачыў за ёю Штальман, курачы сігару. Яго халодныя вочы агледалі, абмацвалі яе позіркам усю, і Эльза мімаволі пачырванела.

І раптам Эльза заўважыла, як Штальманаў позірк упаў на даўгаваты скрутак, што яна паклала на крэсла, як Штальман з хваляваньнем глядзеў на нешта бліскучае, што высоўвалася з падранае паперы. Твар яго зусім зьмяніўся, насцаражыўся, выцягнуўся. Ён пераводзіў позірк са скрутка на Эльзу, але яна ўсё яшчэ перачытвала запіску, папраўляла перад люстэркаю залатыя валасы, што выбіліся непаслухмяна з-пад шапачкі.

У люстэрка Эльза бачыла, як выпешчаная рука з пярсьцёнкам на мезенцы пацягнулася па скрутак. Яна ўся застыла. Рука асьцярожна цягнулася да скрутка...

І раптам Эльза крута павярнулася і дзьве рукі—мужчынская і жаночая—схапілі скрутак.

Злосны ўскрык вырваўся ў Штальмана. Ён скамячыў і кінуў паперу, што засталася ў яго руцэ, а Эльза, уся калоцячыся ад нянавісьці, згрэбліва ўсьміхаючыся, стала перад ім. У яе руцэ





цьмяна бліскаў гостры штылет. А на яго тронку ўсьміхалася крывавымі рубінавымі вочкамі срэбная галоўка зьмяі. Штальман здрыгнуўся.

— Вы пазнаеце сваю рэч, гэр Штальман?—выразна сказала Эльза. Голас яе быў высокі і звонкі, нядобрая ўсьмешка крывіла тонкія вусны.

Хвіліна замяшаньня... і Штальман, моцна вылаяўшыся, кінуўся да Эльзы. Але яна, крута павярнуўшыся, выскачыла за дзьверы. Абцасы жаночых боцікаў загрукацелі па сходах.

Фрау Амалія спалохана зазірнула ў пакой.

— Што здарылася?—запытала яна ўстрывожана.

— Нічога! — пераводзячы дыханьне, сказаў увесь бледы Штальман.— Дзяўчынка разнэрвавалася з прычыны нечаканага ад'езду вашага кватэранта, толькі й таго...

Ён насунуў на лоб капялюш і, ледзь кіўнуўшы фрау Амаліі, выйшаў.

Ужо на сходках ён спаткаў Эльлен, якая, сьпяшаючыся, узьбіралася па сходках да пакою Богуша. Яна замяшана спынілася, сткнуўшыся са Штальманам і нейкі час не магла нічога сказаць.

— Вы былі ў гэр Богуша?—запыталася яна нарэшце. Я таксама іду да яго... Па справах школы.

— Гэр Богуша няма,—перапыніў яе Штальман.—Ён выехаў у СССР.

— Назаўсёды?—ускрыкнула Эльлен.

Штальман агледзеў Эльлен і не сьпяшаючы адказаў:

— Не. У яго памірае бацька. Ён яшчэ вернецца. Усяго добрага, Эльлен!

Ён прыклаў руку да капялюша і спакойна пайшоў уніз. Ногі яго ўпэўнена ступалі па сходках. Каля дзьвярэй ён азірнуўся на расчараваную Эльлен, якая ўсё шчэ стаяла на сходках і выйшаў, моцна ляпнуўшы дзьвярыма.

## VIII

У рэдакцыю невялічкае Бэрлінскае газэты бомбаю ўляцеў, запыхаўшыся, рэпарцёр Пауль Крумэр. Ён расчыніў дзьверы ў габінэт рэдактара і крыкнуў на хаду:

— Гэр Бэрг! Я з нячуванаю, нязвычайнаю сэнсацыяй. Аддайце зараз-жа загад аб падвойным тыражы сёньняшняга нумару. Гэта нешта надзвычайнае! Я заўсёды казаў вам, што я, рэпарцёр Пауль Крумэр, здольны на вялікае...

— Пакуль што я ня бачу гэтага „вялікага".,—стрымана перапыніў рэпарцёра рэдактар.—У чым рэч, Пауль?

Рэпарцёр дрыготкімі рукамі выцягнуў фота-здымак і працягнуў рэдактару разам з дробна сьпісанымі балонкамі інтэрв'ю.

Бровы ў рэдактара зьдзіўлена палезьлі ўгору. Потым рэдактар пачаў нязвычайна хваляваца і нарэшце ён шпарка запытаўся ў рэпарцёра:

— Вы першы атрымалі інтэрв'ю? З іншых газэт пра гэта пакуль ня ведаюць?

— Можаце быць пэўнымі, гэр Бэрг!—захаплёна адказаў Пауль.—Інтэрв'ю атрымаў толькі я адзін і гэта правільна, як правільна тое, што мяне завуць Пауль Крумэр. Гэта было так выпадкова...

Рэдактар усхвалёваны ўстаў і моцна пацiснуў рэпарцёру руку:

— Малайчына, Пауль! Малайчына... Альлё!—кінуўся ён да тэлефону.—Так! Гаворыць рэдактар. Прысьпешце выпуск! Падвойны тыраж... Матар'ял—пасылаецца зараз...

Рэдактар кінуў трубку і пачаў бегаць па габінэце.

— Гэта надзвычайна! Гэта сэнсацыя! Посьпех нашай газэты бясспрэчны.

Тонкі зграбны Пауль бегаў за рэдактарам і падпяваў:

— О так!.. Гэта нязвычайна!.. Гэта сэнсацыйна!.. Вы не ўяўляеце, што будзе сёньня ўвечары ў Бэрліне... Надзвычайна!

---

Чарговае пасяджэньне Бэрлінскага Навуковага Таварыства па вынаходжаньні новых крыніц энэргіі адбывалася ў вялізнай залі Вышэйшае тэхнічнае школы на Бэрлінэрштрасэ.

А дзесятай гадзіне шырокая заля Вышэйшае тэхнічнае школы пачала напаўняцца. Мора прафэсарскіх галоў хвалявалася ад строгае высокае катэдры дакладчыка да задніх шэрагаў. Тут былі лысыя з рэдкімі кусьцікамі валасоў, што задзёрыста тырчэлі над высокімі ілбамі, былі густыя сівыя шавялюры ў колер морскай пены, падобныя на ільвіныя грывы. Таварыства па вынаходжаньні новых крыніц энэргіі было паважанай арганізацыяй. Як гаварыў гэр Стронг, прафэсар фізыка-тэхнічнага інстытуту, які быў на чале таварыства, перад ім ляжала шырокая будучыня.

Заля шумела, была поўная ажыўлёнымі гаворкамі.

— А! Гэр Зімэль! Як жывеце-маецеся?

— Дзякуй... Нішто. Крыху шумна сёньня...

У другім кутку:

— Сёньня сход абяцае быць ажыўленым. Вы не знаходзіце гэтага, гэр Штампф?

— Э-э... Так! Так!

У шчыльным гурце каля катэдры пачыналіся палкія дэбаты. Кашчавы, са зморшчаным, як у эгіпецкае муміі, тварам, прафэсар нешта даводзіў тоўстаму, прысадзістаму калегу з сівою шчэцьцю валасоў на галаве.





— Э-э... Вы не разумееце, гэр Гальскэ, адпае рэчы, што энэргія сама па сабе няўміруча... Яна... Э-э...так сказаць... зьмяньвае выгляд і...

— ...Але-ж апошнія досьледы ў Паўднёвай Амэрыцы са зьбіраньнем сонечных праменьняў давялі...

Гурт удзельнікаў сходу стаяў каля вялізнае абвесткі, нешта запісваючы сабе ў блёкноты.

На абвестцы першым пытаньнем сходу было:

1) Даклад праф. Стронга на тэму: „Сусьветныя праблемы энэргетыкі": I) Сучасныя крыніцы энэргіі, II) Сусьветныя запасы апалу, III) Скарыстаньне новых крыніц энэргіі і IV). Праблема скарыстаньня нутрыатамнае энэргіі.

Апошняе пытаньне выклікала ў залі самыя гарачыя спрэчкі. Усё Таварыства ўжо даўно падзялілася на два заядла-варожыя бакі. Адны стаялі за магчымасьць скарыстаньня нутрыатамнае энэргіі, другія даводзілі адваротнае.

Вось і цяпер гэтыя спрэчкі пачалі выбухаць з новаю сілаю, поўнячы залю ўсё большым шумам. Да таго-ж сход сёньня дужа доўга не пачынаўся. Стрэлка перапаўзла праз дзесятую гадзіну, а катэдра дакладчыка ўсё яшчэ заставалася пустою. Гэта нэрвавала некаторых найбольш нецярплівых членаў Навуковага Таварыства.

Раптам усё разам суцішылася, гамонка памалу спынілася і ўсе ў залі павярнуліся да катэдры.

Сівы, кашчавы прафэсар Стронг узьняўся да катэдры і падняў руку. Ён нецярпліва чакаў пакуль заля сьцішыцца зусім і потым загаварыў:

— Gnädigen Frauen und Herren...

Толькі цяпер некаторыя заўважылі, што прафэсар Стронг быў нечым усхвалёваны.

Яго голас быў хрыплы і дрыготкі.

— Дазвольце паведаміць шаноўнаму сходу, што спосаб вызваленьня нутрыатамнае энэргіі...

— Спосаб вызваленьня энэргіі...

— ... Вынайдзены!

---

Па Бэрлінскіх вуліцах бегалі жвавыя газэтнікі і выкрыквалі сэнсацыйныя паведамленьні:

— Сэнсацыя! Толькі ў нашай газэце!

— Вынаходка атамнага апарату!

— Нязвычайнае навуковае адкрыцьцё!

— Атамны апарат японскага вучонага!

— Яго завуць—Фуказава Токудзо!

— Крыніца нявычэрпнае энэргіі!

Сэнсацыя абляцела вячорныя вуліцы Бэрліну.

У кафэ, у трамваях, на панэлях людзі вырывалі ў газэтнікаў газэты. Шмат хто ўпяршыню чуў пра атамную энэргію, але ўсе адчувалі надзвычайную сэнсацыйнасьць паведамленьня.

На вуліцах, у рэстаранах, у аўто ішлі палкія гутаркі.

— Вы ведаеце?

— Гэта мае надзвычайнае значэньне!

— Праблема апалу вырашана...

— Рост тэхнікі.

Людзі спыняліся на вуліцах і гаварылі:

— Вы чыталі? Апарат мае пакуль што тольк і разбуральную сілу

— Гэта небясьпечна... У выпадку вайны...

— Глупства! Гэта толькі пачатак... Цяцер...

— Хто гэты Фуказава?

— Адкуль ён узяўся?

Два маладых афіцэры ў новых формах, праходзячы, узбуджана гутарылі:

— Гэта японскія хітрыкі. Яны-б захавалі гэту страшную зброю...

— Глупства!.. Небясьпека вайны адамрэ... Гэта-ж нявычэрпныя запасы энэргіі...

— Па берлінскіх вуліцах бегалі газэтнікі. Гаварылі, што ўвесь тыраж быў распрададзены, што друкаваўся новы і што выдаўца газэты вельмі нажыўся на гэтым выпуску.

Імя рэпарцёра Пауля Крумэра было на вуснах у кожнага.

---

Сэнсацыйнае паведамленьне прафэсара Стронга выбухам бомбы ўразіла залю Вышэйшае тэхнічнае школы. Спачатку стаяла мёртвая цішыня. Усе прафэсарскія галовы былі ў замяшаньні павернуты да катэдры, да якое прыхіліўся прафэсар Стронг, выціраючы хусткай лоб. Да прафэсара падышоў яго асыстэнт Карль Клемм, з якім ён рэдка калі разлучаўся і, далікатна нахіліўшыся, нешта прашаптаў Стронгу. Тады той падняўся і, абапершыся на катэдру, узмахнуў газэтаю, якая хавала гэткую сэнсацыю.

— Панове!-усё яшчэ хвалюючыся, пачаў ён. Тут,—прафэсар яшчэ раз узмахнуў газэтаю,—каротка паведамляецца аб адкрыцьці спосаба вызваленьня нутрыатамнае энэргіі. Навуковыя факты і абгрунтаваньні, пададзеныя ў газэце, не пакідаюць ніякага сумненьня: Геніяльны вынаходца падышоў да гэтае праблемы зусім з нечаканага пункту погляду, пра які мала хто з нас думаў, і мне хочацца верыць, што атамны апарат сапраўды існуе. Панове, вітаю вас і ўсё чалавецтва з найвялікшым у сьвеце адкрыцьцём!

Якраз у гэты момант служкі ўнесьлі пачкі газэт. Нязвычайны шум зьмяшаўся з шэлестам газэтных аркушаў і напоўніў да краю залю.





— Хлусьня! Газэтная выдумка!—чулася з аднаго кутка.

— Ня мысьлю... калі ўдумацца ў гэтыя абгрунтаваньні...

— Я не магу гэтаму паверыць!—крычаў у другім кутку залі нейкі маленькі чарнявы чалавек.

— А тым часам...—адказвалі яму,—тым часам—перад намі апарат... Вырашэньне праблемы надзвычай арыгінальнае. Гэта—навуковы факт...

Каля катэдры, навакол прафэсара Стронга, зьбіліся сівыя кіраўнікі Таварыства і хвалюючыся перачытвалі газэту.

— Вы думаеце, гэр Стронг, што гэта праўда?—запытаўся сівы з вялізнаю барадою сакратар праўленьня.

— Я ўпэўнены ў гэтым!—адказаў той.

Бязвусы асыстэнт Стронга кінуў на сакратара абураны позірк. Як гэты чалавек адважваецца сумнявацца ў тым, у чым пераконаны яго прафэсар? Асыстэнт нэрвова прыціскаў газэту да грудзей. На газэтным аркушы чарнела вялікімі літарамі нязвычайная сэнсацыя:

„Найвялікшы здабытак чалавечае думкі! Атамная энэргія вызвалена! Вынаходка атамнага апарату. Атамір мае нязвычайную разбуральную моц! Інтэрв'ю нашага карэспандэнта з геніяльным вынаходцам“.

Далей ішлі дробныя ўсхвалёваныя радкі:

„Наша газэта мае гонар першаю паведаміць пра найвялікшае з адкрыцьцяў, якое калі-небудзь было на нашай старой плянэце.

„Учора з Японіі ў Бэрлін прыехаў славуты Такійскі прафэсар Фуказава Токудзо, які вынайшаў атамны апарат.

„Фуказава Токудзо ўсё жыцьцё працаваў над праблемаю вызваленьня энэргіі, што заключана ў атамах, гэтых маленькіх цаглінках, з якіх складзена ўсё жыцьцё, што існуе на сьвеце. Яшчэ мала каму вядома, што атамы хаваюць у сабе нявычэрпныя крыніцы магутнае энэргіі, вызваленьне якое азначае поўны пераварот у сусьветнай тэхніцы, азначае новую эру чалавецтва. Мы дазволім сабе падаць некаторыя параўнаньні, якія пакажуць нашым чытачом усю веліч гэтае вынаходкі:

„Спальваньне аднае тоны лепшага вугалю ў чыстым тлёне дае каля $5 \times 10^{16}$ эргаў энэргіі, а зьнішчэньне (атамны распад) аднае тоны вугалю дае $9 \times 10^{26}$ эргаў. У 18.000 мільёнаў разоў больш! Пры звычайным спальваньні вугалю мы зьнімаем толькі „пенку“ з заключанае ў ім энэргіі. Рэшта застаецца нескарыстанаю ў выглядзе дыму, шлакаў, цяплыні. Пры зьнішчэньні-ж (атамным распадзе) матэрыі вугалю нічога не застаецца—ні дыму, ні цяплыні, ні шлакаў. Калі-б мы ўмелі вызваляць цалкам усю энэргію матэрыі, дык 400 грам вугалю з лішкам хапіла-б для таго, каб рухаць на працягу чатырнаццаці дзён усе фабрыкі і заводы, паравозы, параходы, сілавыя ўстаноўкі целае дзяржавы.

„Можаце ўявіць сабе ўсю важнасьць адкрыцьця спосабу вызваленьня атамнае энэргіі!

„Вялікі Фуказава Токудзо вынайшаў гэты спосаб!

„Гэніяльны Фуказава Токудзо пабудаваў асаблівы атамны апарат, над якім ён працаваў усё сваё жыцьцё. Атамір Фуказава Токудзо мае надзвычайна разбуральную моц. Наконт гэтага японскі вучоны гаварыў, аднак, вельмі асьцярожна і туманна.

„У інтэрв'ю з нашым карэспандэнтам Фуказава Токудзо меў ласку паведаміць, што пры разьвязку гэтае праблемы ён пайшоў па шляху ня прымусовага распаду атамаў, а сынтэзу элемэнтаў. Гэта зусім новы навуковы пункт погляду.

„Потым гэніяльны вынаходца падаў нашай газэце асноўныя ідэі і навуковыя абгрунтаваньні свайго адкрыцьця загадзя напісаныя яго старою рукою на простым кавалачку паперы. Мы асобна падаем іх унізе".

„Самы спосаб сынтэзу элемэнтаў—ключ свае вынаходкі, Фуказава Токудзо пакуль што трымае ў сакрэце. У гутарцы з нашым карэспандэнтам японскі вучоны быў ласкавы заўважыць, што атамір мае пакуль што толькі разбуральную моц, і таму ён баіцца аддаць сучаснаму чалавецтву яго сакрэт. Але ў асноўным праблема атамнае энэргіі разьвязана, і ён неўзабаве спадзяецца знайсьці спосаб ужытку гэтае энэргіі на мірныя мэты. Тады Фуказава Токудзо зараз-жа абвесьціць пра гэта чалавецтву.

„Колькі слоў пра самога Фуказава Токудзо.

„Японскі вучоны прыняў нашага карэспандэнта ў простым пакоі гасьцініцы „Парыж". Ён быў апрануты ў квяцістае кімано, якое дужа пасуе да яго. Гасьцінна прапанаваўшы праз перакладчыка сесьці, вучоны пачаставаў госьця моцнаю японскаю „сакэ", пасьля чаго пачаў гутарку. Ён расказаў шмат эпізодаў з свайго жыцьця і працы. Фуказава Токудзо паходзіць з старога славутага роду японскіх князёў. Змалку навука вабіла яго, і ён праз яе пакінуў усё, чым жыў раней. Паводле палітычных поглядаў Фуказава Токудзо зьяўляецца старонькікам манархічнага ладу. Пра камуністаў вучоны гаворыць з нянавісьцю, але палітыцы ён наогул аддае мала ўвагі. Навука дарэшты запоўніла яго гэніяльны розум.

„Самае цікавае ў Фуказава Токудзо гэта—яго вочы. Яны заўсёды непакойна бегаюць і дапытліва ўзіраюцца ў кожнага, нібы шукаючы разьвязкі вялікіх праблем, што стаяць перад вучоным. Рухі Фуказава Токудзо вызначаюцца нэрвовасьцю, парывістасьцю, якая час ад часу прарываецца праз яго буддыйскі велічны спакой. Здаецца ён парываецца ўцячы ад мітусьні Эўропы да ўрачыстае цішыні навуковага габінэту.





„ У Бэрліне Фуказава Токудзо прабудзе да канца месяца, каб потым працягваць свой падарож па Эўропе. З вучоным заўсёды езьдзіць яго слуга ангелец Джэк—прыклад пачцівасьці і сумленнае адданасьці свайму вялікаму гаспадару.

Разьтвіваючыся, Фуказава Токудзо падаў матар'ялы для нашае газэты і сказаў:

„—Тут выкладзены асноўныя ідэі мае працы, кароткія навуковыя абгрунтаваньні вынаходкі. Хай ваша газэта выдрукуе іх разам з інтэрв'ю. Буду вельмі рады паведаміць вашу газэту першай пра канчатковы разьвязак праблемы мірнага скарыстаньня нутры-атамнае энэргіі".

„Пасьля гэтага Фуказава Токудзо стомлена апусьціўся на крэсла, і яго слуга пачціва праводзіў нашага карэспадэнта да дзьвярэй".

На гэтым карэспандэнцыя канчалася. У газэце былі зьмешчаны тры здымкі. На адным, поруч з нейкаю дзіўнаю прыладаю, непадобнаю ні на адну з сучасных машын, быў зьняты кашчавы маленькі чалавечак з рэдзенькаю мангольскаю бародкаю і акулярамі на шчылінках-вачох. Адна рука старога ляжала на дзіўнай прыладзе, а другая была засунута за столку японскага кімано. Пад здымкам ішоў подпіс:

*„Фуказава Токудзо каля свайго атаміру"*.

Другі здымак уяўляў сабою Джэка, слугу вучонага. Дужы дзяцюк, па-напалеонаўску скрыжаваўшы рукі, глядзеў шырокім тварам з газэтнага аркушу. Надзвычай скэптычная ўсьмешка расьцягвала яго вусны. Здавалася, што ён сьмяецца з усяе Эўропы, якая была нічым супроць вялікага гаспадара.

На трэйцім здымку вучоны стаяў поруч з танклявым карэспандэнтам і артыстычным гэстам паказваў яму на свой атамір. Зграбны карэспандэнт нешта чыркаў у блёкноце.

Асыстэнт прафэсара Стронга ўздыхнуў і паклаў на стол газэту. Ён думаў пра гэтага дзіўнага Фуказава Токудзо, у атамір якога ён шчыра паверыў. І яму здавалася, што са зьяўленьнем гэніяльнае вынаходкі ўсё на зямлі зьменіцца, усё набудзе зусім іншыя формы, прадыктованыя поступам новае энэргіі. У яго ўяўленьні паўставалі сотні тысяч заводаў, фабрык, што ў шалёных тэмпах рухалі пасы, колы, выкідвалі ў сьвет груды тавараў, якія амаль нічога не каштавалі. Вялізныя гарады жылі буйным жыцьцём шчасьлівых вялікіх людзей, вызваленых гэтаю вялікаю ня вычэрпнаю энэргіяй ад працы. Па матэрыкох імчаліся маланкамі зьмяістыя цягнікі. Вялізныя вагоны-аэропляны прарэзвалі паветра. І маленькія атамы вугалю кожнага кавалку матэрыі ўлівалі ў жылы плянэты ўсё новыя струмкі жыцьця, штурхалі яе людзей усё далей наперад сваёю нявычэрпнаю сілаю.

і чалавецтва ўзрастала. У вачох асыстэнта ўзьнімаліся новыя гарады палацаў, паркаў і садоў. Гула зямля ад руху нязьлічоных машын, матораў, якіх рухала энэргія маленькіх атамаў, нарэшце вызваленых чалавекам. Чорныя шахты ўрэзваліся ў глыб зямлі. Грандыёзныя тунэлі прарэзвалі горныя хрыбты. Чалавецтва нястрыманаю лаваю перакочвалася па зямнай кулі ў вечным імкненьні наперад да новых заваёў.

І зямля ўжо не здавальняла яго... Вочы людзей зьвернуты ўжо на далёкія зоркі-плянэты. Дзіўныя апараты пад штуршкамі атамнае энэргіі імчацца ў эфірныя прасторы, пранізваюць мэтэорныя стромы, падаюць на пустэльні далёкіх плянэт. І там чалавек падначальвае сабе новыя стыхіі, дыкуе свае ўласныя законы, сваю волю.

Асыстэнт апусьціўся на крэсла. Дзіўныя атамы! Крыніца нявычэрпных размоў са старым прафэсарам Стронгам, якога ён так паважаў, як найвялікшага ў сьвеце. Стары прафэсар быў упэўнены, што чалавек нарэшце вызваліць энэргію, закладзеную ў атамах, і тады надыйдзе новая эра чалавецтва.

Пасьля марудных доўгіх заняткаў прафэсар часам клікаў асыстэнта ў свой габінэт і там, курачы сігару, марыў разам з ім пра той час.

— Ніякія грамадзкія зрухі,—казаў прафэсар Стронг,—ня зробяць таго, што дасьць гэты магутны поступ зноў народжанае тэхнікі, велічнае хады навукі. У вокамгненьне зьнікнуць прамысловыя крызісы, адамруць жудасныя войны, што ўзрушалі адвеку старую зямлю, і над чалавецтвам паўстане адзінае сонца, сонца чыстае навукі.

Сьветлыя асыстэнтавы вочы лятуценна глядзелі праз залю. Ён і не заўважыў, як шум у залі сьціх, людзі ўсталі і пачалі разыходзіцца.

Прафэсар Стронг мякка крануў яго старою рукою і сказаў:

— Ну, Кароль, хадзем!

Сход Навуковага Таварыства ўхваліў паслаць да японскага вучонага дэлегацыю, каб дакладна даведацца аб яго адкрыцьці і папрасіць Фуказава Токудзо зрабіць даклад пра сваю нязвычайную вынаходку. Прафэсар Стронг запрашаў паехаць разам з ім і асыстэнта.

Узрушаны Карль Клемм узьняўся і моцна сьціснуў руку прафэсара.

— Я хачу верыць у гэтага Фуказава Токудзо!—усхвалёвана сказаў ён прафэсару. —Я перакананы ў тым, што ён сапраўды развязаў гэту праблему. Мне хочацца пабачыць яго.

— Цішэй, сынку! Ня гэтак горача!—з усьмешкаю адказаў Стронг. Ён ужо апранаў каля выхаду паліто, а твар яго быў гэткі-ж узрушаны і ўсхвалёваны, як і ў яго асыстэнта.





## IX.

Хуткае аўто імчала па Бэрлінскіх вуліцах, адлюстроўваючыся ў гладкім асфальце.

Каля маладога чалавека, апранутага па-эўропейску, з усходняй нярухомасьцю Будды паважна сядзеў чалавек з японскім тварам. Вялізныя рагавыя акуляры сядзелі на носе гэтага чалавека, чорны капялюш кідаў цень на сіваватую рэдзенькую бародку, што тырчэла пэндзэлем на падбародзьдзі. Яркае кімано цьвіло на пахмурых бэрлінскіх вуліцах нейкаю экзатычнаю кветкаю і нагадвала зьдзіўленым бэрлінцам маленькія выспы Ніпону, японскае сонца, белую вяршыню Фузі-Ямы, далёкія краіны Ўсходу.

За нязвычайным чужаземцам сядзеў дужы дзяцюк. Ён быў больш звычайны, але і ў ім было штосьць такое, што прыцягвала ўвагу.

На твары дзяцюка была напісана вялікая павага і пашана да чужаземца. Ён ветла нахіляўся да яго і далікатна яму ўсьміхаўся.

---

Асыстэнт Карль моўчкі сядзеў каля прафэсара Стронга і абыякава сачыў, як насустрач аўто беглі ўсхвалёваныя вуліцы, міналіся шматпавярховыя дамы. Сівы сакратар праўленьня таксама маўчаў, пахмура седзячы на заднім сядзеньні.

Усьлед беглі яшчэ два аўто з прадстаўнікамі Навуковага таварыства па вынаходжаньні новых крыніц энэргіі, і зычныя гудкі палохалі людзей, што перабягалі праз вуліцу.

— Як вы думаеце, прафэсар,—сказаў пасьля доўгага маўчаньня асыстэнт, —ці прадэманструе нам Фуказава Токудзо свой апарат?

— Ня ведаю, сынку!—адказаў прафэсар Стронг і зноў замоўк, нешта абмяркоўваючы ў думках і нэрвова пагладжваючы сівую бародку. Пахмуры сакратар праўленьня кашлянуў і прахрыпеў:

— Мне здаецца, панове, што гэты Фуказава Токудзо прыехаў сюды спэцыяльна, каб прадаць сваю вынаходку нямецкаму ўраду.

Лятуценны асыстэнт пачырванеў ад абурэньня і з крыўдаю ў голасе сказаў:

— Ну, вы ўжо скажаце!.. Гэта вялікі чалавек навукі і ён не захоча, бясспрэчна, нажывацца на сваёй вынаходцы. Апрача таго, ён-жа сам ня хоча покуль выдаваць сакрэту атаміру, каб ня даць у рукі чалавецтву гэткае страшнае зброі. Не, я не паверу ў гэта.

— Чаго-б ён у такім выпадку прыехаў сюды?—прабурчэў сакратар.

Асыстэнт на хвіліну задумаўся, а потым горача сказаў:

— Вы-ж чыталі, што Фуказава Токудзо знатнага паходжаньня. Можа ён з палітычных меркаваньняў пакінуў радзіму. Можа ён у навуковым Бэрліне хоча да канца давесьці сваё адкрыцьцё.

Малады асыстэнт усё больш захапляўся. Ён незнарок ухапіўся за руку прафэсара Стронга і горача сказаў:

— Можа ён згадзіцца на нашы прапановы і будзе працаваць далей з нашымі вучонымі аж да поўнага разьвязку праблемы.

Асыстэнт захліпнуўся ад хваляваньня.

Прафэсар Стронг мякка ўсьміхаўся.

— Ня гэтак горача, дарагі мой!—з усьмешкаю сказаў ён.

Прафэсар нецярпліва паглядаў на гадзіньнік і відавочна хваляваўся.

Усё беглі насустрач пахмурыя вуліцы. Народ ішоў па панэлях, перабягаў вуліцы, гэткі-ж заклапочаны і сумятлівы, як заўжды.

„Яны яшчэ ня ведаюць нічога,—шаптаў сам сабе асыстэнт. — Яны яшчэ ня ведаюць, што жывуць напярэдадні вялікага зруху".

І асыстэнт уяўляў, як гэта звычайнае шэрае жыцьцё гораду пачне рухаць дзіўная, усемагутная энэргія, зьмятаючы, адкідаючы, як недарэчнае, усё цяжкае, ганебнае для чалавека.

„Чалавецтва вырасьце на цэлую галаву"—успамінаў ён Стронгавы словы, і яму здавалася, што ўжо ідуць гэтыя вялікія людзі велічна-магутнае навукі. Іхныя твары дыхаюць розумам, яны ўпэўнены ў саміх сабе, і цяжкія штодзённыя клопаты ўжо ня трывожаць іх.

Штуршок аўто вывеў асыстэнта Карля з задумы. Гэтак-жа беглі стракатыя вуліцы. Аўто праляцела праз мост на мутнай Шпрэе і бегла далей па наглянцованым асфальце. Прафэсар Стронг у задум'і курыў сыгару, а ззаду сівы сакратар аблакаціўся на сьпінку і так застыў.

Асыстэнтавы думкі пабеглі ізноў роўна і імкненна.

„Калі-б жыў бацька! — усплыло раптам асыстэнту.—Ён-жа таксама шмат працаваў над праблемаю нутрыатамнае энэргіі.— Дзе дзявалася яго праца? Чаго ён дамогся? Праклятая вайна! Чаму гэтая атамная энэргія ня прышла тады, у 1914 годзе, і не ператварыла вайны ў сьмешны фарс?"

І раптам перад асыстэнтам усплыў ізноў балючы малюнак, створаны ягонай фантазыяй, памятлівымі думкамі, абуранымі недарэчнаю бацькаваю сьмерцю.

Расійскі фронт. Недзе каля бацькавага маёнтачку выбухаюць стрэлы. Сунуцца азьвярэлыя расійцы. Яны барадатыя, у шэрых шынэлёх і ўсе, чамусьці, падобныя на гэтага савецкага інжынэра Богуша. Вось яны ўрываюцца ў ціхі габінэцік Бэрнгардта Клемма, цягнуць яго. Ён нямецкі шпіён. Па падлозе раскіданы паперы. Там — вынікі шматгадовае бацькавае працы. Заліваецца агнём габінэт.

...Каля сьценкі—схіленая постаць Бэрнгарта Клемма з валасамі сівымі і даўгімі. А насупраць—шэрыя шынэлі, вінтоўкі, накіраваныя яму ў грудзі. І нейкі барадаты (як ён падобен на гэтага інжынэра Богуша!), не сьпяшаючыся, аддае каманду: р-раз!..

— О-о-о!..—вырвалася супроць волі з асыстэнтавых вуснаў.

Пахмуры сакратар праўленьня спалохана зірнуў на Карля, а прафэсар Стронг устрывожана ўзяў асыстэнта за руку.

— Што з вамі, Карль?

Але асыстэнт ужо зноў глядзеў на шпаркія вуліцы, што беглі за аўто і спакойна сказаў Стронгу:

— Так, прафэсар... Нэрвы. Вы не зважайце.

Прафэсар Стронг дапытліва глядзеў у твар свайму асыстэнту і нібы пра сябе гаварыў:

— Вам патрэбен адпачынак, Кароль. Вы стаміліся, я бачу. Вы апошні час замнога займаецеся. Я раю вам узяць водпуск.

Асыстэнт нічога не адказаў і прафэсар Стронг пачаў ласкава гутарыць з ім.

— Вы ведаеце, Кароль, што я заўсёды цікавіўся вашым лёсам. Ваша ўпартая праца над атамнаю тэорыяй прыцягнула мае сымпатыі да нас. Вы хочаце працягваць справу вашага нябожчыка-бацькі...

Прафэсар задумаўся на хвіліну, потым пачаў распытваць у асыстэнта пра ўнівэрсытэцкія заняткі, таварышаў.

— Як маецца чарнявая Эльлен!—хітранька, нібы між іншым, запытаў ён і з усьмешкаю заўважыў, як чырвоная фарба заліла асыстэнтаў твар. Клеммава аднакурсьніца Эльлен—яго стары раман. Ён цягнецца з леташняга году. Але апошні час справа з ёю чамусьці ня ладзілася. Асыстэнту Карлю здавалася, што яна пачала аддаляцца ад яго. І гэта страшэнна мучыла асыстэнта.

— Яна дужа многа працуе цяпер,—прамармытаў ён. —Я рэдка з ёю бачуся. І з захованым нездавальненьнем дадаў: Яна цяпер працуе разам з гэр Богушам. Вы ведаеце яго?—Савецкі падданы...

— Богуш? Гэр Богуш?—у задуме адазваўся прафэсар. —Здольны малады чалавек, вельмі здольны... надзвычай ўпарты і здольны чалавек. Шмат абяцае ў будучым.

— Праўда?—з усьмешкаю прагаварыў Карль.—Ён—камуніст, прафэсар!

— Камуніст?—перапытаў стары.—Камуніст?—І раўнадушна дадаў:—Ну, дык што-ж? А вы адкуль гэта ведаеце?

— Я ўпэўнены ў тым!—пераконана сказаў асыстэнт.

— Ну, што-ж?—ізноў роўнадушна паўтарыў прафэсар і зусім ужо спакойна сказаў:—вы ведаеце, Карль, што я ад палітыкі стаю вельмі далёка, нават больш таго—я ня цікаўлюся ёю.

Карль замоўк і запаліў папяросу.

Вуліцы пацішэлі. Самыя дамы зрабіліся меншымі—цэнтр быў ужо далёка, і народ ішоў па вуліцы рэдкімі кучкамі бяз усякага сьпяшаньня і мітусьні.

За высокімі каштанамі паказаўся шэры дом, і стракатая шыльда пракрычэла яркім скляпеньнем літараў: „Готэль Парыж“. Аўто спыніліся і дэлегацыя пачала вылазіць з аўто.

Узыходзілі па шырокіх сходках гасьцініцы шумна. Ускудлачаны прафэсар гэр Штампф нават жартаваў:

— Ну вось мы і пабачым зараз гэтага японскага гэнія.

Але ўбачыць японскага вучонага дэлегацыі не ўдалося.

Клемм потым з прыкрасьцю ўспамінаў пра гэта, а прафэсар Стронг узрушана гладзіў бараду і паўтараў:

— Не разумею!.. Проста не разумею!

Справа ў тым, што на званкі ў пакой, заняты Фуказава Токудзо, пасьля доўгага, проста няпрыстойнага, чаканьня, выйшаў нейкі дужы дзяцюк з вялізнымі чырвонымі рукамі і, крытычна зьмераўшы позіркам дэлегацыю, коратка сказаў:

— Фуказава Токудзо цяпер нікога ня прымае. Ён дужа хворы і просіць прабачыць наведвальнікаў.

Дэлегацыя перакінулася зьбянтэжанымі позіркамі, а ўсхвалёваны асыстэнт зрабіў спробу загаварыць з дзяцюком:

— Але-ж паслухайце, паважаны. Гэта дэлегацыя Бэрлінскага Навуковага Таварыства. Я мысьлю, што шаноўны Фуказава...

— Ня прымае, кажу вам!—даволі груба паўтарыў дзяцюк і ўзяўся за клямку дзьвярэй. Потым ізноў павярнуўся да гасьцей і мякчэй дадаў:

— Ён хворы, дужа хворы і ляжыць у ложку...

І зачыніў дзьверы.

— Што-ж, хворы—значыць хворы...—ненатуральным голасам сказаў прафэсар Стронг. І разгублена пачухаў пераносіцу.—Пойдзем, калегі!..

Зьбянтэжаная дэлегацыя рушыла ўніз па сходках у поўным неразуменьні таго, што адбылося.

Праз хвіліну аўто зрушылі з месца і плаўна пакацілі па вуліцы ад негасьціннага гатэлю „Парыж“.

(*Працяг будзе*)



**Зьмітрок Астапенка**

# Вызваленьне сіл

(*Раман*)

X[1])

Праз апушчаныя шторы гатэлю „Парыж“ у вакно пакою, які займаў японскі вучоны Фуказава Токудзо, палахліва глядзелі ўсьлед аўто з дэлегацыяй тры чалавекі.

Крыху адсунуўшы штору, ледзь ня душачыся ад сьмеху, выглядаў сын фрау Амаліі Фрыц. За ім, узьняўшыся на цыпачкі, стаяў дужы матрос. А вакол іх бегаў, стараючыся зазірнуць у шчыліну, нязвычайна перапалоханы і ўстрывожаны хударлявы чалавек. Японскія акуляры зьехалі яму на кончык носу, гальштук зьбіўся на бок.

— Паехалі!—гучна абвясьціў матрос.

— Паехалі! Ох-ха-ха-ха!—пакаціўся з рогату на канапу Фрыц і крыкнуў праз сьмех:—панове, вылазь! Небясьпекі няма!

Адразу-ж з-за парт‘ер, з кожнага кутка экзатычна ўпрыгожанага пакою павысыпалі шумлівыя буршы, з рогатам пасядалі на нізенькіх пуфах, канапах, дыванох.

— Ох-хо-хо..! каб яго, гэтага Фрыца!

— Ой, не магу, панове!—рагатаў сухаваты, высокі, Леапольд і паказваў пальцам на хударлявага чалавечка, падобнага да японца.

— Ой, зірнеце на гэтага геніяльнага вынаходцу!

І яшчэ мацнейшы рогат разьлёгся па пакоі.

— Ну, што? Не казаў я табе, Ганс? Не казаў я вам, панове, што наладжу ў Бэрліне, добрыя забаўкі? Га?

— Гох нашай карпарацыі! Гох Фрыцу!—крыкнуў вуграваты тонкі студэнт, і ўсе, падкінуўшы ўгару шапачкі, крыкнулі з рогатам.

— Гох! Гох! Гох!

[1]) Пач. гл. у „Маладняку“ № 7.

Чырвонарукі матрос раздушыў пад сабою крэсла і, захоплена махаючы кавалкам квяцістае тканіны, крычаў:

— Hoch!! Vive!... Ур-р-а!

Нават перапалоханы чалавечак хіхікаў дробненькім, як гарохам сыпаў, старэчым сьмехам. Потым ён зрабіўся сур'ёзным і, заклікаючы да спакою, закрычаў:

— Панове! Студэнты! Студэ-эньцікі!

Ніхто яго ня слухаў і чалавечак дарэмна чапляўся то за высокага Леапольда, то за тоўстага Фрыца, паўтараючы:

— Панове, зразумейце—я больш не магу! Ну, пажартавалі і досыць. Спынім гэту дурную камэдыю!

Рогат рабіўся ўсё гучнейшым.

---

За паўтары тыдні да гэтага з чыннага доміку фрау Амаліі з вясёлаю гамонкаю выйшла група маладых буршаў на чале з тоўстым чырвонашчокім Фрыцам. Ён і яго таварышы толькі ўчора прыехалі з Гайдэльбэрскага унівэрсытэту і яны меліся слаўна прабавіць свае вакацыі ў шумлівым Бэрліне, далёка ад унівэрсытэцкага гарадку Гайдэльбэргу.

— Што, Ганс, не казаў я табе, што ў мамахэн мы знойдзем патрэбны прытулак для нямецкага бурша?—крыкнуў, абыймаючы таварыша, тоўсты Фрыц.

— Так,—пахмура сказаў сухаваты высокі Леапольд,—але-ж ты абяцаў нам нязвычайныя забаўкі... Дзе яны? Можна падумаць, што ўсе вакацыі ты пратрымаеш нас каля падолу фрау Амаліі.

— Не,—вясёла адказаў Фрыц.—Я абяцаў сваёй карпарацыі знайсьці ў Бэрліне добрыя забаўкі і я выканаю абяцаньне... Але трэба пашукаць.

— Трэба,—перадражніў Ганс,—а куды мы зараз?

— Зараз?—перапытаў Фрыц. І раптам, ляснуўшы сябе па ілбу, ускрыкнуў:—Зараз мы пойдзем у піўніцу старого Фічэ. Я там ведаю аднаго цікавага чалавека. Клянуся барадою рэктара, мы абляпаем цудоўную справу!

Ён пацягнуў таварышоў па шырокай вуліцы. Студэнты ішлі, гучна рагочучы. Стрэчныя пастараніліся, даючы ім дарогу. Нейкі паважны стары паглядзеў ім усьлед і, паківаўшы здаволена галавою, праказаў:





— Буршы!... вясёлы народ... моладзь.

І, яшчэ раз кіўнуўшы сівою галавою, пакрочыў далей.

---

У піўніцы старога Фічэ сухаваты, з рэдзенькаю мангольскаю бародкаю, генэрал Белакапыцін перакуліў чарку шнапсу і, гучна крахтануўшы, расчулена сказаў суседу:

— І вось, даражэнькі мой, пройдзеш так вось горда па фронце... Шэрагі стаяць, не паварушацца... Парад. Роўна стаяць падлюгі... Пройдзеш, скажаш: Слаўныя арлы, малайцы лейбгвардзейскага палка яго вялікасьці..."

Старэнькі генэрал ня скончыў і апусьціў на заліты столік галаву з рэдзенькімі валасамі.

Дужы матрос бяз шапкі ў падранай куртцы бяздумна глядзеў на Белакапыціна і, не разумеючы мяшанае з нямецкаю расійскае мовы, парываўся сам расказаць:

— Мой п-параход адыходзіў увечары... І павяла-ж мяне нячыстая ў тую піўніцу... А цяпер-вось... Гэй там! Шнапсу!

Крывы гаспадар жвава падбег і, змахнуўшы крошкі, паставіў новую бутэльку:

— Бог цябе не забудзе, матросікі...—сьлязьліва сказаў генэрал, прымаючы чарговую чарку.—Дык вось, як гэта я казаў?

У піўніцы прыбаўлялася народу. Грузны, абадраны дзяцюк міргнуў нешта гаспадару і сеў за вольны столік, цяжка азіраючыся вакол.

— Шнапсу!

— За тваё здароўе...

У піўніцы ўзьнімаўся яшчэ большы гармідар. Крывы гаспадар усё шпарчэй завіхаўся каля брудных столікаў і, лісьліва кланяючыся наведвальнікам, адчыняў новыя і новыя бутэлькі.

П'яны матрос ужо абнімаў кашчавага генэрала і, плачучы расказваў:

— Я выйшаў толькі на гадзіну... „Гамбург" адыходзіў аб адзінаццатай увечары... Мы слаўна прабавілі час у тэй таварне... Але прачнуўся я ў цягніку на Бэрлін... „Гамбург" паплыў без мяне... Чаго, пытаюся я, чорт пагнаў мяне ў Бэрлін?...

Матрос крычаў на вуха генэралу, але той толькі нешта расчулена мармытаў і лез цалавацца.

— Я сышоў на вакзале з пяцьцю маркамі... Мне не папасьці ўжо на „Гамбург"... Шнапсу!—крыкнуў матрос, грукаючы кулаком.

Дзьверы шырока расчыніліся, у піўніцу ўваліліся на чале з тоўстым Фрыцам буршы. Яны з рогатам, з гвалтам ссунулі адзін да аднаго чатыры столікі і заказалі піва.

Тоўсты Фрыц узьняў руку, заклікаючы да парадку, і пачаў:

— Панове! Я маю надзвычайны плян! Толькі ў галаве члена нашае карпарацыі мог узьнікнуць такі грандыёзны плян. Увага, панове!

Фрыц палез ў кішэню і выцягнуў адтуль дробна сьпісаныя пакамечаныя паперкі.

— Як я вам ужо казаў,—урачыста пачаў ён,—у маёй мамахэн кватэруе савецкі інжынэр Богуш. З ім таварышкуе вядомы вам Оскар Штальман. Але ня ў гэтым рэч. Справа ў тым, што яны абудвы апошнім часам звар'яцелі!..

Буршы голасна зарагаталі, а высокі Леапольд запытаў:

— А гэтыя паперкі што азначаюць?

— Глядзеце, панове!—закрычаў Ганс.—Нейкія формулы! Матэматыка, ратуйце!—нібыта спалохаўся ён.

— Увага, панове!—крычаў Фрыц.—Увага! Цяпер самае цікавае Справа ў тым, што гэтыя вось паперы і ёсьць прычына вар'яцтва нашага кватэранта і гэр Штальмана. Я ня ведаю, адкуль яны гэта ўзялі, але ад іх яны згубілі ўвесь свой спакой. Яны насіліся з імі, як шалёныя. Ну, я, каб на спакоі дасьледваць гэта, скраў паперкі і...

— І што?—зацікаўлена запытаў вуграваты бледны бурш.

— Нічога!—спакойна адказаў Фрыц.—Як выявілася, гэта—цэлая дысэртацыя пра атамную энэргію, пра якую цяпер гэтак многа, трубяць. Апрача таго, тут ні пачатку няма, ні канца...

— Ды нам зусім няцікавы гэтыя формулы!—раззлаваўся кашчавы Леапольд.—Гавары, што ты надумаў!

Фрыц з таемным выглядам сьцішыў таварышоў і сказаў:

— Справа ў тым, панове, што тут трактуецца пра нейкі. дурны атамны апарат, нязвычайнае сілы...

— Ого!—хорам ускрыкнулі буршы.

— Ня турбуйцеся, панове!—ізноў узьняў руку Фрыц.—З гэтых лісткоў усё роўна нічога нельга зразумець. І наогул атамы—глупства! Але гэты таемны апарат, пра які пішацца тут, наштурхнуў мяне на цікавыя думкі. Панове!—урачыста сказаў ён.—У мяне да паслуг нашае карпарацыі ёсьць грандыёзны плян. Вы памрыцё са зьдзіўленьня, выслухаўшы яго.

Буршы шчыльней згрупаваліся вакол Фрыца і пачалі слухаць. Дружны рогат выбухаў між імі. Яны ўзбуджана размахвалі рукамі і то крычалі на ўсю піўніцу, прыцягваючы агульную ўвагу, то таемна шапталіся паміж сабою.

Нарэшце Фрыц скончыў. Буршы, душачыся ад сьмеху, чынна паселі на свае месцы, а Фрыц заказаў новую порцыю шнапсу і піва і вылез з-за століка. Ён пайшоў да п'янага генэрала.

— Гэр Белакапыцін!—далікатна схіліўся ён над ім.—Можна вас запрасіць у нашу кампанію?

Відаць, генэрал ведаў раней Фрыца, бо адразу пазнаў яго і зараз-жа ўстаў, але, зірнуўшы, на матроса, сеў ізноў.

— Я н-не магу пакінуць м-майго таварыша! Знаёмцеся,—п'яна сказаў генэрал.—М-матрос баявога гамбургскага крэйсару Джон... Джон... я забыўся ягонае прозьвішча. Увогуле ён п'яны трапіў у Бэрлін і прапіўся ў дым...

Генэрал уздыхнуў, аддыхваючыся ад гэтае колькасьці праказаных слоў.

Фрыц зірнуў на таварышоў, але буршы ўжо крычалі з-за столікаў, рагочучы і махаючы рукамі:

— Вядзі іх! Вядзі абодвых!

— Ого! Тыпы якія!..

— Гэты стары нагадвае мне кітайскага хунхуза!

— Але, у ім нешта ёсьць...

— А гэты матрос! Ганс, бачыш?

— Ха-ха-ха! Дзе яго параход?

— Не! Гэты стары—сапраўдны кітаец.

— Гэта расійскі былы генэрал Галяктыён Белакапыцін!—адрэкамэндаваў генэрала Фрыц.—Мой нядаўны знаёмы.

— В-вітаю в-вас, нямецкае студэнцтва... моладзь... Гайдэльдэль-бэрг... карпарацыі... дуэлі...—мармытаў генэрал, соваючы рукі і сьлязьліва ўсьміхаючыся.—Моладзь... Н-надзеі буд-дучага...

Буршы пасадзілі паміж сабою генэрала і каля яго—матроса.

— За ваша здароўе, Галяктыён!—узьняў чарку Фрыц.

— Дзякую, дарагія студэнцікі!—расчулена мармытаў Белакапыцін.—П'ю за прагрэс, за слаўных студэнтаў!

Gaudeamus igitur,
Iuvenes dum sumus.
Post iucundam juventutem...

п'яна зацягнуў ён, але спыніўся і змоўк, ківаючы галавою.

Матрос, седзячы каля яго, сурова перакульваў чарку за чаркаю і ўвесь час махаў з адчаем рукою.

— Ну і няхай... хай сабе...—мармытаў ён.

— Шаноўны гэр Белакапыцін! — зьвярнуўся да генэрала Фрыц.—Мы даведаліся, што ў вас цяпер некаторыя цяжкія матар'яльныя абставіны...

— Так...—кіўнуў галавою Белакапыцін.—Бальшавікі ў мяне забралі ўсё. Вось...—ён паказаў урачыста на матроса,—сей матрос з ангельскім імем сёньня падтрымліваў мяне!

— Джон пайшоў ня ў той рэйс,—пахмура сказаў матрос і перакуліў яшчэ чарку.

— Дык вось, гэр Белакапіцын, — не сунімаўся Фрыц.—Наша карпарацыя Гайдэльбэрскага унівэрсытэту...

— Гайдэльбэрг... Гайдэльбэрг...—патэтычна пачаў генэрал.—Горад навукі, горад храмаў навукі...

— Наша карпарацыя вырашыла дапамагчы вам, генэрал, у вашым цяжкім становішчы некатораю грашоваю сумаю...

— Бог вас аддзякуе, панове!

Відаць, яму, п'янаму, не здалося гэта асабліва дзіўным.

— Карпарацыя бярэ на сябе абавязак выплаціць вам, генэрал, суму, якое хопіць, каб пражыць бяз клопатаў цэлы месяц.

Генэрал зьдзіўлена разявіў рот.

— Апрача таго,—гаварыў далей Фрыц і ўсё буршы сьцьвярджалі яго словы:—карпарацыя на працягу месяца аплачвае вам чалавека для дробных паслуг...

Фрыц павярнуўся да матроса і сказаў:

— Прабачце, я ня ведаю вашага прозьвішча, вы можа' згодзіцеся паступіць на службу да генэрала Белакапыціна? Запэўніваю, што аплатаю будзеце здаволены.

Матрос абыякава кіўнуў галавою.

— Вось Вам, гэр Белакапіцын ваш слуга, ваш... ваш...

— Ад'ютант!—прахрыпеў генэрал.





Ад усяго таго, што здарылася, яго хмель пачаў праходзіць, і ён яшчэ больш зьдзіўлена запытаў:

— Вы гэта сур'ёзна? Завошта?

Буршы, як сурьёзней кіўнулі галовамі, а Фрыц, мякка паціснуўшы Белакапыціну руку, сказаў:

— Мы робім гэта, шануючы ў вашай асобе, генэрал, расійскую культуру, затаптаную барбарамі-бальшавікамі...

— Так, так...—ізноў расчуліўся генэрал.

— Але, вы—сказаў Фрыц,—вы за гэта павінны нам зрабіць невялічкую паслугу.

Фрыц нізка нахіліўся да генэрала Белакапыціна і пачаў нешта ціха тлумачыць яму. Генэрал уважліва слухаў, усё больш зьдзіўляўся, рухам галавы адмаўляўся, але Фрыц настойліва шаптаў:

— Гэта-ж не надоўга, генэрал! Паверце, вы нам зробіце вялікую ласку.

Генэрал задумаўся, паварушыў рэдкімі вусамі і працягнуў руку:

— Грошы зараз!

Буршы вясёла зашумелі. Фрыц даў грошы, схаваў расьпіску і сказаў генэралу.

— А цяпер, гэр Белакапыцін, дазвольце разьвітацца. Вы перасяляецеся ў гатэль „Парыж". Так? І будзьце ласкавы заўтра прыйсьці аб адзінаццатай гадзіне да краўца Мюльлера на Ляйпцыгерштрасэ.

Буршы цырамонна разьвіталіся з генэралам і з рогатам выйшлі.

---

Назаўтра гэр Мюльлер, кравец на Ляйпцыгерштрасэ, быў зьбянтэжаны нязвычайным заказам.

Аб адзінаццатай гадзіне ў яго майстэрню ўвайшлі два дзіўных чалавекі. Адзін з іх быў сухаваты, зморшчаны стары з простым павайсковаму станам, другі—высокі, дужы дзяцюк у вопратцы, якая крыху нагадвала матроскую форму. За імі ўвайшоў яго даўны заказчык Фрыц і, прывітаўшыся, сказаў:

— Гэр Мюльлер, гэтым паном патрэбна, як хутчэй справіць японскія гарнітуры. Асабліва вось гэтаму шаноўнаму старому. Вы ня ведаеце, хто гэта? Гэта славуты японскі вучоны, прафэсар...

Фрыц вымавіў нейкае дзіўнае прозьвішча, якога так і не запомніў гэр Мюльлер.

Японскі прафэсар непакойна кашлянуў, а гэр Мюльлер зьбянтэжана агледзеў усіх іх і замяшана сказаў:

— Але-ж паслухайце... Гэта мне ў навіну. Я ніколі ня шыў японскіх гарнітураў.

— А цяпер пашыеце!—безапэляцыйна сказаў Фрыц і пераканаўчым тонам дадаў:—прафэсар вам добра заплоціць. Мы вам увогуле пакажам, як шыць.

Гэр Мюльлер яшчэ раз зьдзіўлена аглядзеў іх і пачаў праглядаць камплект часопісаў мод.

Японскі прафэсар сарамліва пераступаў з нагі на нагу. Рэдкія валасы на ягонай барадзе глядзелі ўва ўсе бакі. Раскосыя вочы з чырвонымі павекамі і мяшкамі пад імі былі мутныя.

За ім, пачціва выцягнуўшыся, стаяў слуга, хаваючы ў шматкі падзёртае вопраткі вялізныя чырвоныя рукі. Вочы яго зьбянтэжана міргалі і блукалі па пакоі. Але па выглядзе было відаць, што слуга не японец.

---

На дзьвярох майстэрні гэр Мюльлера было вывешана:

*„Краўца няма ўдвара*
*Просяць зайсьці заўтра“*

Калі-б хто ўвайшоў у пакой, дык убачыў-бы там сярод раскіданых шаўковых ярка-расквечаных тканін зусім голую постаць японскага прафэсара. На мэтр ад яго, пачціва выцягнуўшыся, нярухома стаяў слуга яшчэ ў тэй самай падзёртай вопратцы, а каля прафэсара завіхаўся зусім зьбянтэжаны няшчасны кравец гэр Мюльлер.

— Прафэсар,—з павагаю гаварыў з крэсла Фрыц,—здаецца, ў вас, у Японіі, споднікаў ня носяць. На голае цела, як даведаўся гэр Мюльлер, на сьцёгны накручваецца белае, тонкае „юмодзі“, нешта накшталт нашага рушніка, потым—халацік з тонкае шаўковае сьветлае тканіны, так званы „дзібан“. На „дзібан“, калі халодна, апранаюць яшчэ халацік з шэрсьці—„сітачы“, але цяпер лета і таму хопіць „кімано“. Гэр Мюльлер, паклапацецеся, каб кімано было як мага з ярчэйшага, квяцістага шоўку. Годнасьць прафэсара не дазваляе яму хадзіць у простым кімано.





Японскі прафэсар нешта нездаволена прабурчэў, на чужой мове. Выразна пачулася:

—... в-вашу мать...

Слуга-матрос вясёла ўсьміхнуўся, пачуўшы знаёмыя словы, якія ён часта чуў у часе плаваньняў па чужых партох, а Фрыц устрывожана падняўся і сказаў краўцу:

— Прафэсар думае, што ў эўропейскіх умовах ня зусім ёмка хадзіць бяз споднікаў. Прыдзецца вам, гэр Мюльлер, дастаць трусікі.

Прафэсар уважліва разглядаў сябе голага ў высокае люстра. Высхлае, кашчавае цела яго было нейкага нявыразнага жоўтага колеру. Гострыя рабрыны выпіналіся пад скураю. У цёмных зморшчках жывот канчаўся тонкімі, як запалкі, нагамі, якія густа парасьлі рыжымі валасамі.

— Мер-рзосьць,—прабурчэў „прафэсар“.

І, агледзеўшы ў люстра заднія часткі, дадаў:

— Без-зобразие!

Відаць, прафэсар быў крыху незадаволены сваім выглядам, але Фрыц, не зразумеўшы па-японску, падагнаў краўца:

— Хутчэй-жа, гэр Мюльлер, трусікі! Прафэсар трывожыцца.

Пакрэхтваючы, прафэсар нацягнуў трусікі. Цяпер гэр Мюльлер завіхаўся, прымерваючы надзвычай тонкі белы шоўк, робячы адзнакі на кавалку паперы.

— Гэр Мюльлер!—ня суціхаўся Фрыц.—Дзібан вы зробіце потым. Зараз лепш пачнеце кімано. Не стаяць-жа прафэсару голым! Так, вось гэта тканіна падыйдзе. Не пашкодзілі-б буйнейшыя кветкі, але нішто.

Кравец прымерваў на худыя прафэсаравы плечы ярка-расквечаны шоўк і клапаціўся:

— Можа-б тут аборачку, прафэсар? А? Як у вас? На мой погляд, тут абавязкова трэба зрабіць столку.

Маўклівы прафэсар нешта прабурчэў і з адчаем зьвярнуўся да Фрыца, супроць нечага пратэстуючы.

— Гэр Мюльлер,—паслужліва сказаў Фрыц.—Прафэсар хоча мець гарнітур хутчэй. Прысьпешце работу.

Нарэшце гарнітур быў скончаны. Кравец паднёс да прафэсара незвычайна доўгі і шырокі пояс з багата вышытае расквечанае тканіны.

— Ну вось і „обі"!—здаволена сказаў Фрыц.—Цяпер, здаецца, усё. Акуляры!—раптам ускрыкнуў ён.—Японскія акуляры! І што на галаву? Гэр Мюльлер,—зьвярнуўся ён да краўца:—пашлеце, калі ласка, па акуляры. Вялікія рагавыя акуляры. На галаву няхай сабе ўжо купяць звычайны капялюш чорнага колеру з шырокімі палямі. Хутчэй!

З прафэсаравым слугою была скончана хутка.

— Слуга ў прафэсара не японец. Яму можна дацъ просты прыстойны эўропейскі гарнітур,—сказаў Фрыц краўцу.—Бачыце, гэр Мюльлер, шаноўнага прафэсара і яго слугу ўчора ноччу абрабавалі на вуліцы, калі прафэсар выходзіў на пагулянку, і таму яны ў гэткім становішчы.

— Адкуль яны прыехалі?—пацікавіўся гэр Мюльлер.

— З Гайдэльбэргу!—не запнуўшыся, адказаў Фрыц.—Прафэсар рабіў у нашым унівэрсытэце даклад пра дасягненьні японскае навукі і адтуль разам са мною паехаў у Бэрлін. Шчыры дзякуй, гэр Мюльлер. Колькі вам належыць? Бывайце!

## XI

З таго часу генэрал Белакапыцін шмат чаго перажыў. Сказаць папраўдзе, ён ужо з першага дня шкадаваў, што ўблытаўся ў гэту непакойную гісторыю, але пэрспэктыва забясьпечанага жыцьця на цэлы месяц спакусіла яго. Дужа нехацелася вяртацца ізноў у брудную каморку пад самым дахам вялізнага дому і жыць з дня ў дзень на злыбедныя капейкі, якія так неахвотна кідаў расійскаму эмігранту чужы Бэрлін.

Але гэтыя трывожныя, хоць і забясьпечаныя, дні змучылі ўшчэнт генэрала Белакапыціна.

Пачалося з таго, што яго апранулі ў недарэчныя японскія ўбраньні і ўдзяўблі ў галаву ягонае новае імя—Фука-за-ва Току-дзо. Потым тры дні ў гэтым вось пакоі дурныя буршы навучалі яго недарэчнай ролі японскага вучонага-вынаходцы. Вучылі як сядзець на скурчаных нагах, вучылі дзівацкім гэстам і паклонам і нарэшце—самае цяжкае...

Раніцою прышоў Фрыц і сказаў суровым і безапэляцыйным тонам:





— Цяпер вы павінны вучыць японскую мову. Нам засталося два дні.

Сьвяты божа, што гэта была за навука! З тоўстага лексыкону Фрыц выцягваў языкаломныя жудасныя словы і прымушаў завучваць.

— Пане Белакапыцін!—казаў ён.—Запомніце: „Домо-арігато-годза-імасу" азначае—„дзякуй",—і тлумачыў далей:—у гэтым цудоўным сказе, ведаеце, паняцьце „дзякуй", выражае толькі адно слова, а менавіта—„арігато", а рэшта: „домо", „годза-імасу"—так сабе, для большае далікатнасьці. Не забудзьцеся на тое, каб пры звароце да чалавека ўжываць часьцінку „сан". Гэта азначае вяршыню далікатнасьці. Гэта азначае, што вы зьвяртаецеся не да тае асобы, з якою гаворыце, а да цені яе, да яе другога духа, ці што, не жадаючы турбаваць самога суразмоўцу. Японцы—далікатны народ!—навучальна паўтараў Фрыц.

Цэлыя дні бедны генэрал Белакапыцін мусіў, седзячы на ўласных скурчаных нагах, завучваць: „оно"—мужчына, „мэно"—жанчына,—„оокуно канэ"—грошы, „амакі"—салодкі, „ямаві ару"—хворы, „конніцы"—сёньня, „коко"—тут...

Потым Фрыц пачаў вучыць японскаму лічэньню. Бадай ня вывіхнутым языкам Белакапыцін паўтараў за ім:

— „Фіто—1, фута—2, мі—3, іо—4, іцу—5, му—6, нана—7, іа—8, коконо—9, тоо—10.

І нарэшце Фрыц закончыў сваё навучаньне вельмі мудрым выслоўем, якое ён раіў Фуказава Токудзо ўжываць у гутарцы з наведвальнікамі.

Бедны генэрал абліваўся потам, завучваючы яго:

—„Кангае но наі ханасі во суру іорі ва дамантэ іру хо гаіі то омоу". Гэта азначала—„Я мысьлю, што лепш маўчаць, чым гаварыць неразважліва".

— Гэта вам можа спатрэбіцца,—казаў Фрыц.

На другі і апошні дзень навучаньня Фрыц прышоў надзвычай захоплены і ўсхвалёвана сказаў:

— Гэр Белакапыцін, вы павінны яшчэ вывучыць гэты цудоўны верш! Гэта для таго, каб падумалі, што вы добра знаёмы з мастацтвам.

— Паслухайце, панове,—зьвярнуўся ён да буршаў,—якое хараство!

І, стаўшы ў позу, Фрыц з чуласьцю прачытаў:

Іро ва нівовето, дзірінуру во.
Вака іо тарэ со дзуне нарамун?
У-ві -но оку яма кефу койетэ,
Асакі юмемісі, ефі мо сесу...

— Вы ведаеце, што гэта азначае?—захоплена сказаў буршам Фрыц.—Тут сказана, што

Жоўкнуць фарбы, зьнікаюць водары.
Што вечнага, сталага ў гэтым сьвеце?
Дзень тоне ў глыбіні быцьця,
Як сумная мара зьмярцьвелае думкі"...

І генэрал Белакапыцін пачаў завучваць верш.

На трэці дзень, калі навучаньне было закончана, выявілася, што генэрал Белакапыцін пазабываў усё, што вучыў. Гэта было жахліва! Фрыц перад усімі буршамі сароміў яго ў дурноце, беспамятнасьці. Ён дзівіўся, як гэта генэрал Белакапыцін ня мог засвоіць гэткае цудоўнае, прыгожае мовы.

Але, на шчасьце, дзьве рэчы засталіся ў памяці генэрала Белакапыціна. Гэта—слова „арігато" (дзякуй) і філёзофска-разважлівы радок з вершу:

Вака іо таре са дзуне нарамун? 1)

Гэтым лексыконам і апэраваў потым генэрал Белакапыцін.

Няшчасьці пачаліся з чацьвертага дню.

Раніцою Фрыц пасадзіў Белакапыціна ў круг буршаў і сказаў.

— Слухайце ўважліва! З гэтага дню вы ёсьць ня хто іншы, як вялікі японскі вучоны імем Фуказава Токудзо. Вы ўсё жыцьцё працавалі над праблемаю скарыстаньня ўнутрыатамнае энэргіі. Што гэта азначае,—ня ваша справа, толькі запомніце добра пра атамы. Чуеце—„атам"! Далей! Вы вынайшлі нязвычайны апарат—атамір, машыну страшнае разбуральнае сілы. Вы прыехалі ў Бэрлін з Японіі, вандруючы па Эўропе, і па нямецку гаворыце дрэнна. Я буду вам за перакладчыка. Зразумелі?

1) Што вечнага, сталага ў гэтым сьвеце?





Праз гадзіну высокі Леапольд прынёс дзіўную прыладу—цэлую сыстэму трубак, спружын, колцаў,—да якое няшчасны Фуказава Токудзо баяўся дакрануцца.

— Гэта рэч,—урачыста сказаў ён таварышоў,—уяўляе сабою спалучэньне частак прымусу, пульвэрызатару, мышалоўкі, вэлёсыпэду і інш., і інш., і інш., а для вас, пане Фуказава Токудзо, гэта—пякельны апарат страшэннае зьнішчальнае сілы—атамір вашае ўласнае канструкцыі.

І з урачыстым паклонам Леапольд перадаў апарат генэралу.

Пад вечар таго-ж дню ў пакой уляцеў, запыхаўшыся, Фрыц і крыкнуў таварышом:

— Пачынаецца! Хавайцеся! Пане Фуказава Токудзо, пачынайце сваю ролю!

Буршы пахаваліся за шчыльныя парт'еры. Фрыц пасадзіў генэрала Белакапыціна на дыван і паставіў каля яго нярухомага матроса. З хвіліну панавала цішыня. Пан Белакапыцін зьбянтэжана лыпаў вачыма.

— Раптам расчыніліся дзьверы і ў пакой увайшоў танклявы завіхасты чалавечак. Ен далікатна ўзьняў капялюшык і запытаўся.

— Прабачце... гэта тут спыніўся японскі вучоны?..—чалавечак зазірнуў у блёкнот...—японскі вучоны Фуказава Токудзо?

Фрыц штурхануў пана Белакапыціна, і ён, падняўшыся, цырамонна пакланіўся чалавечку. Тады той у вокамгненьне вынуў вечнае пяро, разгарнуў блёкнот і засыпаў часта словамі:

— Дазвольце, дазвольце, шаноўны Фуказава Такудзо... Я карэспандэнт бэрлінскае газэты, Паўль Крумэр... Буду вельмі шчасьлівы, калі вы будзеце такі ласкавы... Маленькае інтэрвью... Дасягненьні японскае навукі... Ваша вынаходка...

Фуказава Токудзо зьбянтэжана глядзеў на рэпарцёра і маўчаў.

Тады Фрыц выступіў наперад і з паклонам сказаў:

— Пане карэспандэнт, паважаны Фуказава Токудзо дрэнна гаворыць па-нямецку. Я буду вам за перакладчыка. Дазвольце прадставіцца — студэнт Гайдэльбэрскага унівэрсытэту Фрыц Опэльгайм.

Фрыц зьвярнуўся да Фуказава Токудзо і гучна запытаў:

— Вака іо тарэ со дзуне нарамун?

— Со дзуне нарамун... арігато...—хрыпла адказаў генэрал Белакапыцін.

Фрыц жвава павярнуўся да рэпарцёра і з паклонам сказаў:

— Гэр Фуказава Токудзо згодзен даць вашай газэце кароткае інтэрв'ю.

Тады пачалося нешта страшнае.

Рэпарцёр сыпаў хуткімі запытаньнямі. Фрыц расказваў яму нейкія нязвычайныя казкі пра атамы, апарат, японскую навуку, знатнае паходжаньне Фуказава Токудзо, а рэпарцёр, чырвоны ад хваляваньня, шпарка чыркаў у блёкноце і ўсе запытваў...

— О, гэта надзвычайна...—гістэрычна ўскрыкваў ён, чыркаючы. Адкідаючы блёкнот, ён хапаў фотаапарат і зьнімаў Фуказава Токудзо, матроса Джона, Фрыца. Потым ізноў пачынаў распытваць і зноў чыркаць.

Спачатку генэрал Белакапыцін быў як аслупянелы. Потым ён пасьмялеў. Зусім спакойна ён успамінаў вывучаныя словы і адказваў імі на штохвілінныя далікатныя звароты да яго Фрыца. Ен сьцьвярджаў, што зьяўляецца вынаходцам дзіўнага разбуральнага апарату, што разьвязаў проблему скарыстаньня ўнутрыатамнае энэргіі, што ён нашчадак славутых японскіх князёў і г. д. і г. д. Слуга-матрос, выцягнуўшыся, нярухома стаяў каля яго і глядзеў на рэпарцёра.

У канцы Фуказава Токудзо сапраўды пачаў рабіць вынаходкі. Ён вырашыў, што ягоны запас японскіх слоў занадта бедны і рашыў папаўняць яго сваімі наватворамі. Для гэтага ён перастаўляў наадварот расійскія словы і спакойна арудваў імі ў гутарцы з карэспандэнтам. Пазьней, калі круткі рэпарцёр пачаў ужо злаваць яго і калі яму абрыдзела гэта ўсё, ён крыкнуў на разьвітаньне моцную расійскую лаянку ў „японскім" вымаўленьні.

Рэпарцёр на гэта ўдзячна пакланіўся і выйшаў, узрушаны і шчасьлівы.

Буршы рагаталі як шалёныя.

Штодзень прыходзілі рэпарцёры, пстрыкалі фотаапаратамі чыркалі ў блёкнотах. Генэрал Белакапыцін увайшоў у ролю і прымаў наведвальнікаў з гордым спакоем азіяцкага вяльможы, цырамонна кланяючыся, частуючы гарэлкаю „сакэ" і таемна паказваючы апарат.

Яшчэ першаму рэпарцёру ён паказаў пажоўклыя, укрытыя нямецкімі літарамі, формуламі і рысункамі балонкі рукапісу.





Гэты рукапіс яму даў, як пераклад панямецку ягонае працы, Фрыц і загадаў паказваць яго наведвальнікам. Рэпарцёры сьпісвалі з рукапісу, ускрыквалі і зьнікалі. І кожны раз, пасьля іхнага адыходу, буршы качаліся са сьмеху па экзатычных дыванох, поўнячы пакой гучным рогатам.

Аднойчы Фрыц увайшоў у пакой заклапочаны і ўсхваляваны.

— Панове,—сказаў ён.—Слава Фуказава Токудзо дайшла да нашых шаноўных прафэсараў і іншых вучоных мумій. Сёньня на пасяджэньні Бэрлінскага Навукавага Таварыства інтэрвью Фуказава Токудзо зрабіла нязвычайны спалох. Сюды едзе дэлегацыя. Трымайцеся і сьмейцеся.

Але сьмяяцца ў той дзень не давялося. За апошнімі Фрыцавымі словамі ў пакой уляцеў перапалоханы Отто і крыкнуў:

— Панове! У гатэль прыехаў японскі консул. Зараз ён будзе тут.

Вестка гэта, як громам, ударыла па буршах. Генэрал Белакапыцін пабялеў і затросься, а матрос праз зубы прақазаў:

— Тут пахне паліцыяй.

У покоі панаваў спалох. Ніхто ня ведаў, куды кінуцца. Буршы бегалі па пакоі і ўпікалі Фрыцу:

— Добрая забаўка, няма чаго казаць.

— Гэта ўжо ня жарты!

— Тут і да паліцыі недалёка.

Фрыц замяшана глядзеў на сяброў і раптам, ударыўшы сябе ў лоб, крыкнуў:

— Ёсьць! Панове, марш з пакою!

Ён выправіў усіх з пакою, выпхнуў матроса і генэрала Белакапыціна, накінуўшы яму на кімано нечае паліто.

І калі падалі візытную картку консула, Фрыц спаткаў яго зусім спакойны і сказаў, што, на жаль, пана Фуказава Токудзо зараз няма, ён паехаў прагулянца і што ён заўтра мае быць у японскім консульстве. Пара далікатных, пачцівых слоў і аўто японскага консула ад'ехала ад гатэлю.

Пасьля консулавага ад'езду павісла трывога. І калі прыехала дэлегацыя Навуковага Таварыства, буршы пахаваліся і адважны Джон адзін адхіліў ад вялікага Фуказава Токудзо новы візыт-

## XII

Аж да поўначы сьвяціліся вокны трэцяга паверху „Парыжу".

Буршы заўтра ад'яжджалі ў Гайдэльбэрг. Канікулы канчаліся, і гэта быў апошні дзень іхных бэрлінскіх забавак.

На стале вясёла іскрыліся бутэлькі, дзынкалі чаркі і гучнае „гох" мяшалася з песьнямі.

— Усё-ж, Фрыц, мы добра прабавілі час! — зьвярнуўся да чырвонага Фрыца Отто.

— Панове! Гэта-ж цікавейшая камэдыя была! — крыкнуў высокі Леапольд.

— Фрыц надзвычай лоўкі хлопец!

— Гох Фрыцу!

— Гох!

Фрыц чырвоны і здаволены, расказаў таварышом, што яго наштурхнула на гэту камэдыю. Чокаючыся з сябрамі, ён расказваў пра матчынага кватаранта, савецкага інжынэра Богуша, пра дзіўны і нязвычайны рукапіс, які ён прывёз.

— Усё-ж гэта глупства, містыфікацыя, вядома,—пераканана гаварыў ён,—але-ж рукапіс надзвычай усхваляваў гэтага Богуша дый яго сябра Штальмана. Вось я і падумаў, каб даць гэтай містыфікацыі большыя маштабы. І мая спроба ўдалася. За вясёлыя забаўкі, панове!

Фрыц узьняў чарку і выпіў.

— А што, калі гэта праўда? Калі гэты атамір існуе? — запытаўся нехта.

— Глупства!—упэўнена сказаў Фрыц.—Я сам калісьці думаў над гэтым пытаньнем. Гэта—утопія. Унутрыатамную энэргію скарыстаць немагчыма. Гэта толькі для фантастычных раманаў гадзіцца.

— Але калі-б гэты атамір існаваў... — задумна сказаў нехта.

— Нашы вучоныя, паколькі я ведаю, адмаўляюць магчымасьць гэтага,— адазваўся з канца стала нейкі чарнявы.

— Я яшчэ ня бачыў сталых людзей, якія-б сур'ёзна гаварылі пра гэта.

За сталом клёваў носам зусім п'яны генэрал Белакапыцін.

Буршы выканалі сваё абяцаньне, ён быў на пэўны час забясьпечаны, і цяпер генэрал быў зусім здаволены.





Позна ноччу буршы сабраліся разыходзіцца. І, калі загрукалі крэслы і буршы пачалі апранацца, здарылася нешта нечаканае.

Каротка хліпнуўшы, раптам пагасла сьвятло. На спалоханыя ўскрыкі паціху расчыніліся дзьверы і нечы халодны голас спакойна вымавіў:

— Рукі ўгору!

Буршы бязвольна апусьціліся на крэслы. Іхныя рукі мімаволі палезьлі ўгору.

У пакой увайшло некалькі незнаёмцаў, якія моўчкі замкнулі за сабою дзьверы. Заблішчэлі вочкі электрычных ліхтароў. Нехта жаласна войкнуў. Нехта запратэставаў. Фрыц нэрвова ўзьняўся і дрыжачым голасам запытаў:

— Але-ж па якім праве? Хто вы такія?

Тады да яго падыйшоў чалавек і моўчкі працягнуў яму свастыку. Сьвятло электрычнага ліхтарыка чырканула па ёй і асьвятліла на момант чорны фашыстоўскі значок.

— Панове!—ізноў загучэў халодны, жорсткі голас.—Спакойна. Не хвалюйцеся. Нічога такога няма. Здаецца, вы—Фрыц Опэльгайм?

Фрыц устаў у халодных дрыготках. Чорная постаць адсунула яго ў бок.

— Хто тут з вас генэрал Белакапыцін?

У адказ пачуўся салодкі храп.

Нехта нэрвова засьмяяўся.

— Выцягнуць яго з-за стала!—загадаў той самы халодны голас.

— Панове! Прашу выходзіць па адным і зараз-жа разыходзіцца па хатах.

Чорныя постаці бліскалі ліхтарыкам кожнаму ў твар і прапускалі. Праз хвіліну пакой апусьцеў. Чуўся салодкі хроп генэрала Белакапыціна і нэрвовае дыханьне Фрыца.

Усё яшчэ ў цемры ўладар халоднага голасу пасадзіў Фрыца на крэсла і сеў насупроць яго. Чорныя постаці сталі вакол іх.

— Гэр Фрыц!—пачулася холадна.—Вамі скрадзены вядомы вам рукапіс у савецкага інжынэра Богуша? Так?

— Так...—палахліва азваўся Фрыц.— Але-ж гэта... я...

— Мы потым вам скажам якое вы глупства зрабілі, гэр Фрыц. Зараз паклапаціцеся сказаць, дзе гэты рукапіс.

— Дзе?... Рукапіс?...

Фрыц выняў з кішэні пакамечаныя балонкі рукапісу і працягнуў іх незнаёмаму.

Ён схаваў іх у кішэні і потым загадаў:

— А цяпер выходзьце. Мы з вамі, магчыма, яшчэ спаткаемся, гэр Фрыц.

Фрыц куляю вылецеў з пакою.

І калі ён зьбягаў па сходках, насустрач ужо ўзьнімаліся на трэці паверх маўклівыя прысадзістыя шуцманы. Фрыц павярнуў за рог і пабег.

Шум вуліц агарнуў яго рознагалосным рокатам, рухам машын і натоўпаў, і Фрыц памалу супакоіўся. Ён закурыў сыгару. Потым паклікаў таксі.

Едучы, усю дарогу сьціскаў рукамі галаву і намагаўся ўспомніць.

„Дзе я чуў гэты голас?"—думаў ён.

Вуліцы беглі насустрач, бліскалі агнямі, у віры гоману, звону, руху. Трымцелі зоркі, бледныя на фоне яркае электрычнасьці.

„Дзе я чуў гэты голас?".

Ён сам кляў сябе, што надумаў гэту дурную цяганіну з рукапісам інжынэра Богуша, губляўся ў догадках і нэрвова зацягваўся дымам.

„Дзе я чуў гэты голас?"

І раптом успомніў:

У матчыным доме цішыня. Ён праглядае газэту, а за сьцяною прыглушаныя галасы. Адзін усхвалёваны і гарачы. Гэта—іхны кватэрант савецкі інжынэр Богуш. Другі—халодны, жорсткі, крыху насьмешлівы.

— Штальман! Оскар Штальман!—ледзь не закрычаў Фрыц.

XIII

У асобным габінэце кафэ Вільгэльма за тонкімі высокімі келіхамі сядзела два чалавекі.

Адзін з іх флегматычна цягнуў праз саломінку з келіху і спакойна слухаў другога, які ўсхвалёвана ўставаў, бегаў па пакоі, ізноў сядаў і безнадзейна схіляў галаву.

— Ня гэтак горача, Карль,—спакойна, нават з усьмешкаю гаварыў другі.— Я ведаў цябе дагэтуль, як вытрыманага і разважлівага чалавека.





— Я кахаю яе, Оскар!—пакутліва прастагнаў другі.—Я проста вар'яцею ад гэтага. Яшчэ зусім нядаўна яна глядзела на мяне іначай, а цяпер...

Асыстэнт Клемм безнадзейна махнуў рукою і выцягнуў з кішэні пакамечаную паперку.

— На вось, чытай!

— „Вельміпаважаны гэр Клемм!—чытаў Оскар Штальман.— „Мне вельмі шкода, што вы так памыляецеся. Я зусім не кахаю Вас. Нашы сяброўскія адносіны Вы зразумелі, гэр Клемм, як нешта іншае, большае, і таму я мушу іх парваць. Ня злуйцеся на мяне, Карль, але Вы апошні час дазваляеце сабе занадта многа. Вы сочыце за мною і гэта не гаворыць на вашу карысьць. Я ня ведала ў Вас такіх якасьцяй. А таму прашу пакінуць мяне ў спакоі і забыцца на мяне.

Эльлен".

— Пфа! Пфа! Пфа!—праказаў Штальман.—Як я бачу, ты, Карль, нарабіў ужо багата глупстваў...

— Яна кахае другога!—з мукаю ў голасе сказаў Клемм.

— Вось як!—ажывіўся Штальман.—Каго-ж па-твойму?

— Гэтага расійца!—Клемм з нянавісьцю бліснуў вачыма.— Я ведаю, яна кахае Богуша.

Штальман пераможна ўсьміхнуўся і забарабаніў пальцамі па стале.

— Вось як!—ізноў паўтарыў ён.—Ты здаецца не памыляешся, Карль! Я таксама даўно ўжо нешта заўважыў.

— І не сказаў мне?—злосьліва запытаў Клемм.

— Пфа-пфа-пфа!—запыхкаў гіранічна яго таварыш.—А скульжа я ведаў?... Ты прызнаўся ў сваім каханьні толькі цяпер.

— Праўда, прабач мяне...

Клемм апусьціў галаву.

— Я зусім звар'яцеў, Оскар!—сказаў ён.

— Блізка каля таго...—усьміхнуўся Штальман і наліў у келіхі.—Дык значыць шаноўны бальшавік Богуш стаіць табе на дарозе?

Карль Клемм ускочыў і забегаў па пакоі.

— Я ненавіжу яго, Оскар!—горача загаварыў ён.—Ненавіжу яго грубую ўпэўненасьць, упартасьць, твар, гутарку...

Штальман спакойна назіраў за Клеммам, а выпешчаныя яго пальцы стукалі па стале.

— Я ўпэўнены, што ён здольны на ўсё дрэннае!—узрушана гаварыў Клемм.—Я дзіўлюся, чаму ня вышлюць гэтага бальшавіка з Нямеччыны.

Штальман тонка ўсьміхнуўся і паклаў сваю руку на плячо Клемму.

— Не хвалюйся, Карль! Давай пагаворым спакойна.

Ен пасадзіў асыстэнта Клемма на крэсла, наліў новыя келіхі і, пыхнуўшы сыгараю, раптам запытаўся:

— Што ты думаеш наконт тае газэтнае выдумкі, што была пушчана на гэтых днях?

— Пра вынаходку атамнага апарату?—перапытаў асыстэнт.— Гэты Фуказава Токудзо нарабіў шмат шуму ў навуковых колах. Ён апэраваў надзвычай новымі арыгінальнымі абгрунтаваньнямі. Проста дзіўна, адкуль гэты авантурыст узяў тыя навуковыя факты. Ты ведаеш, Оскар, я быў дужа захоплены гэтым. Я быў упэўнены, што ўнутрыатамная энэргія вызвалена. Тым больш, што прафэсар Стронг глядзеў на тыя навуковыя падставы, як на адзіны шлях да скарыстаньня атамнае энэргіі.

— Так,—згадзіўся Штальман,—абгрунтаваньні былі высунуты дужа сур'ёзныя. Але, тым часам, гэта была містыфікацыя.

— Потым пісалася,—успомніў Клемм,—што авантурыст быў поўным невукам у гэтай галіне.

— Але... і ты ведаеш, хто быў гэты авантурыст?

Штальман пацягнуў з келіху і сказаў:

— Гэта быў расійскі эміграпт. Нейкі п'яніца генэрал.

— Расіец?—ускочыў Клемм.

— Ціха!—супакоіў яго Штальман.—Дык ты ўпэўнены, што адкрыцьцё спосабу вызваленьня ўнутрыатамнае энэргіі—містыфікацыя?

Клемм кіўнуў галавою.

— Дарэмна. Пачытай вось гэта.

Штальман працягнуў асыстэнту пакет.

— Гэты вось рукапіс зьяўляецца тым матар'ялам, які скарыстоўваў авантурыст. Як рукапіс трапіў ад Богуша да расійскага эміграпта—мне невядома.

Клемм у неразуменьні ўзяў пакет і паглыбіўся ў чытаньне.





Калі ён чытаў рукапіс, рукі яго дрыжэлі ад хваляваньня. Ён паўтараў у голас формулы і ўскрыкваў:

— Нязвычайна!... Тут адкрыцьцё...

Дачытаўшы рукапіс, асыстэнт Клемм ускочыў і схапіў Штальмана за рукі.

— Дык, значыць, гэта не містыфікацыя? Атамір існуе?— хрыплым голасам усхвалёвана пытаўся ён.

— Так!—урачыста сказаў Штальман.—Я маю падставы думаць, што вынаходка бясспрэчна існуе. Але ўсе ніці да яе—у руках бальшавіка Богуша.

Асыстэнт Клемм шырока-расчыненымі вачыма глядзеў на Штальмана.

— Богуш! Ізноў Богуш?—паўтараў ён і раптам ускінуўся:— Мы павінны дзейнічаць, Оскар! Мы павінны вырваць гэту вынаходку з яго рук.

Штальман ізноў супакоіў асыстэнта і, устаўшы з-за стала, цьвёрда сказаў:

— Наша арганізацыя, Карль, куды я цябе сёньня прывёў, ужо ведае пра гэта. Будзь пэўны, што мы возьмем сваё. І нам з табою, Карль, яшчэ будзе шмат агульнае работы.

Праз паўгадзіны ў тым-жа пакоі кафэ Вільгэльма за круглым сталом нярухома сядзела дванаццаць чалавек. Асыстэнт Клемм сядзеў непадалёк і з цікавасьцю назіраў за імі.

З месца старшыні падняўся ўрачыста Оскар Штальман і халодным голасам праказаў:

— Панове, калі дазволіце, буду лічыць пасяджэньне нашае групы пачатым. Сёньня будзем гаварыць пра вынаходку вядомага вам атаміру і справу савецкага інжынэра Богуша і пра прыём у нашу арганізацыю новага члена.

---

Тае-ж ночы ў рабочым квартале Нэйкёльну доўга не згасала сьвятло ў вокнах на трэцім паверсе камяніцы.

Схудалы Макс Імэрман ляжаў у ложку і ўважліва слухаў сястру, якая нешта ўстрывожана гаварыла яму.

Стары Імэрман глядзеў сьляпымі вачыма на іх, часам умешваўся ў іхную гутарку, а Эльза адкідала назад непаслухмяныя валасы і рашуча нахмурвала бровы.

Макс паклаў ёй на плячо забінтаваную руку, доўга штось гаварыў і, нарэшце, шырока ўсьміхнуўся, паляпаўшы яе па плячы.

Эльза шчасьліва засьмяялася і ўстала.

А праз хвіліну сьвятло пагасла.

Было зусім цёмна на вуліцах Нэйкёльну. Высокія коміны заводаў—з поўначы, з усходу, з поўдня—клубілі над ночным Бэрлінам чорны дым. Смутны гул вісеў над горадам, і горад старожка спаў, уздрыгваючы ад гэтага гулу.

І каменныя кварталы ў цяжкіх ночных дрвінах чакалі раніцы.

XIV

У калгасе „Ленін“ адбывалася пахаваньне старога Богуша.

Калгасны гарманіст настроіў гармонік на сумны лад і старанна выводзіў жалобны марш, памалу ступаючы перад трунаю. А за ім, у труне са сьвежых сасновых дошак, несьлі старога Богуша. Вецер варушыў яго сівую бараду, і мёртвы твар нярухома глядзеў у крыштальнае блакітнае неба. За трunoю, галосячы, ішла старая Богушыха, выціраючы паркалёваю хусткаю сьлёзы, а ўсьлед ціха ступалі калгасаўцы—старыя, моладзь. Вучні калгаснае школы несьлі вялізны вянок, а на ім—нязграбна выведзеныя літары бялелі на чырвонай істужцы: „Старому калгасьніку Марціну Богушу“...

Дарога ішла паўз завораны бульбоўнік і загіналася на пагорак, дзе на могільніку шумелі, кранутыя першымі днямі восені, бярозы.

Валеры ішоў поруч з братам за бацькаваю трунoю. Скупая сьляза дрыжэла на яго вачох. Ён не пасьпеў прыехаць. Стары бацька памёр без яго. Было неяк дзіўна слухаць жалобны сьпеў гармоніку і спачувальныя размовы калгасаўцаў.

— Добры чалавек быў,—гаварыў нехта.

— Але-ж, папрацаваў на сваім вяку, прыняў такі працы...

— Трывалы быў мужчына...

— Сыноў, бач ты, якіх панавучваў...

Жалобна граў гармонік. І Валеру было прыемна адчуваць нязвычайна спакойную цішыню, што была разьліта навокал. Нэрвовы ўзрушаны шум Бэрліну—нібы яго ня было ніколі... Валеры быццам і ня выяжджаў ніколі з гэтых бульбоўнікаў і паплавоў.

Жалобна граў гармонік і Валеру чамусьці ўспомнілася дзедава пахаваньне. Ён ляжаў на покуці пад абразамі і ў хаце старэнькі поп цягуча сьпяваў:

— От землі пришэд і ў зямлю отыдзешы...
Надгро-бнае рыда-ніе...
Но жизнь бескоонечная-а...

І малому Валерыю хацелася тады плакаць. Не таму, што памёр дзед, а што словы і песьня былі такія сумныя і балюча білі па сэрцы.

„Вечны рух,—думаў ідучы Валер.—Дзеда хаваў поп. Бацьку вось зараз адпявае калгаскі гармонік. Як будзе са мною?“...

Жалобна галасіў гармонік і калгаскія вучні несьлі з нязвычайна сур'ёзнымі тварамі зялёны вянок. Дарога ўжо ўзьнімалася на пагорак, да шумных бяроз могільніку.

...„Мабыць — крэматоры...—думаў Валер.— Жменька попелу і... усё. Будуць жыць іншыя і працаваць“...

Валеры і не заўважыў, як жалобная працэса ўзыйшла на могільнік. Яшчэ гастрэй запахла сырая зямля. Жаўцела сьвежаю глінаю выкапаная магіла. Навокал была разьліта цішыня.

...Над сьвежым пагоркам стаў каранасты чырвонашчокі хлопец.

— Таварышы...—няпэўным голасам пачаў ён.—Мы пахавалі нашага старога дзядзьку Марціна...

Старыя дзядзькі пахілілі галовы. Нехта галосна ўсхліпнуў. Загаласіла маці. І бярозы зашумелі галасьней.

---

Раніцою Валер выйшаў у поле.

Каля самае дарогі высокі хлопец ў кажусе завіхаўся каля трактару, а чацьвёра калгасаўцаў стаялі гуртам каля яго і глядзелі на хлопцавы клапоты. Потым хлопец узьлез і ўзяўся за старно.

— Ану, братка, дай мне!—падыйшоў да трактара Валер.

Хлопец з хвіліну павагаўся і потым запытаў:

— А не папсуеш?

Валер усьміхнуўся, а мужчыны загулі:

— Ня бойся, Йван! Такі не папсуе...

— Усю нямецкую тэхніку прайшоў!..

— Давай, давай, Валер Марцінавіч!.. Папрацуй! Мо' ў Бэрліне ў тым адвык ад працы...

Валер узьлез на трактар і ўпэўнена павёў яго. Лемяхі зашумелі вывернутаю зямлёю, зашоргалі дробныя каменьчыкі. А вецер сыра дыхнуў у твар.

— Ого! Бачыш ты, як ідзе!—шумелі мужчыны.—Гэта табе не абы хто.

Высокі трактарыст ужо спакойна ўсьміхаўся і не сьпяшаючы скручваў цыгарку.

Да абеда працаваў Валер у полі. Пасьля абеду ізноў сеў на трактар і працаваў да вечара. Увечары прышоў стомлены і разьбіты, але задаволены й шчасьлівы. З размаху кінуўся на ложак і хруснуў суставамі. Маці прынесла збанок сырадою і, паставіўшы на стол з вялікаю лустаю хлеба, сказала:

— Еж, сынок! Напрацаваўся ты сёньня.

Хацелася спаць, цела прасілася на спакой.

Увечары прышлі братавы таварышы і старыя мужчыны. Закурылі нямецкіх папярос, пачалі прасіць расказаць пра бэрлінскае жыцьцё. Валер, не сьпяшаючыся, расказваў, а калі ў хату прышоў шырокаплечы грузны Зьміцер, ён шчыра абняўся з ім і пацалаваўся. Гэта быў ягоны таварыш яшчэ з маленства. Разам пасьвілі кароў і вадзілі на начлег.

Да позна сядзелі мужчыны ў Богуша. І калі маці, пазяхаючы, ўстала і сказала:

— Ну, досыць ужо, мужчынкі! Працаваў-жа чалавек...

Яны неахвотна ўсталі і разыйшліся.

Дні праходзілі грузныя, поўныя восенскай сьвежасьці. Валер зусім ня думаў пра ад'езд і прабаўляў дні, працуючы, ходзячы па таварышох, наведваючы вечарыны, як гэта рабіў колькі год назад. Нават у хадзе ў яго зьявілася нейкая спакойнасьць, паважнасьць. Ніхто ня пытаўся ў яго, калі яму трэба ехаць, і Валер сам не хацеў пра тое думаць.

---

Аднойчы да Валера прышла дзяўчынка з канца сяла і папрасіла зайсьці да іх.

— Там у таткі ліст да вас ад Майсіені ёсьць,—сказала яна-





Валеры толькі цяпер успомніў пра Майсіеню і шпарка ўскочыў.

— Чаму ліст? А хіба самога Якуба няма?

— Нямашака яго ўжо колькі дзён,—гаварыла дзяўчынка.— Пайшоў у сьвет некуды.

Валер шпарка апрануўся і пайшоў з малою. Па дарозе ён дзівіўся, як гэта ён забыўся на Майсіеню і справу, зьвязаную з ім.

„Пакрыўдзіўся-б Якуб, калі-б тут быў, што не заходзіў да яго колькі дзён"...—думаў ён, ідучы за дзяўчынкаю.

— Куды-ж ен паехаў?—пытаўся Валер.

— Ня ведаю,—адказвала дзяўчынка.—За тыдзень яшчэ, як вы прыехалі, кінуў усё і пайшоў у сьвет.—„Абрыдзела мне, кажа, тут".

Малая цмыгнула носам і потым сур'ёзна, відаць, пераказваючы нечыя словы, дадала:

— Бездамоўнік ён, валацуга. Не сядзіцца яму на адным месцы. Можа ў горад на заробкі куды паехаў. Пячкур ён добры.

Валер моўчкі ішоў за дзяўчынкаю і думаў, куды-б мог зьнікнуць ягоны таварыш?

У хаце, дзе жыў калісьці Майсіеня, з Валерам прывітаўся Канцавы Ігнат і, пасадзіўшы яго на табурэтку, крыкнуў жонцы

— Марта, прынясі якубаў ліст Валеру Марцінавічу!

А сам, сеўшы насупроць і набіўшы люльку, пачаў расказваць.

— Непаседны ён чалавек, Якуб гэты, я табе скажу, Валер. Усё імкнецца кудысьці. Як атрымаў ад цябе ліст з Нямеччыны — затрывожыўся, пачаў думаць, вечары праседжваць над тваім лістом, а потым і кажа: „не магу я тут больш быць!" Мы думалі— клічаш ты яго ў Нямеччыну да сябе. Такі чалавек...

Ігнатава жонка падала Валерыю запэцканы і старанна заклееены ліст, а Ігнат гаварыў далей:

— Дый то сказаць! Ні жонкі ў чалавека, ні сям'і... Радня ўся—у Польшчы. Што яго можа затрымаць? Праўда, у калгасе ў нашым доўга жыў і працаваў, як сьлед. Ды вось занудзіўся. Бездамоўны, я табе, Валер, скажу, чалавек. А так нішто мужчына быў—і працавіты, і разумны...

— І ня ведаеце вы, куды ён пайшоў?—запытаў Валер.

— Не сказаў ён нам гэтага,—сказала Ігнаціха, што маўчала дагэтуль.—Сабраўся пасьля абеду дый пайшоў.—„Аддайце, кажа, гэты ліст Валеру Марцінавічу, як прыедзе ён да бацькі"— толькі гэта і сказаў.

Валер больш ня слухаў. Ён разьвітаўся і пайшоў дахаты.

Увечары Валер доўга сядзеў над лістом Якуба Майсіені. Вось што пісаў яму стары таварыш:

„Апошні можа ліст Якуба Майсіені да найлепшага свайго друга Валера Марцінавіча Богуша.

„Калі ты прыедзеш, Валер, на савецкую радзіму наведаць свайго хворага бацьку, да якога цябе мусяць выклікаць хутка, дык ты мяне ў той час ужо ня знойдзеш тут. Буду я тады ўжо далёка адгэтуль, а дзе—не табе ведаць гэта.

„Сукін ты сын, Валер Марцінавіч! Выказаў я табе тайну маю пра дзіўную машыну невядомае тэхнікі, захованую ў касьцёле на маёй радзіме ў Заходняй Беларусі, а ты зараз-жа расказаў пра яе нейкаму буржуазнаму вучонаму ў Нямеччыне. Насіў я той кавалак рукапісу нямецкага з 1914 году пры сабе, не паказваючы нікому, а ты, як толькі атрымаў, дык прачытаў яго вучонаму буржуйскае Эўропы, можа капіталісту якому. Якжа пасьля такое рэчы верыць табе, Валер Марцінавіч? Ты, можна сказаць, аддаў тайну маю ў чужыя рукі!

„Але, калі зроблена ўжо, дык ня вернеш. А ліст я табе пішу цяпер таму, што можа мы з табою ня ўбачымся больш, бо паехаў я далёка, а куды,—ізноў паўтараю: не табе пра гэта ведаць.

„Скажу адно толькі, што небясьпечную справу я надумаў і магу жыцьцё на ёй пакласьці сваё.

Ды жыцьця свайго мне ня шкода. Шкода вось будзе, калі сакрэт машыны тае прападзе,—дзе яна знаходзіцца і ў якім месцы. Дык вось, каб таго не здарылася, мушу я табе, Валер, расказаць, дзе тая машына знаходзіцца і як яе знайсьці. Хоць і падвёў ты мяне раз, але цяпер, спадзяюся, не падвядзеш і будзеш больш асьцярожным, і калі загіну я ў белым сьвеце, дык ты пастарайся машыну тую дастаць і сюды даставіць з запіскамі інжынэра таго, што яе зрабіў. Трэба, каб дала яна карысьць савецкай уладзе і навуку нашу савецкую пасунула наперад.





„У канцы ліста даю я табе адрас таго касьцёлу і плян яго, дзе машына знаходзіцца,—пад якою плітою шар з машынаю і рукапісамі ляжыць і як яго знайсьці.

„Касьцёл той у Піншчыне, дзе я і сам жыў, як ты ведаеш. Хоць сям'і там у мяне і няма, але радні і сваякоў ёсьць. Я дачуўся апошнім часам, што дрэнна ім прыходзіцца пад панскім ботам. Аднаго майго кума, даведаўся я, у вастрозе замучылі. Вось, братка Валер, якія справы там дзеяцца! Ну, ды ведама— буржуйская ўлада! Я гэта да таго кажу, Валер, што цяжка ў мяне там на радзіме.

„А яшчэ я табе, Валер, напішу, што прачытаўшы, твой ліст з Нямеччыны, зразумеў я, што вялікая тэхніка ў той машыне закладзена і што трэба, каб яна была абавязкова ў нас, у СССР. Ты пісаў, што „Атамірам" ахрысьціў яе той інжынэр, што прыдумаў яе. І як успомню я, якія яна дзівы рабіла, гэта машына, тады ў касьцёле ў 1914 годзе, дык страх мяне бярэ і радасьць, што чалавек яе прыдумаў. Толькі, каб не патрапіла яна ў нядобрыя рукі! Калі, скажам, захопіць той атамір буржуазія, дык яна сьвет ім можа запрыгоніць і страшных войнаў нарабіць. А наш Савецкі Саюз дасьць ёй іншы ход зусім! Можа яна ў нас фабрыкі і заводы рухаць будзе і да сацыялізму хутчэй падгоніць. Можа яна абарону нашаму Саюзу дасьць. Ня можаш ты сабе ўявіць, найлепшы мой прыяцель Валер, колькі я прадумаў тады, як атрымаў з Нямеччыны ад цябе ліст. І трывога была, што выказаў ты тайну іншым, і радасьць, што і ты ўпэўнены ў вялікай сіле таго дзіўнага атаміру.

„Ну, мушу я канчаць, дарагі мой Валер! Пеўні ўжо сьпяваюць, а заўтра я маю пайсьці далёка. Быццам пагаварыў я з табою, па-сяброўску цяпер, як некалі на франтох ды бойках з контраю. Памятаеш?

„Перапішы-ж гэты вось адрас і плян, а пакуль бывай, можа назаўсёды, найлепшы мой прыяцелю Валер Марцінавіч"...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Валеры ў задуменьні сядзеў над якубавым лістом і вусны яго ўсхвалёвана дрыжэлі. Было ўжо позна. На двары прасьпявалі першыя пеўні.

„Якраз у гэткі час канчаў ён ліст"...—мільганула ў думках у Валера.—„Куды ён надумаў ісьці? Мо туды, на Піншчыну?"—губляўся ён у догадках.—„Не, гэта недарэчна!.. Дзе-ж ён дзеўся?"

Калі ўжо сьвітала, Валер лёг, але так і пракачаўся да раніцы бяз сну ў супярэчлівых думках і догадках.

---

„Дарагі мой,—пісала Эльза,—ты паехаў, не разьвітаўшыся не пабачыўшыся са мною. А мы-ж толькі часу ня бачыліся. І ў мяне за гэты час сабралася дужа многа навін, цікавых і для цябе, і для мяне.

„Па-першае, неўзабаве пасьля апошняга спатканьня, з нашымі хлопцамі здарылася няшчасьце. На сход ячэйкі напалі фашысты. Адбылася бойка, шмат каго зранілі і зьбілі. Макса прынесьлі няпрытомнага, з ранаю на галаве, з парэзанаю рукою, зьбітага. Баяліся за яго жыцьцё, але цяпер ён ужо бадай ачуняў. І—слухай Валер—як гэта ні недарэчна, ён рады гэтай бойцы. Рады вось чаму. Чытай, Валер, уважліва і запомні нашага і свайго ворага.

„Пасьля бойкі хлопцы прынесьлі адабраны ў фашыстаў штылет, якім быў паранены Макс. Яго адабраў Тэо. Здагадайся, любы, чый гэта штылет. Я апішу табе яго. Штылет гэты быў апраўлены ў тоўсты кій з чорнага дрэва. Тронка штылету ўяўляе сабою срэбную галоўку зьмяі, з крывавымі рубінавымі вочкамі і высунутым джалам.

„Калі ты не здагадаўся яшчэ, я табе напомню гаспадара штылета. Я ня лічу патрэбным у лісьце пісаць яго прозьвішча. Ён—твой „калега", з якім ты працуеш. Ты мяне знаёміў з ім у кафэ пры апошнім спатканьні. Памятаеш? Цяпер другі факт. На другі дзень пасьля твайго ад'езду я зайшла да цябе. Я так доўга ня бачыла цябе, седзячы ля хворага брата. І вось, прышоўшы, я застала ў тваім пакоі яго. Я прынесла з сабою ягоны штылет, каб паказаць табе. Адбылася цікавая сцэна, пра якую я табе раскажу, як прыедзеш. О, каб ты ведаў, як я баялася яго! Я-ж зусім ужо не такая адважная, як ты думаеш. Але штылет з галоўкаю зьмяі я зьберагла і, калі ты прыедзеш, я пакажу яго табе.





„Дык вось хто такі твой шаноўны „калега"! Забойца і фашыст. Правільней—фашыст-забойца.

„Беражыся яго, Валер! Ты так блізкі да яго. Я дужа баюся за цябе.

„Ну, вось і ўсё, здаецца. Засталося толькі сказаць, што кахаю цябе, кахаю, як пакахала ў першы дзень—памятаеш, на дэманстрацыі?

Прыяжджай хутчэй, чакаю!

Эльза".

— Вось яно што-о!—прагаварыў Валер.—Вось хто наш паважаны гэр Штальман!

Брат з цікавасьцю глядзеў на Валера і на пісаныя ў незнаёмай мове балонкі.

— Што такое? Што там табе пішуць?—пытаўся ён, але Валер не адказваючы разарваў другі канвэрт і ўскрыкнуў:

— Ад Штальмана! Цікава сумала!

— Ізноў па-нямецку!—сказаў брат і адышоў. Ён пераканаўся, што Валер нічога не раскажа.

А Валер, прабегшы штальманаў ліст, раптам ускочыў, забегаў у хваляваньні па пакоі і праз хвіліну крыкнуў:

— Мама! Я заўтра еду. Трэба неадкладна ехаць..

— Куды? Назад у Бэрлін?—запытаўся ўстрывожаны брат.

— У Польшчу! На Піншчыну! На Майсіеневу радзіму!

— А матанькі мае!—загаласіла маці.—Гэта ўсё той Якуб Майсіёнак нарабіў. І пагасьцяваць не дадуць дома!.. Бацьку пахаваў і зноў едзе!..—галасіла яна.

— Трэба ехаць, мама!—цьвёрда сказаў Валер і зноў пачаў перачытваць апошні ліст.

Вось што ў ім было:

„Дарагі Богуш!

„У той час, калі Вы атрымаеце гэты ліст, я буду ўжо на Піншчыне, у Польшчы, куды запрашала і Вас наша экспэдыцыя.

„Дужа шкода, што вы паехалі так раптоўна. Мы ні аб чым не пасьпелі ўмовіцца. Вы нават наш адрас ня ведаеце. Але справа ўсёроўна ўладжана—Вы можаце ў любы час ехаць. У польскага консула ў Менску ўжо ведаюць пра ўсё гэта і Вам дадуць візу зараз-жа.

„Спадзяюся, што Вы ўладзілі свае справы і неўзабаве прыедзеце да нас. У нас тут ужо сабралася цікавая кампанія, і мы Вас усе чакаем. Я засумаваў па Вас і з нецярплівасьцю чакаю Вашага прыезду".

— Так... так...—мармытаў пра сябе Валер.

„Абавязкова пастарайцеся прывезьці ўсе весткі пра атамір,—пісаў далей Штальман.—Вы-ж там бачылі самога Майсіеню. Ён вам, мабыць, даў адрас і плян. Вязеце іх сюды, мы тут удвох з Вамі расьсьледуем гэту даволі цікавую справу.

„У чаканьні Вашага хуткага прыезду цісьне па-сяброўску руку Ваш О. Штальман.

„Адрас наш: Польшча, ваяводзтва Палескае, павет Пінскі"...

— Той-самы касьцёл,—паўтараў усхвалёвана і ўстрывожана Валер.—Той самы, дзе знаходзіцца атамір!

---

Па дарозе, адвозячы Валера на калгаскіх конях у Менск, брат даведаўся пра ўсё.

З паўкілёмэтра ён ехаў пасьля таго маўклівы, задумны, а потым рашуча сказаў:

— Едзь, Валер! Трэба ехаць... Гэта шту-у-ка-а!—працягнуў ён, гаворачы пра атамір.—Толькі баюся—небясьпечна! Як ты адчэпішся ад Штальмана? Заблытае цябе гэты фашыст!

— Дармо!—адказаў Валер.—Ён-жа ня ведае, што атамір пад бокам. Трэба ехаць...

— Трэба ехаць!—паўтарыў брат, падганяючы коняй.

У Менску пачыналі дажджы. Горад выглядаў праз іхны мутны вэлюм. Чырвоны касьцёл, што здалёк ганарліва ўзвышаўся над горадам, зблізу выглядаў пахмура мокраю чырвонаю цэглаю. Яго гатычныя вежы дарэмна стараліся прабіць мутную заслону неба. На Савецкай працавалі кучкі рабочых, брукуючы вуліцу брусчаткаю, і цяжка было прайсьці.

Валер, сьпяшаючыся, прабраўся па разрытых ходніках, паміж кучак каменю, асфальту. У часе мінулага адпачынку ён толькі праездам пабыў у Менску. Цяпер, едучы з Беларусі на доўгі час, ён з цікавасьцю ўзіраўся ў разварушаныя вуліцы Менску.

Менск перабудоўваўся. Там-сям, адгароджаныя ад вуліцы платамі, узьнімаліся высокія цагляныя муры сьцен. Іх было шмат, і Валер з прыемнасьцю глядзеў на іх. Неяк дзіўна было бачыць поруч з гэтымі гмахамі нізкія, непазорныя дамы, бадай у цэнтры гораду,—рэшткі старога Менску. Шмат якія старыя камяніцы былі аплецены рыштаваньнямі—надбудоўвалі новыя паверхі. Менск рос угору.

Каля будоў цяжка грымелі грузныя рэйкі. Перагукваліся на рыштаваньнях рабочыя. Горад быў ахоплены гулам сьпяшаньня, работ.

Часьцей пачынаў накрапваць дробны няпрыемны дождж. Народ сьпяшаў па мокрых ходніках і забягаў пад вароты, хаваючыся ад дажджу.

Каля Ленінскае вуліцы на балькончыку другога паверху самотна тырчэў размалёваны белымі і чырвонымі пасамі тронак сьцягу, а на дзьвярох чарнела літарамі мядзяная плітка:

**Konsulat generalny Rżeczy Pospolitej**

— Ты мяне тут пачакай крыху,—сказаў Валеры брату,—я зайду наконт візы.

Міліцыянэр прапусьціў Валера і зноў сеў на табурэтку, што стаяла ў нішы дзьвярэй, выставіўшы на панэль вялізныя боты.

Назад дамоў яны паехалі ўжо ўвечары.

---

Раніцою Валер разьвітаўся з маці і братам.

Маці ўжо каторы раз пачынала плакаць і выціраць сьлёзы скамечанаю хустачкаю.

— Ды ня плач-жа ты, мама!—нэрвова гаварыў Валер.—Праз якіх пяць месяцаў назусім прыеду.

Маці на час сьціхала, але потым ізноў пачынала плакаць.

— І не пагасьцяваў ты, як сьлед, сыночак,—гаварыла яна. Твар яе сьлязьліва крывіўся. Старая адчувала нейкую трывогу. Яна ўсё яшчэ ня ведала, чаму сын едзе ня ў Бэрлін, а ў Польшчу, і нечага баялася.

— Беражы-ж ты сябе, сынку!—усхліпнула яна.

Ужо былі зьвязаны ўсе рэчы. Усё было гатова да ад'езду.

— Ты-ж лісты тыя ўзяў?—запытаў наўмысьля абыякавым тонам брат.

— Узяў, узяў,—адказаў Валер.

— І Майсіеняў?

— І Майсіеняў.

Валер падышоў да маці і ўзяў яе за рукі.

— Ну, бывай, мама! Праз месяцаў пяць буду.

Змагаючыся з сабою, ён у апошні раз моцна пацалаваў маці, адвярнуўся і наўмысьля сурова сказаў брату:

— Ну, едзем!

Праз хвіліну калёсы пакаціліся па мокрай дарозе міма могільніку. На ім шумелі каля дарогі і гнуліся пад ветрам бярозы.

Маці моўчкі глядзела ўсьлед сыном, потым, нібы нешта ўспомніўшы, закрычала, памкнулася бегчы, але калёсы ўжо схаваліся за пагоркам.. І ёмкі конскі тупат аб сырую глебу ня быў чуцён.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

* * *

У нізкіх чаратовых берагох, грузнучы ў топкіх балотах, прадзіраючыся праз густыя хмызьнякі, лясы — бягуць срэбныя зьмейкі рэк. З поўдня, з захаду, з поўначы. Аднекуль—з-пад поўдня, з Валыні прабіраецца праз пушчы чорная Гарынь, у лазовых берагох бяжыць Стыр, імкнецца аерысты Стаход. З захаду сьпяшае да сівога Пінску мутная Піна. Поруч з ёю імкнецца сьветлая Ясельда і аж з-пад паўночнага Паднямоньня, мінаючы Лунінец, сьпяшае да сваіх сёстраў Цна. Густыя лясы парасьлі на гэтых рэках. Чараты і лаза аблыталі берагі. І топкія багны, вагаючыся і ўздуваючыся пузырамі, праз сон прыслухоўваюцца да срэбнага плюскату сёстраў—рэк. Тут нельга прайсьці чалавеку. Вагаецца зялёная дрыгва, абкружыла пяшчаныя выспы рэдкіх вёсак, паш і ворыва. А сёстры-рэкі бягуць— з поўдня, з захаду, з поўначы—і, у розных месцах злучыўшыся з шырокаю Прыпяцю, спакойна ўжо імкнуцца на Ўсход. Хлюпаючы, надзімаючыся пузырамі, праводзяць шырокую Прыпяць балоты. Яны—шырокія, ціхія, важкія. Яны яшчэ далёка будуць цягнуцца абапал яе плыні—на ўсход, праз мяжу, за Тураў, да далёкага Мозыру. І сухі хмызьняк будзе аблытваць берагі новых рэчак, будзе стаяць сьцяною вакол зялёных вакон дрыгвы—„зыбуноў“, баючыся саступіць туды—бо засмокча, уцягне балота і ня будзе збавеньня. Чорныя пушчы здалёк шумна асьцерагаюць хмызьнякі і вясёлыя аеры з берагоў срэбных рэк адклікаюцца ціхім шолахам. Гэта ўлетку. Увосень—





ціха. Разьлягаецца сухі шолах бырльля і лістоў. Вясною тут уздымаюцца рэкі, балоты наступаюць на іх, і ўся амаль Піншчына здаецца аднэю зялёнаю дрыгвою. Сонныя рыбы плешчуцца тады ў чорных карчох, курлычуць радасна журавы, качкі і гусі поўняць балоты шумным лопатам крыл, крыкамі. Пад лета ўсё супакойваецца. Балоты зноў абкружваюць выспы чалавечых сельбішч і дрэмлюць пад сонцам, пахнучы багуном, торфам і цёплаю балотнаю параю. Паляшукі з чоўнаў косяць высокую траву, чараты, а балоты чакаюць—мо' памыліцца хто, мо' саступіць у зялёную дрыготкую дрыгву. Ён тады будзе доўга крычаць паратунку, захліпацца ў сьмярдзючай цёплай жыжцы, але ніхто не пачуе. Толькі дрыгва будзе ціха гойдацца, будзе хлюпаць цёплая жыжка і, калі крыкі змоўкнуць, на тым месцы, дзе балота засмактала чалавека, надзьмецца пузыр і лопне—гэта апошняе дыханьне чалавека вылецела з балота.

### I

Над Ясельдаю званілі гулкія касьцёльныя званы.

Сонца садзілася за далёкім зубчастым лесам і з балотаў патыхала цёплым парным пахам.

На вэрандзе дому асадніка пана Гжэцкага сядзелі тры чалавекі. Яны млява курылі і глядзелі на захад. Заходзіла сонца. Трэці, маладзейшы, што сядзеў каля гаспадара, ухутваўся ў плашч і ўздрыгваў нібы ад холаду.

Усе тры маўчалі, а пан Гжэцкі часта з нецярплівасьцю пазіраў на шэрую сьцежку, што зьвілася ад фальварку да белых сьцен касьцёлу. Нарэшце ён узварухнуўся, устаў і, перагнуўшыся праз балясы вэранды, закрычаў:

— Хутчэй-жа ты, Ядвіга! Мы тут зачакаліся ўсе!

Тонкая, зграбненькая фігурка жанчыны шпарка ішла па сьцежцы да фальварку і махала людзям на вэрандзе хустачкаю.

Калі яна ўзыйшла на вэранду, пан Гжэцкі ступіў колькі крокаў насустрач і запытаўся:

— А пан Штрайбэрг, Ядвіга? А пан Галомбэк? Чаму яны ня йдуць?

— Паны дужа занятыя, Юзэф!—аддыхваючыся, гаварыла пані Ядвіга.—Пан Штрайбэрг канчаткова засеў у бібліятэцы. Ён ня

выйдзе адтуль да дзесятае гадзіны. А пан Галомбэк наогул мне не адказаў—у яго з ксяндзом нейкія пільныя справы.

— О-о! ужо гэтыя вучоныя!—сьмяшліва скрывіўся пан Гжэцкі, а рухавая пані Ядвіга павярнулася да гасьцей і сказала:

— Проша пана Штальмана, проша пана Клемма! Мы будзем піць гарбату і бяз іх.

Госьці паўставалі, а пані Ядвіга ўзяла Клемма за руку і павяла яго праз шкляныя дзьверы ў сталовую.

— Пана Клемма трэба напаіць сёньня малінаю,—гаварыла яна, падрабляючыся пад голас клапатлівае маці.—Пан прастудзіўся і яму трэба сёньня рана легчы... Стэфка!..—крыкнула яна пакаёўцы:—накрывай!..

З хвіліну яшчэ Штальман стаяў на вэрандзе. Ён моўчкі глядзеў на далёкі, цёмны лес і дакурваў папяросу. Тоўсты пан Гжэцкі пазіраў на сяло і барабаніў па балясе пальцамі. Па сяле бегла з поля жывёла, рыпалі вароты, даляталі здалёк крыкі і гамонка. Зусім ужо сьцямнела, і з балота пацягнула сырасьцю і ветрам.

— Зусім забыўся праверыць,—сказаў нібы пра сябе пан Гжэцкі,—ці скончылі звозіць маё сена... Зусім забыўся...

Штальман адказаў нешта па-нямецку, а пан Гжэцкі зноў агледзеў сяло, цёмнае поле навокал і ціха дадаў:

— А пакідаць сена цяпер небясьпечна. У мяне там тры вялікія сьціргы. Небясьпечна... каб чаго ня выйшла!

— Ну, проша, пана Штальмана да гарбаты!..—пакінуўшы гаспадарскія клопаты, сказаў ён. Штальман кінуў папяросу і пайшоў сьледам за ім.

Бразнулі на вэрандзе дзьверы. Зрабілася ціха. З дому даляталі вясёлыя галасы пані Ядвігі, гасьцей. Недзе Стэфка клікала фурмана. Яе голас мякка разьлягаўся па фальварковым двары. Пахла ўтульнасьцю, цяплынёю, заможнасьцю. У небе загарэліся першыя зоркі.

Пасьля гарбаты ўсе разыйшліся хто-куды. Пані Ядвіга сапраўды напаіла Клемма малінаю і прымусіла яго зараз-жа ісьці спаць. Пан Гжэцкі папрасіў прабачэньня ў гасьцей і таксама выйшаў. Яго рана заўтра чакала многа спраў і таму ён мусіў пайсьці і добра выспацца.





Калі пані Ядвіга вярнулася ў сталовую, там сядзеў адзін Штальман. Ён моўчкі курыў сыгару і тонкімі нэрвовымі пальцамі качаў па стале белыя галачкі з хлеба.

— Як адчувае сябе гэр Клемм?—па-нямецку запытаў ён пані Ядвігу.

Яна, засьмяяўшыся, таксама па-нямецку адказала, што гэр Клемм ужо, мабыць, заснуў і заўтра абавязкова палепшае. З усяго дому Гжэцкіх яна толькі адна добра валодала нямецкаю моваю і таму шчыра служыла за перакладчыка сваім бэрлінскім гасьцём.

Пані Ядвіга яшчэ зусім маладая. Па-маладому блішчаць чорныя вочы, увесь дзень яна гатова бегаць па доме, пакрыкваць на пакаёўку Стэфку.

За Юзэфа яна выйшла дзевятнаццацігадовою дзяўчынкаю. Гэта было яшчэ ў польска-савецкую вайну. Яна працавала тады ў франтовых шпіталях. У адным з гэтых шпіталяў панна Ядзя пазнаёмілася з панам Гжэцкім.

Пасьля аднае жорсткае бойкі (была атака чырвонае кавалерыі) у шпіталь прывезьлі моцна зраненага паручніка. Ён быў няпрытомны, ніхто не спадзяваўся, што ён палепшае. З гэткімі ранамі, якія былі ў яго, людзі не выжывалі.

Паручнік Гжэцкі быў адважным „жолнежам". Бальшавікі прадзіравілі яму грудзі, пасеклі ў часе атакі шашкамі руку, і пан Юзэф ляжаў у шпіталі худы, як шкілет, без аднае крывінкі ў целе. Тады ён ня быў такім поўным, тоўстым, як цяпер. Сказаць па-праўдзе, пані Ядвіга не спадзявалася на яго папраўку. Ёй ажно страшна было ад шэраватага твару паручніка Гжэцкага, абцягнутага сухою скураю, ад вялізных вачэй, якія бяз слоў сачылі за ёю, калі яна даглядала яго. Паручнік Гжэцкі згубіў шмат крыві, і дактары нарэшце асудзілі яго на сьмерць.

— „Мэдыцына ня можа даць вам больш нічога, пан Гжэцкі",—сказалі яму, але выйшла іначай. Здарылася так, што ў тылавым шпіталі ў горадзе N, куды перавялі пані Ядвігу, яна знайшла зноў усё яшчэ жывога паручніка Гжэцкага. Раны яго ўжо зацягнуліся, але выгляд паручнікаў быў ня лепшы. Як гэта ні было дзіўна, але паручнік мог ужо хадзіць. Самы сапраўдны шкілет, абцягнуты мёртваю, шэраю скураю,—ён хадзіў, хістаючыся, па доўгім калідоры шпіталю і наганяў страх на сёстраў і санітараў.

І тады ксёндз у шпіталі сказаў:

„Так пан бог ратуе гэрояў нашай айчызны“...

Пані Ядвігу паручнік адразу пазнаў. Ён паведаміў, што месяц таму назад памёрла яго жонка. Засталася трынаццацігадовая дачка. Яна хутка прыедзе наведаць бацьку. З таго разу пані Ядвіга часта гаварыла з ім. Яе зацікавіла, як мог выжыць гэты чалавек, і з забабонным жахам глядзела на шкілет, цень чалавека,— паручніка Гжэцкага. Потым яна яшчэ больш жахнулася, калі зразумела, што пан Гжэцкі пакахаў яе. У даўгім шпітальным калідоры паручнік Гжэцкі падсьцерагаў яе і, калі пані Ядвіга выходзіла, даганяў яе, хістаючыся на тонкіх нагах.

— Панна Ядвіга!—шаптаў ён.—Я маю вам нешта сказаць... Панна Ядвіга, хвілiначку!..—І, калі панна Ядвіга спынялася, паручнік гаварыў ёй, што яна сьветлы анёл, якога ён сустрэў, знаходзячыся паміж жыцьцём і сьмерцьцю, што ён лічыць яе за сьвятую. Вочы паручнікавы глядзелі з глыбокіх западзін на панну Ядвігу з дзіўным выразам, аб чымсьці просячы, молячы, яна потым не магла спаць уначы.

Потым паручнік Гжэцкі выпісаўся са шпіталю. Ён выратаваўся ад сьмерці. Скура на гострых сківіцах заружавелася, у вачох зьявіліся бляскі жыцьця. Напярэдадні ад'езду ён зрабіў паньне Ядвізе прапанову стаць яго жонкаю. Панна Ядвіга тады ўжо не баялася яго выгляду. Прытуліцца ёй ня было дзе. Бацькі загінулі ў Расіі ў часе рэвалюцыі. Толькі ў Варшаве жыла старая цётка. І яна дала пану Гжэцкаму свой адрас, просячы месяц тэрміну, каб падумаць. Паручнік Гжэцкі выехаў.

Праз паўтара месяцы панна Ядвіга атрымала ліст. Скончылася вайна. Паручніка Гжэцкага ўрад за выслугі перад айчызнаю надзяліў вялікім кавалкам зямлі на крэсах, у Піншчыне, і ён з свайго фальварку пісаў Ядвізе, паўтараючы сваю прапанову, каб яна прыехала да яго. Ён жыве там адзін з дачкою Янінаю і, калі панна Ядвіга згодзіцца, дык яму больш нічога ня трэба на сьвеце.

Панна Ядвіга згадзілася.

---





Позна ўвечары прышлі з касьцёльнае бібліятэкі Штрайбэрг і пан Галомбэк.

Яшчэ са сьцежкі да фальварку былі чутны галасы двох вучоных. Яны аб нечым спрачаліся і на вэранду далятаді іхныя выкрыкі.

— Я давяду гэта... давяду!.. І тады ўвесь сьвет убачыць перавагу, так сказаць, спэцыфікум польскае нацыі...

Трэба сказаць, што пан Галомбэк, выдатны варшаўскі вучоны, распрацоўваў сваяасаблівую строга навуковую тэорыю. Ён даводзіў існаваньне ў прадстаўнікоў польскае нацыі нейкіх залозак і мазгавых цэнтрыкаў гонару, адвагі і мужнасьці. Пан Галомбэк, як шчыры патрыёт, ня сумняваўся, што давядзе гэту перавагу польскага народу над іншымі нацыямі.

— Вы ня думайце,—гаварыў ён Штрайбэргу,—што мая тэорыя гэткая ўжо нягрунтоўная. Біялёгічна-псыхалёгічныя, так сказаць, адзнакі нацыі рэч ня новая наогул. Так, напрыклад... вы слухаеце, гэр Штрайбэрг?.. адзін грузінскі вучоны (ён цяпер жыве ў Савецкім саюзе) давёў наступнае. Ад жыцьця ў горах, ад няроўнасьцей глебы, па якой каўказцам даводзіцца хадзіць, а таксама ад нацыянальных дужа цесных ботаў, якіх яны ня могуць узьдзець, не намыліўшы іх спачатку, у каўказцаў выпрацавалася сваяасаблівая нацыянальная хада—няроўная, хісткая, нібы танцавальная. А гэта ў сваю чаргу ўплыло на іхную псыхіку, якая таксама зрабілася, так сказаць, з некаторага боку, танцавальнаю...

Гэр Штрайбэрг адказваў нешта цішэй. Было відаць, што гэта заўзяты геолёг. На вэрандзе вучоных спаткала пані Ядвіга. Яна загадала была Стэфцы падрыхтаваць вячэру, але вучоныя адмовіліся. Іх добра пачаставаў гасьцінны ксёндз, і яны зусім сытыя. Яны коратка разьвіталіся з гаспадыняю і разыйшліся па сваіх пакоях.

Пані Ядвіга вярнулася да Штальмана. Яны зноў распачалі перапыненую гаворку пра Бэрлін, але хутка пані Ядвіга заўважыла, што Штальман амаль ня слухае яе. Ён курыў, барабаніў пальцамі па стале і глядзеў кудысьці ўгору, над Ядвігінаю галавою.

Калі пані Ядвіга пакрыўджана замоўкла, Штальман усхапіўся і, узяўшы яе за руку, сказаў:

— Прабачце мне, пані Ядвіга! Я такі няўважлівы. У мяне, бачыце, якія-колечы няпрыемнасьці. Я крыху ўсхвалёваны.

Панна Ядвіга, спачуваючы, узяла яго за руку і сказала:

— Вы такі стомлены! Вы, мабыць, шмат працуеце разам з гэтымі вучонымі?

Штальман засьмяяўся.

— Не, зусім не! Я, ведаеце, прыехаў зусім не для навуковае работы. Проста так, з турыстычнымі мэтамі...

І крыху памаўчаўшы, дадаў:

— Але, я ўмовіўся тут, у Польшчы, спаткацца з адным чалавекам, а яго ўсё яшчэ няма.

— А хто гэты чалавек? Можна мне ведаць?

— Не, пані Ядвіга!—сьмяшліва адмовіў Штальман.—Гэта небясьпечны чалавек.

Пані Ядвіга прысунулася бліжэй і, залётна сьмяючыся, настойвала:

— Пан Штальман мусіць сказаць, каго чакае. Пан павінен сказаць гэта гападыні!

Штальману дужа спадабалася цяпер зграбная пані Ядвіга. Нешта штурхала яго падзяліцца хоць крыху з прыгожаю гаспадыняю сваімі плянамі і ён урачыста сказаў:

— Уявеце, пані Ядвіга, такую рэч. Недзе на вашай айчыне, у Польшчы, у нейкім сяле, у глушы схованы скарб...

— Ой-ой-ой!—з падробленым спалохам ускрыкнула пані Ядвіга.

— Не жартуйце!..—крыху сур'ёзна, крыху жартам сказаў Штальман.—Гэта, магчыма, праўда. Дык вось. Пра гэты скарб, пра месца, дзе ён знаходзіцца, ведае толькі адзін чалавек...

— Гэта выглядае рамантычна!—засьмяялася пані Ядвіга.— І вялікі скарб? Там золата, дыямэнты?

— Не... куды лепшае. Там — сіла, захованая ў невялічкім кавалачку матэры, нявымерная сіла.

Штальманавы вочы бліснулі, і ён ужо сур'ёзна гаварыў:

— Гэтая сіла мацней за золата, за дыямэнты. Чалавек, дзяржава, якія завалодаюць гэтаю сілаю — будуць мацнейшымі ў сьвеце. У тым скарбе—усё, што мог даць чалавек сёньняшняга дню.

— Ой-ой-ой!—нібы зусім перапалохалася пані Ядвіга.





— І чалавек, што ведае пра гэтую сілу—той, каго вы чакаеце?

— Не. Але той чалавек зьвязаны з ім і дакладна ведае ўсё.

— Ой, як гэта ўсё таемна! Вы ведаеце, пан Штальман, я пачынаю захапляцца... Я дужа люблю ўсякія таемнасьці... Хто-ж гэты чалавек? Ці хутка ён прыдзе сюды?

Штальман, ужо зусім сур'ёзны, сьціснуў кулак і ўдарыў ім па стале.

— Уся справа ў тым, што ён, відаць, ня хоча ехаць! Ён, пані Ядвіга, хоча, відаць, забраць тую сілу сабе, адвезьці яе ў сваю краіну.

— Ой-ой-ой!—ускрыкнула пані Ядвіга: Nie pozwalam! Скарб польскі! Ён павінен быць у нас, у Польшчы. Што-б сказаў мой Юзэф? Ён—шчыры польскі патрыёт.

Штальман ужо маўчаў. Ён зусім спакойна курыў сыгару і насьмешліва пазіраў на гаспадыню. І калі ён ізноў загаварыў, голас яго быў жартаўлівы, фліртоўны.

— А ведаеце, хто гэты чалавек?

— Хто?

Штальман з хвіліну памаўчаў і потым з урачыстаю мінаю сказаў:

— Бальшавік.

— Ой-ой-ой!—ужо не на жарт спалохалася гаспадыня і адсунулася ад гасьця.—Вы небясьпечны чалавек.

Штальман вясёла засьмяяўся і ўстаў з-за стала.

— Гэта ўсё жарты, пані Ядвіга! Ня варта шмат гаварыць пра гэта нанач. Вы будзеце дрэнныя сны бачыць.

Было ўжо зусім позна. Праз вокны глядзела зорная ноч. Пані Ядвіга адчыніла дзьверы на вэранду і паклікала туды Штальмана.

— Якое хараство!—Пані Ядвіга ўглядалася ў зоркі, што густа ўсыпалі неба, і паказвала Штальману:

— Вунь Вялікая Мядзьведзіца... Вунь Стажары, Альдэбаран...

— А вунь...—Штальман раптам паказаў уніз на далёкі цёмны поплаў, што разьлёгся за сялом.—А вунь—пажар. Нешта, відаць, гарыць.

Недзе на поплаве палыхалі тры вялікія вогнішчы. Клубы агню ўзьнімаліся, рассыпаліся ў небе. Крывавыя языкі полымя зьвіваліся, рабілі насьмешлівыя грымасы, нібы нейкі асілак драж-

ніў па-дзіцячы гострым языком далёкія спакойныя зоркі. Направа разьляглося сяло. Яно было зусім ціхае, нібы ня бачыла, ня чула ў сьне пажару. Бялелі пад месяцам коміны дахаў і да фальварку далятаў сабачы брэх.

Пані Ядвіга трывожна ўглядзелася на далёкія вогнішчы і потым ускрыкнула:

— Гэта наша сена гарыць! Матка боска! Яны падпалілі яго!

Нават пад месячным сьвятлом было відаць, як пабялелі яе шчокі, вусны. Яна палахліва прытулілася да Штальмана і дрыготкім голасам зашаптала:

— Гэта яны! Гэта жахлівыя людзі! Яны нас ненавідзяць! Увесь час, як тут жывем, мы сьцерагомся іх. Матка боска! Трэба падымаць людзей. І жаўнераў няма...

— Хто? Хто яны?—з трывогаю запытаўся Штальман.

Пані Ядвіга ўся дрыжэла ад страху і шаптала:

— Яны... Сяляне... Усе крэсы!.. Мы тут, асаднікі, адны.

Усё ярчэй разгараўся пажар. З балота пацягнула вільготным цёплым ветрам. Недзе ўдарыў і пракаціўся рэхам стрэл.

II

Раніцою над сялом павісла трывога. Вестка пра падпал асадніцкага сена абляцела ўсе двары і ўсе непакойна чакалі што будзе. Каб гэта здарылася так з кім-небудзь, дык ніхто б не зьвярнуў на тое вялікае ўвагі. Ці мала чаго бывае? Навошта было пакідаць на лузе копы? Гэтым часам ня дзіва і горшыя пажары. Але ўчорашні пажар ня быў звычайным. Гэта добра ведала ўся Смольня і таму трывожылася і чакала.

На прызьбе Лук'янцовае хаты з раньня гуртам сядзелі сяляне. Людзі адыходзілі зрабіць сякія-такія справы і зноў варталіся да прызбы, сядалі, закурвалі, спрабавалі гутарыць. Але гутарка не вязалася. Людзі не дагаварвалі слоў, чакаючы пазіралі на высокі ганак суседняга дома.

— Нешта-ж доўга іх трымаюць,—сказаў чарнявы Лук'янец.

Шыльда над высокім ганкам зыбалася на ветры і літары на ёй чарнелі:

| |
|---|
| **Pasterunek P. P.** |
| we wsi Smolni |





Раніцою ў пастарунак, людзі бачылі, павялі Антона Сямашку і Міхася Пашкевіча. Вось чаму сяльчане цеперся сядзелі тут і чакалі. Відаць, на гэтых двох падумалі, што яны падпалілі асадніцкае сена. Кожнаму хацелася хутчэй даведацца, чым скончылася справа.

— Але... Нешта яны там забавіліся...

Сухенькі дзядок у доўгай палатнянай кашулі і з валасамі белымі, як лён, сказаў гэта падробленым спакойным голасам, але, відаць, ён дужа хваляваўся. Ён парываўся ўстаць і пайсьці ў пастарунак, каб даведацца самому, але потым махаў рукою і зноў сядаў на бервяно каля прызбы, смокчучы люльку.

— Ліха іх ведае... ліха іх ведае...—мармытаў ён і, зьвяртаючыся ўжо да ўсіх сяльчан, гаварыў:

— Ды мой-жа Міхал удварэ ўвесь час быў. Вось твой Зьмітрок ведае, што ён дома начаваў. Яны-ж удвох сёньня ў мяне да другіх пеўняў сядзелі.

Нізкі селянін у саламяным капялюшы нічога не адказаў дзеду. Ён толькі паціснуў плячыма і, седзячы тварам да пастарунку, запыхкаў люлькаю.

Пад самымі вокнамі, навокал чарнявага Лук'янца людзі гутарылі ціха, здавалася, хаваючыся ад усіх. Лук'янец толькі ўчора прыехаў з дарогі. У далёкай вёсцы, аж у Косаўскім павеце, была замужам яго дачка, і Лук'янец езьдзіў яе наведаць. Наведаўшы дачку, прывёз з таго краю шмат навін.

Пазіраючы асьцярожнымі, з-пад калматых брывей, вачыма на шырокую вуліцу, ён ціха гаварыў суседзям:

— Вы толькі, браткі, таго—не разбрэхвайце. Мне-ж людзі казалі і я вам кажу, што мне казалі... Так што вы не таго...

Ён скруціў цыгарку і зацягнуўся. З бярвеньня ў каторы ўжо раз пачулася дзедава:

— Удварэ-ж ён начаваў сёньня, Мікола мой... Хай вось Зьмітрок Ігнасёў пасьведчыць...

Далятаў з балота вільготны вецер. Па вуліцы шпацыравалі куры. Дурэлі дзеці. Стаялі апошнія дні лета. Хісталася пад ветрам шыльда.

| |
|---|
| **Pasterunek P. P.** |
| we wsi Smolni |

Лук'янцоў голас быў такі ціхі, такі асьцярожны, што за пяць крокаў нічога нельга было пачуць. Суседзі пасунуліся адзін да аднаго бліжэй, падстаўляючы сонцу босыя ногі і загарэлыя рукі.

— ...Пажары гэтыя, дзядзькі, па ўсёй краіне цяпер. Вось мой зяць, значыцца, калі ў дачкі быў, казаў мне: „Паляць, кажа, мужыкі па ўсёй Беларусі панства. Так ім і трэба... Пан добры, толькі печаны... Панасаджвалі на нашы шыі асаднікаў ды ўрадоўцаў, дыхаць няма як. Пазадушвалі аднымі падаткамі"... Каля іхнае вёскі быў асаднік Габлеўскі. Дык вось, значыцца, доўга думалі, што з ім рабіць. Служыў ён, трэба сказаць, патайна ў шпікох і ўсё, што ведаў пра народ, выказваў. Можна сказаць, галоўным шпіцлем быў у ваколіцы. Для гэтага ў яго на вёсцы былі свае людзі, што яму дапамагалі—свае-ж вясковыя...

— Ці бачыў ты!.. вось гады!—Хударлявы вясковец зласьліва плюнуў і запытаў у Лук'янца:—А куды-ж людзі глядзелі?

— От-жа і яно!—спакойна цягнуў Лук'янец.—Пра гэта даведаліся пасьля, калі позна ўжо было.

— А што-ж там было?

— А тое, што спалілі тую вёску, пазабіралі ледзь ня ўсіх у астрогі.

Лук'янец закруціў кручкаватымі пальцамі вусы.

— Трэба сказаць, што тая вёска адмовілася плаціць усякія падаткі, штрафы і на шарваркі ўжо тры гады не хацела ісьці. Упарта стаялі. Прыяжджаў сэквэстратар маёмасьць апісваць, паліцыя—праганялі... Разам, усёй вёскай трымаліся. Там у іх было сем маладых хлопцаў, яны ўсё і паказвалі—як што трэба. У іх на ўсё адзін адказ быў: ураду голаду і вайны, каб ані гроша... Хлопцы разумныя былі і ўся вёска іх берагла, не выдавала. А потым неяк грымнуў у вёску атрад. Нічога не зрабілі, а толькі забралі гэтых хлопцаў і двох гаспадароў разам з імі. Быў над імі суд. Там і выявілі, што ў камсамольцах былі тыя хлопцы. Дык пасьля суду ў вёсцы іх і ня бачылі. А тых двох гаспадароў выпусьцілі. Так нейкі час было ціха. Аднойчы бацька аднаго з камсамольцаў сабраў сялян дый чытае ліст. Ліст той ад сына з турмы быў атрыманы. Піша сын у лісьце, што ўдалі іх, што ў вёсцы ёсьць шпіцлі—настаўнік





польскі, асаднік ды свае-ж два селяніны. Тыя самыя, якіх разам з імі арыштавалі для блізіру дый выпусьцілі потым.

Лук'янец замоўк і дадаў праз хвіліну:

— Катавалі хлопцаў там... Як чытаў бацька ліст, дык увесь народ плакаў ад жаласьці, а потым таварыш адзін з тых камсамольцаў выскачыў наперад, белы ўвесь, калоціцца, сьлёзы ў яго на вачох... „Сьмерць панскім шпэгам!—кажа, прэч з нашае грамады здрайцаў працоўных"... Гарачы быў хлопец, ну, звычайна, і народ запаліў... Так што праз колькі часу пасьля таго—асаднік згарэў, а настаўніка з вясковымі шпіцлямі ў лесе забітымі знайшлі. Вось як.

Лук'янец узьняў галаву і зноў пачаў круціць вусы. Ён заўважыў, што ўжо ўвесь народ уважліва слухае яго і людзі з бярвеньня прысунуліся бліжэй да прызбы. Зусім спакойным голасам ён даказаў:

— Вёска тая, казаў мне зяць, потым зусім адмовілася плаціць. Паліцыянтаў, што былі паткнуліся да іх, зьбілі...

Паміж сялян хваляй прабег задаволены гоман.

— Вось за гэтае самае і спалілі вёску на Косаўшчыне,—скончыў, устаючы з прызбы, Лук'янец.—Мне гэта, значыцца, таго—зяць казаў.

Сяльчане нічога не адказалі яму. Высхлы, худы вясковец калупаў кіем пад нагамі пясок, а Зьмітраў бацька, да якога зварачаўся дзядок, зьняў шырокі капялюш і залажваў у ім саламяную дзірку.

— Вядуць, вядуць ужо!

Дзядок, у якога арыштавалі сёньня ўнука, раптам ускочыў з бервяна і памкнуўся да пастарункавага ганку.

— Ліха-ж на іх, як яны доўга трымалі!.. Ну як-жа, Міхаська? Адчапіліся ад цябе яны? Начаваў-жа ты...

І раптам спыніўся ў неразуменьні. За яго ўнукам і Антонам Сямашкам ішлі строгія, няпрыступныя паліцыянты. Яны трымалі напагатове багнэты і, штурхаючы сялян, пакрыквалі:

— Ну, вы там! Дарогу, дарогу! Разыйдзіся!

Дзядок ня слухаў іх і, чапляючыся за Міхася, нейкім жаласным голасам казаў:

— Завошта-ж гэта, Міхаська? Ты-ж ні ў чым не вінаваты!

І зьвяртаючыся да паліцыянтаў, ён абурана закрычаў:

— Ды ён-жа начаваў удварэ сёньня, на тое і сьведкі ёсьць. Вось няхай Ігнасёў Зьмітра скажа...

Высокі старшы пастарункавы грымнуў:

— Пастараніся, дзед! Прэч з дарогі, пся-крэў. Усё выявіцца Ён толькі так затрыманы.

І штурхануў яго прыкладам.

Народ усхвалёвана зашумеў і разам увесь заварушыўся. Чорны Лук'янец крыва ўсьміхнуўся і нібы сам сабе прамармытаў:

— Ведаем мы гэтае „толькі так затрыманы".

Відаць, Міхал Пашкевіч пачуў гэта. Ён шпарка зірнуў на Лук'янца. У яго вачох была нейкая трывога.

Але зусім спакойным голасам ён сказаў дзеду:

— Пойдзем, дзед, да хаты. Мне ў дарогу трэба сабрацца... Прыдзецца да гораду ехаць.

Каля Пашкевічавае хаты ўжо стаяла запрэжаная фурманка, і паліцыянт, чакаючы, сядзеў на возе. Міхал Пашкевчі разьвітваўся з жонкаю, клаў у торбу харчы і бялізну. Праз хвіліну ён вышаў з вартаю да фурманкі. На вуліцы чырвоны вуграсты паліцыянт разганяў людзей, што былі блізка.

Чорны Лук'янец задумна стаяў каля крывое вярбы і ўсё глядзеў на Міхаля. Каля яго тупалі, адыходзячы пад штуршкамі паліцыянтаў, хлопцы. Яны сьмяяліся з потных паліцыянтаў і крычалі здалёк арыштаваным:

— Дармо, Міхась! Трымайся, Сямашка! Ня сумуйце!

Каля дзьвярэй Міхал затрымаўся. Ён працягнуў да Лук'янца руку і сказаў:

— Ну, бывай браце!

У голасе арыштаванага было нешта значнае і Лук'янец настаражыўся. Ён падышоў да Міхала, пацісьнуў яму руку і, калі адчуў у сваёй руцэ маленькую скамечаную запіску, не спалохаўся, ня зьдзівіўся, а спакойна адышоў пад грубым штуршком паліцыянта.

— Пăганяй.

Колы загрукацелі па выбітай пыльнай дарозе.

Калі Лук'янец ішоў назад, на вуліцы было ўжо пуста. Усе людзі разыйшліся. Па пустой вуліцы лётаў вецер і кружыў на дарозе сухую салому і трэскі.





— Вось як!—мармытаў Лук'янец.—Людзей арыштавалі, а гэтым хоць-бы што...

— Пра што ты гэта, братка?

Лук'янец ад нечаканасьці ўздрыгнуў. Поруч з ім ішоў прысадзісты крамяны Андрыёнак—першы гаспадар на сяле. Як і ўсе сяльчане, ён глядзеў на арышт і цяпер вяртаўся да хаты. Лук'янцу ён быў суседам.

— Ды так вось,—неахвотна адказаў Лук'янец,—людзей, кажу, арыштавалі, а нашым хоць-бы што—паглядзелі дый пашлі сабе.

— А як-бы ты хацеў?

Андрыёнкавы вочы дапытліва глядзелі на Лук'янца.

— То-ж улада! Калі арыштоўвае, дык мабыць ёсьць за што. Га? Як ты мысьліш?

— Ня ведаю,—ухіляючыся, сказаў Лук'янец,—наша справа малая, мы людзі дробныя.

— А хто цяпер вялікі ў нас? Гэтак жывучы, вялікім ня зробішся.

— А ўжо-ж...—млява сказаў Лук'янец. Ён ня меў аніякае ахвоты гутарыць з Андрыёнкам.

— Дык я вось і кажу,—не адчэпліваўся той,—гэтак жывучы, вялікага ня прыдбаеш. Памяркуй сам, якое ў нас жыцьцё?

Андрыёнак пачынаў сваё звычайнае, пра якое Лук'янец ужо шмат чуў апошнім часам. У сяле багата зямлі, але яна параскідана, парэзана на палосы. Калі ўзяць гаспадара, дык у яго зямля паразьмешчана па розных палёх ды з панскаю перамяшана. Які-небудзь гаспадар, можа, і досыць мае зямлі, ды карысьці з яе няма ніякае. Вось, каб яна ў адным кавалку была, каб уся гаспадарка была на адным месцы, каб ніякі чорт ня лез да цябе ні з папасам, ні з выганам... Каб усё сяло разьбіць на хутары,—вось тады-б можна было і пагаспадарыць! Няма табе тады ні патраў, ні крадзяжу, ніхто ў цябе не закосіцца, не зажнецца...

— Гм!—ужо злосна гаварыў Лук'янец.—А як-жа з галечаю нашаю зробіш? Што і ёй дасі па дзесяціне ў адным месцы?

— Чаму-ж?.. Каму, можа, і надбаўка будзе. Зямля і лішняя можа быць.

Лук'янец раптам абурыўся.

— На лішнюю-ж новага асадніка пасодзяць!

— Ды не! Якога асадніка? Я ня тое кажу. Іншаму малазямельнаму з няўдобнае могуць даць.

— Гэта, значыць, пасадзіць галечу на горы, на пясок ды балоты? Добра надумаў, добра, што й казаць. Хай, значыцца, цягне трухлявую хату з сяла на сваю дзесяціну...—Ды яна-ж рассыпецца ўся. Дзе ён табе здолее перацягнуць!

Лук'янец захліпаўся ад злосьці. Пачынаў чырванець і Андрыёнак.

— А які табе клопат?—ужо нездаволена казаў ён.—Ты-ж, як-ні-як, гаспадар. Хоць невялікая, але гаспадарка, дык што табе да тае галечы?

Андрыёнак хітра паглядаў сваімі дапытлівымі вачыма і ўсё стараўся не адставаць ад шырокага Лук'янцовага кроку. Ён-жа цяпер маўчаў і толькі каля хаты спакойна сказаў Андрыёнку:

— Я табе кажу, браце. Ня хочу я, каб сяло разьбівалася. Зараз мы жывем усе разам, трымаемся адзін за аднаго. Грамадою і паспрачацца можам з кім-небудзь, калі трэба будзе.

— Гэта з кім-жа? Дзе-ж гэта той вораг?

На гэта Лук'янец нічога не адказаў. Ён закручваў вусы і моўчкі глядзеў пад ногі.

Было ціха на сяле. За гумнамі, узвышаючыся над сялом, бялеў моцнымі сьценамі фальварак пана Гжэцкага.

— Хто-ж гэта наш вораг, братка?—запытаўся ўдругі Андрыёнак.

Лук'янец пахмура зірнуў на яго.

— Той, з кім ты ў адну дудку дзьмеш!—буркнуў ён.—Гэта-ж ты на камасацыю хочаш мяне ўгаварыць! Сяло разбурыць хочаш, па сьвеце беднату пусьціць, новага асадніка пасадзіць! Дык ня будзе гэтага! Чуеш, Панас? Ня будзе. Усё сяло супроць будзе!

— Ды цішэй-жа ты! Людзі пачуюць. Навошта раней часу галас узьнімаць?—Я-ж можа пажартаваў.

Андрыёнак небясьпечліва азірнуўся, але ніхто іх ня чуў. На вуліцы было пуста і ціха.

Падыхала вільготным ветрам з балота і шыльда на пастарунку звонка дзынкала.

Андрыёнак цьвёрда зірнуў у твар Лук'янцу хітрымі шчылінкамі вачэй і, ступіўшы крок ад яго, сказаў:





— Дык запомні-ж, браце, што сяло нічога ня зробіць. Чуеш, нічога! Гэта галеча ня мае голасу. Голас за тым, хто мае больш зямлі, чуеш Лук'янец? Вось яно як!

Лук'янец зьбянтэжана глядзеў на яго.

— А наконт ворага, гэта ты здорава сказаў... Люблю шчырасьць.

І, адыходзячы ад Лук'янца, дробным хіхатам дадаў:

— А я бачыў, як табе той арыштант Пашкевіч перадаў... Рэч ведама, мы людзі свае, але... бачыў...

— Цьфу, свалата...—толькі і мог сказаць Лук'янец.

Ён злосна ірвануў фортку на двор і так бразнуў ёю, што куры спалохана закудахталі на плоце і зьляцелі ў канаплянік, а флегматычны сабака, здавалася, ад нараджэньня прыкуты на ланцугу пасярод двара, узьняў галаву і зьбянтэжана забрахаў на гаспадара.

Аж да вечару, пакуль жонка не паставіла на стол вячэру Лук'янец ня мог супакоіцца. Ён нездаволена тупаў па хаце, ішоў з сякераю на двор, сёе-тое майстраваў, выходзіў на вуліцу і задумна круціў чорныя вусы.

— Камасацыю... Бач ты! Каб сяло ўсё парасьцягаць...—мармытаў ён сам сабе.

— Ты што-ж гэта расхадзіўся сёньня? Вячэраць ідзі! Што там з табой сёньня сталася?

Лук'янец моўчкі сёрбаў крупеню і не глядзеў на жонку. У хаце стаяў пах чабору, мядуніцы і сушанае ліпы—жонка нешта разумела ў зёлках і на лета наносіла ў хату шмат розных траў. Імі яна потым лячыла свае хваробы ды і суседзям давала.

— Забралі сёньня хлопцаў,—парушыла яна маўчаньне,—і за што толькі? Не вінаватыя-ж яны ў падпале.

— За чорта лысага!— няласкава адказаў ёй муж.—Наплёў хто-небудзь куды трэба, вось і забралі. Цяпер-жа чаго-чаго, а шпікоў хапае, разьвялося...

Вячэралі Лук'янцы цяпер толькі ўдвох. Сын іхны ня дужа даўно паехаў, адбыўшы водпуск, на зіму ў Вільню. Ён вучыўся ў беларускай гімназіі. Вось ужо другі год, як Лук'янец вучыць Міколу. Выбіваецца з сіл, пасылае апошнюю капейку і ганарыцца, што сын будзе вучаным чалавекам. Паклаўшы лыжку,

Лук'янец дастаў з-за бажніцы ліст ад сына і ў каторы раз пачаў яго чытаць. Гэта яго супакоіла і ён ужо зусім лагодным голасам сказаў жонцы:

— З Андрыёнкам сёньня гаварылі... Хоча гад камасацыю рабіць.

— Гэта на хутары ці што?

— Ага, на хутары.

— Гад гэты Андрыёнак—з панамі ліжацца!—раптам зазлаваў Лук'янец.

Жонка прыбрала ўжо са стала і слала пасьцелі. Перакідаючы посьцілкі, яна гаварыла:

— Гэта-ж усё сяло ведае—з панам Гжэцкім у іх справа моцная. Нядарма-ж ён яму сёлета поплаў даваў касіць! Можа ў шпікі да яго пайшоў.

— Гад, што й казаць,—мармытаў Лук'янец і раптам, нешта ўспомніўшы, усхапіўся з лаўкі.

— Куды гэта ты?

— Зараз прыду. Трэба ў адно месца схадзіць. Міхал Пашкевіч, як арыштоўвалі яго, прасіў справу адну пераказаць хлопцам.

Ён усьцягваў на сябе кажух і поркаўся ў кішанёх.

— Глядзі ты, галубок! Каб і табе таго ня было!—зласьліва сказала жонка.

— Ня дурыся!

Лук'янец зноў зазлаваў. Ён гучна бразнуў дзьвярыма і выйшаў на вуліцу.

На сяле было ўжо цёмна. Брахалі на краі сабакі. З балота цягнула вільготным ветрам. Праходзячы каля пастарунку, Лук'янец зірнуў у вакно, але там было цёмна, нічога ня відно. Насупроць, дзе кватараваў паліцыянт, бліскаў агеньчык, цямнела насунутая на вокны фіранка. Лук'янец прыгасіў цыгарку і, шчыльней загарнуўшыся, пайшоў па цёмнай вуліцы на край сяла.

---

У той самы вечар, насьпех павячэраўшы, Панас Андрыёнак сьцягнуў з крука чухмень і сабраўся выходзіць з хаты.

— Ізноў пойдзеш да гумна начаваць?—заклапочана запыталася жонка.





— Трэба-ж пайсьці павартаваць, усяк можа быць,—адказаў ёй Андрыёнак.—Поўныя тарпы жыта стаяць, крый божа чаго...

Андрыёнак не дагаварыў і палез за бажніцу. Ён выцягнуў адтуль закручаны ў анучы рэвальвэр і паклаў яго ў кішэню.

Кожную ноч ён хадзіў у гэтым годзе сьцерагчы гумно. Навокал ішлі чуткі пра падпалы. Часта ноччу, вышаўшы з хаты, можна было бачыць далёкае зарава пажару. Гарэлі асаднікі. Нехта няўлоўны падпальваў панскія сьцірты, фальваркі.

— Канец сьвету прыходзіць!—квахтала Андрыёнчыха,—вялікая смута пайшла ў народзе.

— Які там народ!—мармытаў Андрыёнак.—Цёмныя людзі злачынцы нейкія, вось табе і народ. Цяпер-жа пачалі ўжо і сваіх сялян, якія больш гаспадарлівыя, паліць. Што на сьвеце дзеецца толькі!

— Ты-ж глядзі, беражыся там.

Андрыёнак не адказваў. Ён узяў з-пад лаўкі бліскучую (учора толькі ад каваля) сякеру і спрабаваў на палец яе лязо.

— Узяць ці не?—разважаў ён. Сказаць па-праўдзе, ён больш верыў ёй, цяжкой ёмкай сякеры, чым гэтаму далікатнаму кручку.

Нарэшце ён запхнуў яе за пояс, уважліва аглядзеў хату і вышаў на вуліцу, крыкнуўшы жонцы:

— Замкні-ж, глядзі, добра!

Па вуліцы ён ішоў старожка, хаваючыся пад ценямі вербаў. Над сялом павіс сьветлым гарбузом поўнік, і вуліца маўчала ў яго сьвятле. За сялом, узвышаючыся на высокай горцы, смутна бялеў дом пана Гжэцкага. Там таксама ня было сьвятла і толькі ў мэзаніне, што высока ўзьнімаўся над домам, ярка гарэў у адным вакне агеньчык. Ён бліскаў з імглы, як маяк, быццам даючы на сяло нейкія таемныя знакі, сыгналы.

Выходзячы на край сяла, Андрыёнак угледзіў у крайняй хаце Кандрата Емельянчыка агонь. Дзьве постаці там схіліліся за вакном блізка адна ад аднэй. Крадком, туляючыся пад ценямі, Андрыёнак падышоў да вакна і прыклаўся вухам. Быў чуцен Лук'янцоў голас і спакойны Кандратаў. З хвіліну Андрыёнак слухаў, потым бразнулі дзьверы, і ён шпарка адбегся ад хаты пад цень разложыстае бярозы каля клуні.

З хаты вышаў Лук'янец, азірнуўся і пайшоў па сяле. Андрыёнак паглядзеў яму ўсьлед і шчыльней загарнуўся. Пачынаў дзьмуць халодны вецер, і неба зацягвалася хмарамі.

— Мабыць заўтра дождж будзе!—падумаў Андрыёнак. Усё яшчэ баючыся, ён вышаў на задворкі і пайшоў па сьцежцы. Раптам ён узьняў галаву і ўгледзіўся пільна на ўсход за сяло, за чорнае поле.

Недзе далёка, бледна ружавела неба, дрыжэла чырвонае сьвятло і ледзь прыкметнае далёкае полымя прабівалася тонкімі языкамі пажару з-за небасхілу.

— Ізноў пажар!—прамармытаў, уздрыгваючы, Андрыёнак. Ён перахрысьціўся і павярнуў па сьцежцы да свайго гумна.

III

Жніўныя работы ў фальварку пана Гжэцкага падыходзілі да канца. Апошняе жыта было зьвезена гэтымі днямі. На фальварку зрабілася ціха, спакойна. Дні рабіліся карацейшымі. Пачыналі дзьмуць з балатоў халодныя вятры. Блізка была ўжо восень.

Пан Гжэцкі, вызваліўшыся ад гаспадарчых клопатаў, пачынаў рыхтавацца да паляўнічага сэзону. Ён сам зьезьдзіў у Пінск, купіў лішнюю дубальтоўку да цэлае калекцыі паляўнічых прылад, што былі разьвешаны ў яго габінэце, рабіў запасы пораху і шроту розных калібраў, пачынаючы ад дробнага на зайцоў і канчаючы буйным, медзьвяжатнікам.

Цяпер ён кожны дзень, прачынаючыся раніцою, наведваў сваіх сабак. Сабакі былі любоўю і слабасьцю пана Гжэцкага. Ён мог цэлыя гадзіны прабаўляць каля іх, трэплючы даўгія шаўковыя іхныя вушы, сам кормячы іх, аглядаючы іхныя лапы, назіраючы за іхным здароўем.

У жніўні нарэшце, прыехала з Варшавы ягоная дачка. Яна даўно ўжо пісала дамоў пра сваё слабое здароўе, і пан Гжэцкі яшчэ з лета раіў ёй кінуць на год унівэрсытэт і прабавіць гэту зіму ў дварэ, на весцы. Але, мабыць, пэрспэктыва даўгое нуднае зімы недзе ў глушы Палесься палохала Яніну Гжэцкую. Толькі калі пан Гжэцкі напісаў ёй пра цікавых гасьцей з Бэрліну, якія вось ужо блізка месяц гасьцявалі ў іхнай Белай Гурцы, яна прыехала сюды і—адразу забылася на шумную Варшаву, на унівэрсытэт.

Госьці сапраўды былі шляхетныя і цікавыя. Праўда, Оскар Штальман занадта ўжо сур'ёзны для выкшталцонага маладога чалавека. Яго сур'ёзна сьціснутыя вусны рэдка калі раскрываліся на фліртоўныя жарты і залёты. Быў ён моцным і замкнёным, і хоць шчырая варшавянка Яніна не магла знайсьці заганы ў цалкам шляхетных манэрах гэр Штальмана, яна неяк гублялася ў яго прысутнасьці і здавалася сабе самой зусім маленькаю дзяўчынкаю.

Гэта, тым часам, ня шкодзіла ёй весьці са Штальманам даўгія гутаркі на тэмы, пачынаючы ад бэрлінскіх тэатраў і канчаючы апошнімі палітычнымі падзеямі.

— Чаго ён прыехаў сюды?—часам думала Яніна,—ён-жа не такі, як гэтыя Штрайбэрг і пан Галомбэк.

Аднойчы яна запыталася пра гэта ў бацькі, але той нічога выразнага не сказаў.

— Госьці...—быў адказ.—Прыехалі за кампанію з панам Галомбэкам, цікавяцца нашым краем. Людзі яны шляхетныя і дужа прыстойныя.

Апошняе Яніна бачыла і сама, але большага пра гэр Штальмана яна даведацца не магла.

Неяк гэр Штальман, пакінуўшы сваю звычайную сур'ёзнасьць і заклапочанасьць, якая апошнімі днямі перарастала ў лёгкую трывогу, сказаў Яніне жартам:

— Я, ведаеце, прыехаў сюды з тымі,—ён паказаў у бок касьцёлу, дзе днямі сядзелі пан Галомбэк і гэр Штрайбэрг,—каб знайсьці тут дужа каштоўны скарб.

Але за гэтымі словамі быў звычайны залётны сьмех і панна Яніна, пачырванеўшы, падумала, што гэтым дужа каштоўным скарбам гэр Штальман лічыць яе.

Зусім іншым быў маладзенькі гэр Клемм. Ён быў таксама вучоным. Панна Яніна даведалася, што ён асыстэнт вядомага бэрлінскага прафэсара Стронга. Гэта ў вачох студэнткі унівэрсытэту дужа ўзьняло Клемма.

Асыстэнт цэлымі гадзінамі мог гаварыць з Янінаю пра ўсякія драбніцы, перасыпаючы гутарку жартамі і сьмехам. Як і Яніна, ён быў заядлым спартсмэнам. Апрача таго, ён крыху ведаў польскую мову і гэта зусім зблізіла яго з Янінаю. Яна пакінула ў спакоі няпрыступнага гэр Штальмана і цэлыя дні бавіла з вясёлым асыстэнтам прафэсара Стронга.

Сёньня яны таксама пайшлі ўдвох на далёкую пагулянку за фальварак. Дом зрабіўся ціхім, бадай што пустым. Гэр Штальман адмовіўся з іміісьці і замкнуўся ў сваім пакоі. Яму трэба было напісаць у Бэрлін якія-колечы лісты. Пані Ядвіга нейкі час рабіла са Стэфкаю па доме, а потым таксама зачынілася ў пакоі і занялася новымі раманамі, што Яніна прывезла з Варшавы.

Пад вечар да пана Гжэцкага прышоў з сяла настаўнік Смольненскае школы Ўтонскі.

Ён далікатна пацалаваў руку пані Гжэцкай, калі яна вышла прывітацца з ім, і паціснуў руку гаспадару. Але пані Ядвіга хутка выйшла; спаслаўшыся на тое, што ёй нездаровіцца, і пакінула пана Ўтонскага з гаспадаром адных.

У габінэце пан Гжэцкі падсунуў па-сяброўску Ўтонскаму крэсла і сыгары і сеў сам на кушэтцы пад асартымэнтам карабінаў, шабляў і стрэльбаў, разьвешаных па сьцяне.

— Ну, як справы, пане носьбіт польскае культуры на крэсах?—запытаў ён, пускаючы клубы пахучага дыму.

Ён глядзеў на Ўтонскага лагоднымі вачыма чалавека, які адпачывае, пазбавіўшыся ад усіх і ўсялякіх клопатаў. Грубаваты твар ваякі за апошнія гады крыху патаўсьцеў, зьмякчыўся і мабыць мала хто з былых вайсковых таварышоў—лёгіянэраў пазнаў-бы ў ім калішняга паручніка польскае арміі. Да рэчы, Юзэф Гжэцкі цяпер ужо і ня быў паручнікам. Вось ужо другі год, як пан Гжэцкі носіць чын палкоўніка. У ягоным габінэце вісіць вайсковая форма „довудцы пулка"—прыгожы шынэль, на пагонах абарончага колеру срэбныя нашыўкі, тры зоркі і ожал. Тыя-ж тры зоркі з белым арлом над імі—на шапцы пыхлівай, упэўненай, як сам гаспадар.

— Як маецца пан настаўнік?—удругі запытаўся ва Ўтонскага Гжэцкі.

— Нішто. Дзе-ж вашы госьці, пане Гжэцкі? Дзе панна Яніна?

— Госьці заняты сваёю вучонаю працаю ў ксяндза, а Яніна з панам Клеммам пайшлі яшчэ зраньня гуляць.

Настаўнік нездаволена скрывіўся, пачуўшы асыстэнтава прозьвішча. Пан Гжэцкі заўважыў гэта. Ён даўно ўжо ведаў, што Ўтонскі кахае яго дачку і часта сьмяяўся з гэтага. Каханьне было зусім безнадзейнае. Настаўніку нават рэдка калі даводзілася бачыць панну Яніну. Яна ня часта прыяжджала з Варшавы.





Гэта ўсё тым часам ня шкодзіла самым блізкім адносінам паміж асаднікам і настаўнікам. Пана Ўтонскага ў фальварку лічылі за свайго чалавека. Ён часта заходзіў да асадніка па справах, зьвязаных з агульным жыцьцём на крэсах.

— Справа нішто,—ізноў паўтарыў настаўнік,—але са школаю ня ўсё добра. Пачаўся навучальны год, а ў школе вучняў зусім мала.

Пан Гжэцкі настаражыўся і мацней засоп люлькаю.

— Сяльчане ня хочуць пасылаць у польскую школу дзяцей. Нават ёсьць факты адкрытага агітаваньня супроць школы. Так, напрыклад, селянін Лук'янец неяк сказаў: „Каб мой сын ня вучыўся ў беларускай гімназіі ў Вільні, дык я-б ня пусьціў яго зусім вучыцца". Ён кажа, што лепш быць нявучаным, чым ламацца чужою моваю.

— Гмм... так, так...— Пан Гжэцкі чыркануў у свой занатоўнік прозьвішча Лук'янца і сказаў пану Ўтонскаму:

— Прыдзецца штрафаваць тых, хто не пасылае дзяцей. Вы там паведамеце, пане Ўтонскі, у гміну прозьвішчы. Гэтых хлопаў, відаць, толькі прымусам і возьмеш.

Ён раззлавана выбіў люльку і, адкінуўшыся, на сьпінку кушэткі, загаварыў:

— Не разумею... Куды яны толькі могуць дзецца са сваёю кароўяю моваю, ня вучачыся ў дзяржаўнай польскай мове? Ну, зразумела тое, што зкамунізаваныя, падбітыя рознымі там цёмнымі асобамі, яны здольны на дывэрсыйныя, супроцьдзяржаўныя ўчынкі. Падпалы, псаваньне тэлеграфных правадоў, нават замахі на цягнікі, пане Ўтонскі, цяпер на ўсходніх крэсах пашырыліся. Але адкуль гэты, так сказаць, хлопскі патрыётызм? Чаму яны так ненавідзяць польскую мову?

Настаўнік задумна ляпаў па стале пустым паляўнічым ладункам.

— Як я разумею,—сказаў ён,—і мая думка падмацована доўгім назіраньнем за тутэйшым людам,—гэта нянавісьць зьяўляецца адваротным бокам аднае мэдалі. У іхных галовах, бачыце, польскі ўрад, мы, на каго яны, трэба сказаць, глядзяць, як на чужых,

і польская мова, польская культура, якую мы нясем у гэты дзікі край—цалкам варожыя. Яны ў сваёй, дзікай сьляпоце бунтуюць супроць гэтага.

— Маеце рацыю, пане Ўтонскі, маеце рацыю.

Пан Гжэцкі задумёна ўтупіўся ў разьвешаную зброю і колькі хвілін сядзеў нярухома. Потым рашуча ўстаў з кушэткі і, ляпнуўшы настаўніка па плячы, сказаў:

— Але-ж гэта глупства, пане Ўтонскі. Ці праўда? Мы, праваднікі польскае культуры тут, на крэсах, і сваю задачу выканаем. Ці праўда, пане Ўтонскі?

Словы пана Гжэцкага перапыніла пакаёўка Стэфка. Яна прасунула ў дзьверы свой хітранькі тварык і адрапартавала:

— Ту до пана пшышлі хлопі... Хцелі-б зобачыць пана.

Пан Гжэцкі ўзяў пад руку настаўніка і пайшоў з ім да гасьцей. Праходзячы каля жончынага пакою, ён пастукаў у дзьверы і крыкнуў:

— Ядвіга, спасылай Стэфку па Яніну і пана Клемма! Хутка вечар. Яны занадта ўжо загуляліся.

І зноў, назваўшы асыстэнтава прозьвішча, пан Гжэцкі пачуў, як ва Ўтонскага ўздрыгнула рука. Вясёлая, хоць крыху гіранічная, усьмешка, зьявілася на яго твары. Ён жартаваў з настаўнікам, ціснуў яму руку. Сказаць па-праўдзе, ён любіў гэтага свайго карыснага чалавека тут, на ўсходніх крэсах, дзе ён гэтак добра, моцна абаснаваўся.

У прыхожай чакалі тры селяніны. Гэта былі таксама свае людзі ў фальварку. Пан Гжэцкі бадай па-сяброўску падаў руку каранастаму Панасу Андрыёнку і ўсім астатнім. Яны нізка пакланіліся пану Гжэцкаму, ціснучы ў руках шапкі.

Пан Гжэцкі прапанаваў усім сесьці і сам, зьмясьціўшыся насупраць іх, пачаў гутарку. Яго голас і паводзіны адразу зьмяніліся. Нават манэры былі ня тыя. Настаўнік, стоячы каля вакна, праз якое было відаць поле, сяло і кавалак балота з хмызьняком каля яго, дзівіўся:

— Які-ж лоўкі гэты Юзэф! Якім-жа ён умее быць простым з гэтым народам! Мабыць яны зараз лічаць сябе роўнымі з ім.

Пан Гжэцкі быў у гуморы. Ён перасыпаў гутарку жартамі, сьмехам. На кожны яго жарт адказваў пачцівы хіхат. Кашчавы дзядок з бародкаю, падобнай да абскубанае мяцёлкі, закрываў,





сьмяючыся, рот рукою і сядзеў на самым кончыку прапанаванага крэсла. Вальней за ўсіх трымаўся Панас Андрыёнак. Гэта быў самы моцны гаспадар і пан Гжэцкі звярачаўся да яго часьцей, чым да ўсіх. Ён частаваў яго тутунём, ляпаў яго па плячы, пытаўся пра здароўе сям'і.

Гаспадары прышлі да асадніка з просьбаю.

— Так што мы ізноў пана будзем прасіць... Няхай нам пан даруе,—гаварыў за ўсіх Панас Андрыёнак.—Дужа ўзьдзячны за поплаў, які пан сёлета быў ласкавы нам даць?...

Пан Гжэцкі ласкавым рухам спыніў Андрыёнка. Ён нічога не шкадуе для добрых людзей. Ён дужа рады, што ў сяле ў яго ёсьць добрыя прыяцелі. Для іх ён ўсё можа зрабіць... А лесу ён бязумоўна дасьць. Гэта як ёсьць.

— Ну вось, пане Ўтонскі!—вясёла сказаў ён настаўніку.— Ня гэткія ўжо дрэнныя тут людзі!

І, зварачаючыся да сялян, загаварыў:

— А як, сябры мае, наконт школы? Мы тут з панам настаўнікам гаварылі—ня хочуць у вас, я чуў, некаторыя пасылаць дзяцей.

— Глупства!—адказаў трэці селянін. Быў ён надзвычай пахмуры на выгляд. Паасобнымі кусткамі расла барада, якая пачынала ўжо сівець. Ад насупленых калматых брывей вочы здаваліся суровымі, злоснымі. Але цяпер у іх сьвіцілася мяккасьць і пачцівасьць.

— Глупства,—сказаў ён.—Гэта ў нас некаторыя народ баламуцяць. А так—мы ня супроць. Як-жа дзяцей без навукі пакідаць? Мова—яна польская, дзяржаўная. З ёю куды хочаш пойдзеш.

— А ўжо-ж, а ўжо-ж!—заківаў сівенькі дзядок.—Куды там з нашаю мужычаю моваю паткнешся?

Настаўнік адарваўся ад вакна.

— Ды пра гэтых дзядзькоў дрэннага нельга нічога сказаць,—заўважыў ён.—Якраз вось Андрыёнкавы дзеці наведваюць школу стала. Таксама Макарэвічавы.

Ён паказаў на пахмурага селяніна.

— Але ёсьць некаторыя людзі...

Панас Андрыёнак рашуча прысунуўся да асадніка і загаварыў.

— Я вам скажу, пане... Ёсьць у нас такі народ, ёсьць!..

Апошнія словы ён праказаў бадай шэптам. У прыпадку прыхільнасьці ён паклаў на тлустую каленку пана Гжэцкага сваю руку. Пан Гжэцкі грэбліва скрывіўся і няпрыкметна адсунуўся.

— Я вам скажу, пане!—працягваў, хвалюючыся і зьбіваючыся Панас Андрыёнак.—Цёмны народ цяпер пайшоў. Баламуцтва багата разьвялося. Зладзеяў у народзе поўна... Вось, скажам, падпалы. У пана надоечы сена спалілі...

Пан Гжэцкі паляпаў Панаса па плячы:

— Глупства, глупства, сябры мае! Я-ж ведаю, што гэта зрабілі цёмныя людзі. Каб усе былі гэткія, як вы, дык ня было-б гэтага.

— Вось, вось!—узрадваўся Андрыёнак.—Я-ж і кажу,—цёмныя асобы, баламуты, зладзеі...

І, устаўшы з крэсла, ён крыкнуў:

— Жыцьця на сяле няма ад іх! Ня можам з такімі людзьмі гаспадарыць! Крадзеж, сваркі... Галетнікі побач з тэбою жывуць і дыхаць табе не даюць! Сёньня, скажам, вас спалілі, а заўтра, крый божа...

Панас Андрыёнак перахрысьціўся.

Гаспадары ўсхвалёвана заківалі галовамі і пасунуліся бліжэй да асадніка. Сівенькі дзядок нахілўся да пана Гжэцкага і таемна зашаптаў:

— Надумалі мы сяло на хутары разьбіць... Каб, значыцца, гаспадарыць спакайней...

— Камасацыі хочам,—растлумачыў пахмура Макарэвіч.

Твар у пана Гжэцкага ажывіўся. Нават настаўнік адыйшоў ад вакна і сеў, зацікаўлены, каля сяльчан.

— Ня будзе ў цябе галота пад бокам сядзець...—разважаў Андрыёнак.—Зямля ў адным месцы... ні табе палосак, ні закошваньня! Адзін на сваім кавалку, як пан.

— Маеце рацыю, сябры мае. Маеце рацыю!

Пан Гжэцкі задумаўся. Потым устаў і, прайшоўшыся па пакоі, сказаў гаспадаром:

— Добрую справу надумалі. Урад вам дасьць крэдыт на перабудову. Будзеце гаспадарамі. Наладзіце спраўную гаспадарку, запануеце.





— Яшчэ як!—захоплена сказаў Андрыёнак.—Ды мне-б толькі, каб зямля разам была! Каб не сядзеў пад бокам усякі галатыр!—дык я-б...

Андрыёнак не знаходзіў слова, каб выказаць, як бы ён гаспадарыў, выдзяліўшыся з сяла.

— Толькі вось што, сябры мае...

Пан Гжэцкі спыніўся каля гаспадароў і ўзьняў угару палец. Якраз у гэты момант у пакой увайшла пакаёўка Стэфка. Яна пачала абціраць мэблю, муркаючы нейкую песеньку, пазіраючы на гаспадароў, на Гжэцкага і на настаўніка.

— Пойдзем, сябры мае, да мяне ў габінэт,—абарваў пан Гжэцкі.

Гаспадары ўсталі і гужам пацягнуліся за асаднікам. У прыхожай засталася адна Стэфка. Яна адчыніла вакно, каб праветрыць поўны тутунёвым дымам пакой, і пачала выціраць забружаную падлогу. Але як толькі ляпнулі дзьверы ў габінэт пана Гжэцкага, Стэфка кінула работу. Яна падкралася пад дзьверы габінэту і пільна прыслухалася.

Праз дзьверы чуўся прыглушаны Андрыёнкаў і задаволены асадніцкі голас. Ішла шчырая размова гаспадароў з асаднікам. У гутарцы мільгалі прозьвішчы сялян і Стэфка, пачуўшы адно, уздрыгнула.

У габінэце зашумелі. Загрукалі крэслы. Стэфка адбеглася ад дзьвярэй і, схапіўшы хустку, выбегла на вуліцу.

Ужо вечарэла. Стэфка ў цемры зьбягала па шэрай сьцежцы з гары, захутваючыся ў хустку. З сяла былі чутны галасы. Рыпала гармонь. Сьмяяліся дзяўчаты.

---

Селавы гарманіст Ігнатовіч ужо канчаў бясконцую кадрыль, калі яго кранўў за плячо таварыш, клічачы з кругу.

— Стэфка, Стэфка прышла!—загучэлі дзявочыя галасы. Дзяўчаты абкружылі шчыльнаю сьцяною фальварковую пакаёўку. Стэфка бадай ня ўмела гаварыць пабеларуску і шпаркая пазнанская гутарка пачужому гучэла ў дзявочым крузе. Гэта, аднак, не замінала селавым хлапцом жартаваць з ёю, запрашаць яе на польку, што меліся заказаць гарманісту.

— Кінь-жа ты кабызіцца! Пойдзем 'саскачамі—упрашаў яе бялявы хлопец.—Мне Ігнат дазволіў.

Ён кіўнуў на гарманіста. У крузе зарагаталі і Стэфка па-чырванела. Усе ведалі, што палячка-парабчанка ходзіць на сяло бадай дзеля аднаго Ігнатовіча. Нават сам гарманіст не хаваў свайго каханьня з ёю.

На сёнешні дзень, аднак гульня спынялася. Ігнатовіч, пагаварыўшы з таварышом, рашуча зашпіліў на рамяні гармонь і пачаў разьвітвацца:

— Час мне ісьці...

У крузе нездаволена зашумелі, але Ігнатовіч упарта адмаўляўся іграць. Ён, як хвацкі ўхажор, узяў Стэфку пад руку і пайшоў з ёю па сяле. Таварыш, які яго выклікаў з кругу, пайшоў разам з ім.

Стэфка, нешта шпарка гаварыла хлапцом, мяшаючы беларускія словы з польскімі і ўсё захутваючыся ў хустку. Ігнатовіч спакойна слухаў яе. Ён толькі час ад часу перакідваў гармонь з пляча на пляче і бурчэў:

— Вось гады!.. Вось-жа гады, трасца ім!..

Заварочваючы са Стэфкаю да свае хаты, ён сказаў Кандрату:

— Гэта пытаньне трэба разабраць сёньня-ж. Трэба адразу даць адпор. Сёньня мы зьбярэмся. Стэфка зробіць інфармацыю. Толькі асьцярожна трэба... Зьбірацца будзем на старым месцы.

— Добра.

Кандрат павярнуўся і пайшоў далей на канец сяла. Быў ён заклапочаны і не адказваў на воклічы хлопцаў, што сядзелі з дзяўчатамі на прызбах цёмных ужо хат. На небе прабіваліся першыя зоркі і крывавы, на старажытны тарч падобны, месяц памалу вылазіў з суседніх зыбучых балатоў.

---

— Жыцьцё падобна на кінематаграфічную істужку. Людзі робяць іх тысячы, мільёны—шэраг стандартных фільмаў на два тоны: чорны і белы. Са спалучэньня гэтых тонаў на экране выходзяць трагедыі, камэдыі, фарсы, драмы, але канец іхны бадай заўсёды аднолькавы, бо людзі звыклі да стандарту. У амэрыканскіх фільмах, скажам, усё канчаецца пацалункам.





— Ёсьць яшчэ каляровыя фільмы. Я бачыла.

— Так. Некаторыя робяць жыцьцё багатым на колеры, фарбы. Тады экран ажывае. Жыцьцё робіцца цікавейшым. Для гэтага трэба вялікае штукарства і ўменьне. Каляровых фільмаў у нас мала.

— Трэба, каб ўсе істужкі былі каляровымі?

— Неабавязкова. У кожным фільме ёсьць свая сыстэма, свой пэўны канец. Трэба, каб людзі не рабілі гэту сыстэму паводле стандарту. Трэба, каб канец ня быў звычайны. У Оскара Штальмана істужка на два тоны: чорны і белы. Гэта выглядае дужа сурова. І сыстэма яго суровая. Канец-жа будзе моцным, бо чалавек ён моцны.

— Вы каб хацелі-б, ваш фільм быў каляровым?

— Не, я хацеў-бы пусьціць яго ў адваротны бок. Дайсьці да таго месца, дзе мусіць быць пачатак, а потым пусьціць яго іначай, паводле пэўнай сыстэмы з канцом, якога-б я жадаў.

— Фільмы, якія пускаюць у адваротны бок, дужа сьмешныя. Яны багаты на раптоўнасьці і выглядаюць нерэальна і камэдыйна.

— Праўда. Я гэтага ня хочу. Прабачце за недарэчную гутарку.

Карль Клемм і панна Яніна дужа позна вярталіся да фальварку. Яны абхадзілі за дзень бадай усе ваколіцы і дужа стаміліся. Панна Яніна абапіралася на асыстэнтаву руку і тулілася да яго. Падвечар узьняўся халодны вецер, і панна Яніна ўздрыгвала ад холаду. Карль Клемм аддаў ёй свой плашч.

— Але-ж вам будзе холадна!—засупярэчыла яна.—Ведаеце, што я прыдумала? Давайце будзем ісьці пад адным плашчом.

І, сьмяючыся з свае выдумкі, панна Яніна загарнула ў плашч Клемма. Пад бледным месячным сьвятлом здавалася, што ідзе адзін чалавек з двума галовамі—мужчынскай і жаночай.

— Я ня ведала, што вы тут жылі,—сказала панна Яніна.

— Я, уласна гаворачы, тут мала бываў. Але нябожчык-бацька час-ад-часу прыяжджаў сюды. З пачатку сусьветнае вайны ён жыў тут бяз выезду... да самае сьмерці.

Блукаючы па ваколіцах, панна Яніна з Клеммам найшлі на руіны калішняга невялікага фальварку, што некалі стаяў над Ясельдаю. Гэта былі рэшткі дому і драўляных гаспадарчых

пабудоў, якія былі калісьці зьнішчаны пажарам. Сяляне парасьцягалі цэглу. Засталася адна разбураная напалову сьцяна, што ўзвышалася на пагорку.

Калісьці гэта быў маёнтак нямецкага прафэсара Бэрнгардта Клемма. Вайна захапіла прафэсара ў ім. Фронт па некалькі разоў праходзіў па гэтай мясцовасьці і нішчыў усё навокал. Але прафэсар упарта не хацеў выяжджаць з маёнтку. Усёроўна ў Нямеччыну папасьці было цяжка. Лісты ад яго не даходзілі да бэрлінскіх таварышоў, да яго сына. Потым даведаліся, што прафэсар Клемм быў расстраляны расійцамі, як нямецкі шпэг. Яго абвінавацілі ў тым, што ён нібыта падаваў праз раку сыгналы нямецкім войскам.

Усё гэта Карль Клемм расказаў паньне Яніне, калі яны стаялі на руінах фальварку. Паказваючы на абгарэлую, аблупленую вятрамі і дажджамі сьцяну, асыстэнт гаварыў паньне Яніне:

— Вось тут расстрэльвалі бацьку. Адзін чалавек з сяла, які блізка ведаў яго, бачыў, як расстрэльвалі. Расійскі афіцэр біў старога перад расстрэлам. Ён, бачыце, стараўся выведаць у бацькі няіснуюючыя ваенныя тайны...

Ад абгарэлых руін веяла пусткаю і разбурэньнем. Асыстэнт пацягнуў прэч ад іх панну Яніну. Бадай усю дарогу пасьля гэтага ён маўчаў, і панна Яніна далікатна старалася не парушаць яго задумы.

Толькі ўзьнімаючыся на гару да фальварку, асыстэнт зрабіўся па-ранейшаму вясёлым, якім прывыкла бачыць яго ў фальварку панна Яніна.

— Зірнеце,—паказаў ён навокал рукою.—Чым ня кадр з кінофільму? Залітая месячным сьвятлом рака, лес. Урачыстая цішыня. Гэты фільм на экране добрага эўропейскага кіно-тэатру мусіў-бы закончыцца пацалункам.

Але пацалунку ня было. Панну Яніну і Клемма дагнала, запыхаўшыся, Стэфка. Яна бегла ў фальварак з сяла. Параўнаўшыся з імі, яна сказала:

— Паноў чакаюць дома. Там аб вас трывожацца. Я вас усюды шукала!..

Карль Клемм адхіснуўся ад панны Яніны і прысьпешыў крок.

— Сапраўды, мы з вамі сёньня загуляліся, панна Яніна. Пані Ядвіга будзе трывожыцца. Нядобра...





Каля самага фальварку яны сустрэлі сялян і настаўніка. Сяляне зьнялі шапкі і нізка пакланіліся, праходзячы, а Ўтонскі спыніўся каля панны Яніны, ледзь кіўнуўшы асыстэнту.

— Я даўно ўжо ня бачыў вас, панна Яніна,—ціха сказаў ён.—Можна падумаць, што вы ўнікаеце мяне. Чым я правініўся перад вамі, Яніна?

Панна Яніна нездаволена зірнула на Ўтонскага. Але хутка яна ізноў засьмяялася і вясёла адказала:

— О, роўна нічым, пане Ўтонскі! Мы сёньня позна гулялі з панам Клеммам. Наведалі шмат цікавых мясьцін. Нам было так весела.

— Я гэта бачу, панна!—пахмура сказаў настаўнік.—Бачу і...

— Што такое?—узьняла броўкі панна Яніна. Яна акінула пана Ўтонскага насьмешлівым позіркам і пацягнула за руку асыстэнта.

— Хадземце, гэр Клемм! Нас чакаюць.

Настаўнік застаўся адзін на белай сьцежцы. Белы месяц вісеў над сялом. Цяпер ён ужо ня быў падобны на старажытны тарч. Ён быў больш падобны на расьпечанае да-бела гарматнае ядро, выпушчанае з шалёнаю хуткасьцю і застыглае раптам у пустым, халодным небе.

(Працяг будзе).